ЛіМ

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 3 (4547) 22 студзеня 2010 г.

## У нумары:





Факсімільнае выданне Слуцкага Евангелля выйшла ў свет у 2009 годзе. Нягледзячы на тое, што яно неаднаразова згадвалася ў гістарычных крыніцах, працах даследчыкаў гісторыі і культуры Беларусі, глыбока і дасканала помнік да нашага часу не вывучаны. Але місіянерская праца над кнігаю як тады, у далёкім ад нас 1581 годзе, калі ствараўся арыгінал Слуцкага фаліянта, і цяперашняя вымяраецца, відаць, адным і тым жа: духоўнай натхнёнасцю, незвычайнай карпатлівасцю ды ўсяленскай любоўю.

Менавіта гэтае факсімільнае выданне — быццам аўтарскі аўтограф надзвычай творчага калектыву Выдавецтва Беларускага Экзархата —лаўрэата прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь “За духоўнае адраджэнне” 2009 года.



# Кніга як малітва

Помнік нашага пісьменства XVI ст. — Слуцкае Евангелле — насамрэч унікальны. Як і сама гісторыя яго з’яўлення на свет і наступнага вяртання да нас, беларусаў. Пасля яго напісання князем Юрыем Алелькавічам, сваяком апякункі нашай зямлі, святой Сафіі Слуцкай, Евангелле захоўвалася ў Свята-Троіцкім слуцкім манастыры, па ім маліліся сотні людзей — нашых дзядоў і прадзедаў. Пасля Евангелле знікла, згубіўшыся ў лабірынтах гісторыі недзе на пачатку 1940-х гадоў. Але, зрабіўшы некалькі гістарычных паваротаў, у час вяртання да святыняў яно цудам явілася. У 2003 годзе падчас X Мінскіх епархіяльных чытанняў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт прадставіў найкаштоўнейшы арыгінал беларускай святыні. Яго прынесла святару Мінскай епархіі адна прыхажанка. Была праведзена экспертыза, якая пацвердзіла сапраўднасць кніжнага шэдэўра, які вырашана было захаваць для нашчадкаў. Нацыянальная бібліятэка Беларусі выйшла з ініцыятываю стварэння электроннай копіі Евангелля. Але папяровая, больш блізкая да арыгінала, версія таксама запатрабавала сваёй прысутнасці ў духоўнай прасторы.

Факсімільнае выданне ўяўляе сабою дакладную копію рукапіснага помніка. Пачатковыя літары і назвы аформлены традыцыйным раслінным арнаментам з выкарыстаннем кінавары і золата. І нават матывы афармлення пераплёту адпавядаюць нацыянальным асаблівасцям Слуцкага краю таго часу. Па ўзроўні выканання выданне не мае аналагаў у Беларусі, ажыццёўленае накладам 500 экземпляраў.

Між тым, і дзесяцітысячныя наклады ў Выдавецтве Беларускага Экзархата — не рэдкасць, хутчэй заканамернасць і нават — выдавецкі феномен: кожны год агульныя тыражы тут падвойваюцца. Хто яшчэ з выдаўцоў пахваліцца такім попытам на сваю прадукцыю? А кніжныя серыі Выдавецтва Беларускага Экзархата разыходзяцца досыць хутка і распаўсюджваюцца не толькі ў Беларусі, а і ў Расіі, па нашу літаратуру прыязджаюць калегі з Чэхіі, Германіі, Польшчы, Прыбалтыкі. Рэдактар Аляксандр Бяганскі тлумачыць: у выдавецтва маецца унікальная сістэма экспедзіравання. Вялікагрузныя машыны, абсталяваныя пад кнігарні (там жа прадаецца і царкоўнае начынне), ездзяць па ўсёй Беларусі і па-за яе межамі. Галоўныя пакупнікі — вернікі. Але розгалас пра асветніцкія кнігі распаўсюджваецца досыць хутка.



Чатыры разы — у 2006, 2007, 2008 і 2009 гадах выдавецтва было адзначана вышэйшай узнагародай на рэспубліканскім конкурсе “Мастацтва кнігі” — “Залаты фаліянт”. Акрамя таго, паводле вынікаў VI Міжнароднага конкурсу дзяржаў-удзельніц СНД “Мастацтва кнігі” з сямі ўзнагарод, якія атрымала Беларусь, дзве належаць Выдавецтву Беларускага Экзархата. Дыплом I ступені — за кнігу “Праваслаўная ікона Расіі, Украіны, Беларусі”. Разглядаю адзін за адным фаліянты апошніх гадоў. Знаходкі — і ў змесце, і ў афармленні. Вось, кніжыца “Отче наш. Молитва Господня”. Яна створана паводле адной толькі малітвы, якую павінен ведаць кожны — “Ойча наш”. Вялікія выразныя літары, найвыдатнейшыя ілюстрацыі яркімі, сумяшчальнымі фарбамі. Тут надзіва простыя і зразумелыя тлумачэнні амаль да кожнага царкоўнага слова і паняцця; кніга не тоўстая, не вялікая фарматам, каб дзіцяці няцяжка было насіць, і асобна ў кожнай — маленькі анёл як закладка паміж старонкамі. Зроблена так, каб кніга для дзіцяці была чымсьці дарагім! Пры гэтым адчуваецца светлы, шчыры погляд на прызначэнне кнігі і на жыццё як аўтара, так і мастака. У іх творчым свеце хочацца затрымацца даўжэй — бо ў свеце жорсткасці і насілля, які прапануе масавая літаратура, ужо надакучыла. А тут камфортна і спакойна, і нават у кнігарні пачуваешся як у храме. Акрамя багаслоўскіх, царкоўных кніг, паліцы выдавецкай кнігарні ўпрыгожваюць філасофскія, мовазнаўчыя кнігі, кнігі па мастацтве. Тут убачыш і “Толковый словарь живаго Великорусскаго языка” У. Даля, і “Біблію ў гравюрах Гюстава Дарэ”. Паліцы перанасычаны выданнямі на любы ўзрост і густ. А першачаргова, утварыўшыся больш за 10 гадоў таму, выдавецтва імкнулася задаволіць попыт на духоўную літаратуру! Але выдавецтва пачало расці і ўзнікла неабходнасць у літаратуры для дзяцей і падлеткаў, духоўна-асветніцкай і навукова-папулярнай. З’явіліся найцікавейшыя серыі богаслужэбных, свята-айчынных, багаслоўскіх, рэлігійна-філасофскіх кніг. Да прыкладу, у серыі “Рускія філосафы XX стагоддзя” прадстаўлены Ільін, Франк, Булгакаў. Яшчэ плануецца выдаць Салаўёва, Гогаля. З’явіліся зборы твораў святых айцоў, тых, хто акрамя ўзораў свайго падзвіжніцтва, пакінуў нашчадкам літаратурныя працы: свяціцель Васіль Вялікі, Рыгор Багаслоў. Доўга не магла адысці ад палічкі з “Полным собранием творений святителя Иоанна Златоуста” — 12 тамоў у чатырох масіўных кнігах. Гэта — таксама праект Выдавецтва Беларускага Экзархата. Як і праект “Православные святыни мира». Кніг беларускіх аўтараў, даследчыкаў, паэтаў і філосафаў — багата. Маецца унікальная літаратура па гісторыі і культуры славян на тэрыторыі Беларусі. Прычым, з глыбокімі, энцыклапедычнымі ведамі. Гэта найперш кніга “Обретение образа”, якая паказвае праваслаўную беларускую культуру. Альбо “О слове преображенном, о слове преображающем” — нарыс па гісторыі кніжнасці на тэрыторыі нашай краіны ў XI — XVII стст. Для дзяцей, між іншым, падрыхтавана і выдаецца серыя “Твое святое имя”. Для падлеткаў — “Русские классики — детям”: А. Купрын “Чудесный доктор”, І. Шмялёў “Светлая страница”…

За 10 гадоў выдавецтва выпусціла літаратуры агульным тыражом больш як 13 мільёнаў экземпляраў. Але гэта — не толькі друкарскі, хутчэй за ўсё — духоўна-асветніцкі цэнтр. І сацыяльна-значныя праекты, як “Сям’я. Адзінства. Айчына”, прыйшліся па душы многім. Калектыў шчыльна супрацоўнічае з бібліятэкамі і папаўняе іх фонды праз бібліятэчны калектар.

Напэўна, многія дзівіліся таму, як хутка выдавецтва ўвайшло ў нашае жыццё. Яго кнігі прадстаўлены на ўсіх кніжных кірмашах, багата іх у крамах і цяпер ужо — у хатніх бібліятэках! А на самай справе такую вялікую працу — у год тут выпускаецца больш як сотня найменняў кніг — робяць пяцьшэсць штатных супрацоўнікаў. Аляксандр Бяганскі тлумачыць: “Бог, калі стварыў гэты свет, у яго аснову паклаў закон любові, і калі мы яго трымаемся, то можам дасягнуць вяршыняў духу. У гэтым і унікальнасць — кніга тут свараецца як малітва. Як аснова нашай культуры і як галоўнае багацце роднага краю”.

Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: выканаўчы дырэктар Выдавецтва Беларускага Экзархата У. Грозаў прэзентуе Слуцкае Евангелле; узнагароды конкурсаў “Мастацтва кнігі”.

Фота Кастуся Дробава

## Пункцірам

● Міністэрства культуры нашай краіны ініцыіравала праект "Культурная сталіца Беларусі", мэта якога — падтрыманне культурнага жыцця рэгіёнаў. На працягу года малыя гарады, названыя культурнай сталіцай, будуць станавіцца пляцоўкамі для канцэртных выступленняў лепшых калектываў, артыстаў, прадастаўляць залы для выставак работ мастакоў. Першым такім горадам стаў адзін з гісторыка-культурных цэнтраў — старажытны Полацк, які ўчора афіцыйна атрымаў статус "Культурная сталіца Беларусі". На працягу года ў Полацку пройдуць музейныя і кніжныя выстаўкі, плануюцца канцэрты лепшых салістаў і калектываў Беларускай дзяржаўнай філармоніі, а Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі летам запросіць на свае традыцыйныя мерапрыемствы — "Шэдэўры опернага мастацтва пля сцен старажытнай Сафіі".

● Экспазіцыя Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка "Нясвіж" папоўнілася копіямі партрэтаў Радзівілаў. Пра гэта паведамляе БелТА. 15 студзеня адбылася ўрачыстая перадача карцін і электронных версій арыгіналаў, якія захоўваюцца ў музеях Літвы, беларускаму музею. Сярод копій — партрэт маршалка ВКЛ князя Альбрэхта Радзівіла (1558—1592). Нясвіжская карцінная галерэя складалася са 159 партрэтаў. У Беларусі да нашага часу захавалася толькі 75. Астатнія знаходзяцца ў калекцыях у Літве, Польшчы, Расіі.

● Створаны аргкамітэт па святкаванні стагоддзя з дня нараджэння ўраджэнца Беларусі, амерыканскага прафесара, аднаго з вынаходнікаў ракетнага паліва Барыса Кіта. У аргкамітэт увайшлі вучоныя Радзім Гарэцкі, Адам Мальдзіс, Лідзія Савік, супрацоўнік Міністэрства культуры Ганна Гамеза, начальнік аддзела культуры Навагрудскага райвыканкама Аляксандр Карачан і іншыя. А ўзначаліў яго пісьменнік Васіль Якавенка. Юбілей Барыса Уладзіміравіча будзе адзначацца 6 красавіка. Плануецца правесці святочныя вечары ў Мінску і Навагрудку, навуковую канферэнцыю, выданне паштовага канверта і срэбнай манеты ў гонар юбіляра.

● 29 студзеня адбудзецца творчы вечар лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, пісьменніка Леаніда Дайнекі. Аўтар папулярных гістарычных раманаў, сярод якіх "Меч князя Вячкі" і "След ваўкалака", адзначае сваё 70-годдзе. У імпрэзе прымуць удзел вядомыя беларускія пісьменнікі і артысты. Мерапрыемства пройдзе ў мінскім касцёле святых Сымона і Алены. Пачатак а 18-й гадзіне.

● Ураджэнка Беларусі, паэтэса Вальжына Морт атрымала амерыканскую літаратурную стыпендыю Фундацыі Ленэна, заснаваную ў 1989 годзе. Стыпендыятамі яе становяцца як вядомыя пісьменнікі, так і маладыя аўтары, якія зрабілі ўнёсак у англамоўную літаратуру. Вальжына Морт з 2006 года жыве і працуе ў ЗША. Два гады таму выйшла яе кніга "Фабрыка слёз", якую пераклалі на англійскую мову лаўрэат Пулітцэраўскай прэміі Франц Райт і яго жонка Элізабет. Кніга таксама выйшла ў перакладах на шведскую і нямецкую мовы.

● На тэлеканале "Лад" вярнулася ў эфір "Калыханка" на словы Генадзя Бураўкіна (музыка Васіля Раінчыка). Нагадаем, што ў 2008 годзе "Калыханка" была заменена на новую (словы Алега Жукава, музыка Ізмаіла Капланава). Як адзначыў дырэктар тэлеканала "Лад" Сяргей Кухто, гэта было зроблена з мэтай, каб надаць "Калыханцы" больш сучаснае гучанне. Але пасля такіх перамен пачалі прыходзіць лісты з просьбай вярнуць ранейшую песню.

Падрыхтавалі Павел РАДЫНА і Віктар ЗАЯЦ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# «Сугучча слоў жывых-2009»

Альманах з такою назваю, падрыхтаваны Беларускім рэспубліканскім грамадскім аб'яднаннем "Рускае грамадства" пры падтрымцы Генеральнага консульства Расійскай Федэрацыі ў Брэсце, пабачыў свет у брэсцкім выдавецтве "Альтэрнатыва". Кніга выдадзена па выніках III Міжнароднага фестывалю рускай паэзіі ў Беларусі з удзелам вядомых пісьменнікаў і паэтаў нашай краіны і блізкага замежжа. Уключаны ў зборнік таксама лепшыя творы маладых літаратараў — пераможцаў конкурсу "Мы народжаны для натхнення".

Міжнародны фестываль рускай паэзіі ў Беларусі "Сугучча слоў жывых" стаў асновай святкавання Дзён славянскага пісьменства і культуры. "Рускае грамадства" арганізавала і правяло яго ў Брэсце ў 2006, 2007 і 2009 гадах сумесна з Саюзам пісьменнікаў Беларусі.

Важным складнікам фестывалю стаў рэспубліканскі конкурс маладых паэтаў і празаікаў "Мы народжаны для натхнення", прысвечаны 210-годдзю з дня нараджэння А. С. Пушкіна і 200-годдзю з дня нараджэння М. В. Гогаля, які праводзіўся ў намінацыях "Руская паэзія" і "Малая проза". Лепшых вызначыла міжнароднае журы, якое ўзначаліў намеснік старшыні выканкама Міжнароднага таварыства пісьменніцкіх саюзаў, сакратар Саюза пісьменнікаў Расіі Іван Сабіла.

Пачынаецца альманах "Сугучча слоў жывых-2009" вітаннямі ўдзельнікаў фестывалю ад А. Чапурына — адказнага сакратара Урадавай камісіі па справах суайчыннікаў за мяжою (г. Масква), Сяргея Міхалкова — тагачаснага старшыні выканкама Міжнароднага таварыства пісьменніцкіх саюзаў, Мікалая Чаргінца — старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, Алесі Рудзягінай — старшыні Праўлення Асацыяцыі рускіх пісьменнікаў Рэспублікі Малдова.

Чытач альманаха дакранецца да вяршаў і малой прозы маладых літаратараў і такіх вядомых майстроў паэтычнага слова, як Анатоль Аўруцін (Мінск), Валерый Грышкавец (Пінск), Алесь Кажадуб (Масква), Валянціна Касцішар (Кішынёў), Любоў Красеўская (Брэст), Тамара Краснова-Гусачэнка (Віцебск), Валянціна Паліканіна (Мінск), Іван Сабіла (Масква), Рыгор Сакалоўскі (Мінск).

Аляксандр ЮДЗІЦКІ

## У кантэксце

**На філалагічным факультэце БДУ па ініцыятыве кафедры беларускай літаратуры і культуры адбыліся Дні беларускай культуры, якія мелі на мэце папулярызацыю сучаснай беларускай навукі пра культуру. Вітаючы прысутных, рэктар Белдзяржуніверсітэта акадэмік С. Абламейка адзначыў актуальнасць праблем, звязаных з гістарычным культурным вопытам і гістарычнай памяццю беларускага народа, увасобленых у разнастайных духоўных і матэрыяльных каштоўнасцях, падкрэсліў усеабдымнае развіццё духоўнасці, заахвочванне распаўсюджвання нацыянальнай і сусветнай класічнай культур.**

# Спадчынная свядомасць

Адкрываючы ўрачыстасці, дэкан філалагічнага факультэта прафесар І. Роўда зазначыў, што перад сучасным грамадствам яскрава паўстаюць новыя пытанні, якія непасрэдна звязаны з культурнымі традыцыямі і якія адпавядаюць запатрабаванням дня сённяшняга, калі заўважаецца рэзкае ўзрастанне зацікаўленасці міфалагічнай і фальклорнай спадчынай беларускага народа.

Загадчык кафедры беларускай літаратуры і культуры прафесар Т. Шамякіна і загадчык кабінета-музея народнай культуры прафесар І. Казакова ў сваіх выступленнях на пленарным пасяджэнні закранулі праблемы развіцця беларускага фальклору і міфа, так ці інакш глыбока звязаных з духоўнымі пластамі народнай свядомасці, адзначылі, што беларускія вучоныя сур'ёзна даследуюць глабальныя тыповыя рысы народнага светапогляду ў іх натуральным фарміраванні і развіцці.

На пленарным пасяджэнні, прысвечаным актуальным праблемам развіцця беларускай культуры на сучасным этапе, выступілі госці — вядомыя вучоныя, выкладчыкі іншых вядучых навучальных устаноў. Прафесар Гомельскага ўніверсітэта В. Новак і прафесар Брэсцкага ўніверсітэта І. Швед у сваіх дакладах адзначылі, што разнастайныя формы народнай свядомасці могуць быць спалучаны з плённым вырашэннем вельмі сучасных мэт і задач, а зварот да культурнай скарбніцы міфалагічнай і фальклорнай спадчыны азначае ўвагу да самых глабальных і тыповых рыс народнага светаадчування.

У рамках правядзення Дзён беларускай культуры на філалагічным факультэце адбыўся навукова-практычны семінар "Літаратуразнаўцы БДУ і НАН Рэспублікі Беларусь — школе", на якім перад студэнтамі і выкладчыкамі ўніверсітэта выступілі вядомыя беларускія вучоныя: член-карэспандэнт НАН Рэспублікі Беларусь М. Мушынскі, загадчык аддзела тэорыі і гісторыі літаратуры Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі доктар філалагічных навук М. Тычына, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ прафесар В. Рагойша, супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры НАН Рэспублікі Беларусь кандыдат філалагічных навук Я. Гарадніцкі, прафесар кафедры беларускай літаратуры і культуры А. Бельскі і інш.

Таццяна БЕЛЬСКАЯ

## Імпрэзы

# Калядныя сустрэчы ў Коласавым доме

**Апошнім часам штогод у студзеньскія дні ў гасцёўні Коласавага дома, які з'яўляецца музеем народнага паэта, праводзіцца калядное свята для дзяцей. На яго запрашаюцца школьнікі малодшых класаў, каб такім чынам далучаць дзетак да беларускай народнай культуры, а таксама даць магчымасць праінкнуцца творчай атмасферай сцен, у якіх жыў Якуб Колас.**



Гэтым разам свята наведалі вучні сярэдняй школы № 205 і гімназій № 4 і 18. Яблыку не было дзе ўпасці ў гасцёўні. Каб настроіць аўдыторыю на адпаведны лад, вядучы навуковы супрацоўнік музея Святлана Субат распавяла пра традыцыі святкавання любімых у беларускім народзе святаў — Калядак і Шчадраца. Шмат цёплых слоў было сказана і пра гасцінны дом дзядзькі Якуба. Як вядома, песняр вельмі шанаваў народныя традыцыі, святы.

Творчую праграму адкрыла паэтэса Ніна Галіноўская, якой сёлета спаўняецца 75 гадоў. Нягледзячы на паважаны ўзрост, яна па-ранейшаму прымае актыўны ўдзел у літаратурных мерапрыемствах, з'яўляючыся пастаянным госцем музея Якуба Коласа. Ніна Васільеўна азнаёміла прысутных са сваёй лірыкай для дзяцей, у якой значную частку займае навагодняя тэматыка. Вельмі цікавасць у школьнікаў выклікалі загадкі і смяшынкі. І калі на пачатку свята дзеці выяўлялі пэўную скаванасць, то дзякуючы паэтычнаму слову ў гасцёўні ўсталявалася атмасфера нязмушанасці і весялосці.

Далей — амаль сапраўднае тэатральнае відовішча. Зладжаны творчы калектыў дзіцячага садка № 266 прэзентаваў цэлае карнавальнае дзейства абраду шчадравання. Калектыў гэты складаецца не толькі з супрацоўнікаў установы, але і выхаванцаў. Паводле інсцэніроўкі, да дзеда і бабы завіталі калядоўшчыкі, пераапранутыя ў адпаведныя касцюмы цыгана і жывёл. Вянчала іх суполку яркая калядная зорка. У галоўнай ролі была, безумоўна, гарэзлівая і капрызная каза. Яна ведала сабе цану. "Дзе каза рогам, там жыта стогам! Дзе каза нагой, там жыта капой!" Але каб заслужыць у гаспадароў пачастунак, калядоўшчыкам давялося паказаць усе свае творчыя таленты ў спевах, танцах, акцёрскім майстэрстве.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

На здымку: супрацоўніца музея Святлана Субат і творчы калектыў дзіцячага садка № 266.

Фота Настассі Салаўёвай

# Пражыў дзве сотні роляў

## За падзеяй

**На доме па вуліцы Русіянава ў Мінску, дзе жыў народны артыст Беларусі Міхаіл Пятроў, усталявана мемарыяльная дошка. Падчас яе ўрачыстага адкрыцця прадстаўнікі сталічнай грамадскасці, блізкія людзі ды калегі таленавітага майстра ўспаміналі шматграннае аблічча акцёра — у жыцці, на сцэне, у кіно і на тэлеэкране.**




У 1960 годзе Міхаіл Пятроў скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут, атрымаў размеркаванне на працу ў Рэспубліканскі тэатр юнага гледача. Тут ён праслужыў каля 45 гадоў. А яшчэ за гэтыя гады плённай акцёрскай творчасці шмат здымаўся ў кіно, на тэлебачанні. Увогуле на сцэне і экране пражыў ён больш як 200 роляў. У 2005-м жыццё Міхаіла Пятрова трагічна абарвалася...

Дзве сотні роляў... Ад вясёлых персанажаў беларускіх казак да мудрага блазна-філосафа Фэста ў шэкспіраўскай "Дванаццатай ночы"... Як тут усё пералічыць! У бягучым рэпертуары ТЮГа іграў герояў пастановак "Маленькі лорд Фаўнтлярой", "Палачанка"... У спектаклі "А зоры тут ціхія..." паводле вядомай аповесці Б. Васільева ў 68-гадовага акцёра была галоўная роля старшыны Васкова. За месяц да гэтай прэм'еры Міхаіл Пятроў загінуў...

Мемарыяльную дошку з выявай незабыўнага артыста стварыў скульптар Міхаіл Інькоў.

Я. КАРЛІМА

Фота Кастуся Дробава

## Між іншым

# Альбом — адмысловы

Спявак Зміцер Вайцюшкевіч працуе над новым альбомам. Яго складуць песні на вершы сучасных шведскіх паэтаў у перакладзе на беларускую мову. Сярод аўтараў — Катарына Фростэнсан, Іда Бёр'ель, Кенэт Клемец. Зміцер Вайцюшкевіч запэўнівае, што новы альбом будзе значна адрозніваецца ад папярэдніх. Да традыцыйных інструментаў дададуцца перкусіі, ксілафон. Альбом павінен выйсці ўжо вясной гэтага года.

Ул. інф.

# Шлях, вызначаны лёсам

## Літ-абсягі

**У Дзяржаўным музеі беларускай літаратуры адбылося адкрыццё выставы "Васіль Быкаў. Шлях, вызначаны лёсам". Выстава ладзілася ў рамках сацыяльна-культурнага праекта "Чалавек нараджаецца, каб жыць…", які прымеркаваны да 65-годдзя вызвалення Беларусі і Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне.**



У сваім выступленні дырэктар музея Лідзія Макарэвіч зазначыла, што гэта пачатак шырокага раскрыцця асобы пісьменніка. Яе думку падтрымаў Тадэвуш Стружэцкі, намеснік міністра культуры Беларусі. Да слова, міністр культуры Павел Латушка быў адным з ініцыятараў адкрыцця гэтай выставы.

У мерапрыемстве ўзялі ўдзел прадстаўнікі дыпламатычных місій — Пасол Польшчы Генрык Літвін і Пасол Украіны Ігар Ліхавы. Ігар Дзмітрыевіч прадэманстраваў свае поспехі ў вывучэнні роднай для Васіля Быкава мовы. "Гэта сімвал цэлай эпохі, — так ацаніў постаць Васіля Уладзіміравіча пасол. — І ён будзе з намі жыць, бо ён народны, нацыянальны пісьменнік. У гэтым яго сіла. Ён казаў праўду, калі за яе каралі. Але ён меў права казаць праўду". І. Ліхавы назваў пісьменніка украінскім патрыётам, бо і за Украіну В. Быкаў ваяваў. Менавіта там ён і быў паранены.

Літаратура Быкава — літаратура хоць і для чытання самнасам, як ахарактарызавала творчасць Васіля Уладзіміравіча Лідзія Макарэвіч, але гучалі яго творы і перад прысутнымі. Урыўкі з "Доўгай дарогі дадому" і "Сотнікава" чытаў Алег Вінярскі.

Ад сяброў пісьменніка выступіў Генадзь Бураўкін. Выбар на паэта паў нездарма. Работнікі музея знайшлі спіс запрошаных на адзін з вечароў Быкава ў Мінску. І першым у тым спісе быў менавіта Генадзь Мікалаевіч. Ён параіў прысутным "перачытаць творы Быкава і зразумець, дзеля чаго ён кроў праліваў". "Перамагчы могуць не танкі, а перамагчы можа толькі святло ў чалавечых душах", — сказаў Генадзь Бураўкін са спадзяваннем на тое, што народ здолее жыць праўдай, як тое рабіў В. Быкаў.

На жаль, не змагла прысутнічаць на імпрэзе ўдава пісьменніка Ірына Міхайлаўна.

Выстава знаёміць з творчым шляхам Васіля Уладзіміравіча, асноўнымі этапамі яго жыцця і літаратурнай дзейнасці. Яна складаецца з трох тэматычных блокаў. "Жыццёвыя і творчыя вытокі" — гэта матэрыялы пра дзіцячыя і юнацкія гады пісьменніка, выявы роднай хаты, блізкіх і сяброў, сустрэчы з землякамі на Ушаччыне ў пазнейшыя гады. "Праўда перажытага" — расповед пра Быкава-франтавіка і яго творчасць, звязаную з тэмай Вялікай Айчыннай вайны. На выставе прадстаўлены фотаздымкі з аўтографамі 1944 — 1945 гадоў. "Асэнсаванне" адлюстроўвае творчую лабараторыю пісьменніка, яго ліставанне з перакладчыкамі, перапіску, звязаную з пастаноўкай фільмаў.

Экспазіцыя падрыхтавана на аснове матэрыялаў з фондаў Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, аддзела рэдкіх кніг ЦНБ імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, хатняга архіва пісьменніка.

Дзмітрый БЕРАЖНЫ

Фота Кастуся Дробава

## Арт-лінія

# Духоўныя сімвалы нацыі

**Апошні выставачны праект 2009 года ўрачыста адкрылі ў Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі: фотавыстаўка ўкраінскага фотамайстра Руслана Тэліпскага "Помнікі Кабзару" (вобраз Т. Шаўчэнкі ў манументальнай скульптуры). Здадкавалі яго гістарычны музей і Пасольства Украіны ў нашай краіне.**

Адкрываючы выстаўку, дырэктар музея Сяргей Вечар зазначыў, што кожная нацыя, незалежна колькасна ад таго, вялікая яна ці малая, мае свае адметныя сімвалы. Сярод гэтых сімвалаў і славутыя постаці выбітных сыноў і дачок таго ці іншага народа. Для ўкраінцаў Тарас Шаўчэнка — годнасць і сумленне. Ён з'яўляецца іх духоўнай асноваю і дае ім права на ўсведамленне сябе як адзінага цэлага. Для беларусаў гэта яскравы прыклад таго, як трэба шанаваць свае сімвалы, будаваць сваю будучыню, свой лёс, абапіраючыся на тое лепшае, што створана сваім народам.

Пасол Украіны ў Беларусі Ігар Ліхавы адзначыў, што яны разам з Р. Тэліпскім нехак вырашылі падлічыць, колькі ва Украіне і ўсім свеце налічваецца помнікаў, памятных знакаў, мемарыяльных шыльд Т. Шаўчэнку. Дакладна невядома, але іх павінна быць не менш як 1000.

У Руслана Тэліпскага, аўтара фотавыстаўкі, з дзяцінства выхоўвалі любоў і павагу да нацыянальнай самабытнасці. Аб'ядноўшы свае захапленні вандраваць, фатаграфаваць і спазнаваць розныя куточкі роднай Украіны, ён прыйшоў да стварэння гэтага праекта — мануметнальнай шаўчэнкіяны. Прысвяціўшы 10 гадоў гэтай тэме, у калекцыі вандроўніка сабрана на дадзены момант каля 400 мемарыяльных згадак пра Кабзара з усіх абласцей Украіны і Аўтаномнай Рэспублікі Крым, дзе ўстаноўлены помнікі Тарасу Рыгоравічу, бюсты, мемарыяльныя дошкі, стэлы і памятныя знакі.

Прametэеўскі вобраз Кабзара ўвайшоў у бессмяротнасць, а слава паэта пашырылася далёка за межамі Украіны. Р. Тэліпскі ў сваіх работах здолеў адлюстраваць скульптурныя выявы помнікаў Шаўчэнку ў 28 гарадах свету. Так, на выстаўцы прадстаўлены фотаздымкі помнікаў, якія знаходзяцца ў Беларусі (Брэст, Слуцк, Магілёў), Славакіі, Грузіі, Канадзе, Арменіі, Польшчы, Італіі, Расіі, Азербайджане ды Францыі. А яшчэ былі такія гарады, як Кракаў, Оквіл, Новашахцінск, Тулуза, Баку, дзе шаўчэнказнаўцу не ўдалося па розных прычынах знайсці і сфатаграфаваць месцы ўшанавання Кабзара.

Дадзены праект упершыню выстаўляўся ў Канадзе. Беларусь — другі прыпынак экспазіцыі. Адметна, што аўтар пасля амерыканскага кантынента абраў з усіх еўрапейскіх краін менавіта нашу для дэманстрацыі сваіх твораў.

У экспазіцыі прадстаўлена больш як 120 фотаздымкаў, якія дапамагаюць кожнаму чалавеку зрабіць уласныя высновы адносна таго, кім з'яўляецца для яго Кабзар. Так, на выстаўцы экспануюцца фотаздымкі з мясцінамі, дзе замест помнікаў засталіся адны



пастаменты ці рэшткі разбуранага манумента. У планах валынскага вандроўніка, які з заплечнікам і фотакамераю не разлучаецца ні на хвіліну, — высветліць дакладную лічбу помнікаў Шаўчэнку.

Віктар КАВАЛЁЎ

Фота аўтара

## Повязі



**"Шаноўныя беларускія слухачы! Для мяне вялікі гонар запрасіць вас усіх на гэты асаблівы канцэрт, дзе мая музыка будзе ўпершыню выканана ў вашай цудоўнай краіне. У маім узросце даволі цяжка здзейсніць паездку ў Мінск, пра што я вельмі шкадую, але маё сардэчнае прывітанне вы пачуеце дзякуючы музыцы, якая перадае зачараванне водараў Індыі ў мелодыях, часам структураваных у адпаведнасці з заходняй культурай. З удзячнасцю выдатнаму дырыжору і музыкантам…" — гэтыя словы з ліста Хідаят Інаят-Хана, вядомага індыйскага кампазітара, кіраўніцтву Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі.**

# Мелодыі двух кантынентаў

Справа ў тым, што ў Вялікай зале Белдзяржфілармоніі адбудзецца адмысловы канцэрт, які злучыць творцаў адразу некалькіх краін: Дзяржаўны камерны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам заслужанага артыста Расіі Яўгена Бушкова, салістку Алу Аблабердыеву (сапрана, Англія). У склад праграмы ўключаны ірландскія, шатландскія народныя песні ў апрацоўцы Л. ван Бетховена, вакальныя ды інструментальныя творы Г. Пёрсела, Б. Брытэна. А таксама наведвальнікаў філармоніі чакае сюрпрыз — прэм'ера ў Беларусі Канцэрта для струнных Хідаята Інаят-Хана.

Да слова, продкамі Хідаята (нарадзіўся ў Лондане ў 1917 годзе) па бацькоўскай лініі былі найвыдатныя палітычныя, рэлігійныя дзеячы і музыканты, а таксама вучоны, які ўвайшоў у гісторыю як вынаходца першай нотнай сістэмы ў Індыі і заснавальнік першага друкаванага выдання індыйскай музыкі. Бацька Хідаята — патомны прыдворны музыкант і кампазітар, аўтар многіх філасофскіх кніг, частка з якіх перакладзена на еўрапейскія мовы. Амерыканскія і французскія карані з боку маці сталі для будучага кампазітара, з яго слоў, "крыніцай натхнення для стварэння музыкі ў заходнім стылі".

Спалучэнне традыцыйных індыйскіх музычных сістэм з класічнай заходнееўрапейскай гармоніяй вызначыла сутнасць творчага метаду Хідаята Інаят-Хана, актуальнасць і навізна якога — у стварэнні своеасаблівага моста паміж "індыйскім монафанічным і еўрапейскім поліфанічным мысленнем".

Салістка Ала Аблабердыева — лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў. Вось ужо амаль 20 гадоў яна жыве ў Англіі. Яе замежныя гастрольныя туры ўключаюць краіны Еўропы, Амерыкі, Азіі. Апошнія гады А. Аблабердыева часта выступае з камернымі канцэртамі ў Маскве і Санкт-Пецярбургу. І вось — завітала ў сталіцу Беларусі.

Што датычыць Яўгена Бушкова, то ён атрымаў шырокую вядомасць у свеце як скрыпач, пераможца і лаўрэат буйнейшых міжнародных конкурсаў у Познані, Маскве, Монтэ-Карла. Спалучэнне моцнай выканальніцкай волі і строгага мастацкага густу, імкненне да цэласнасці і навізны ў інтэрпрэтацыі — усе гэтыя якасці цалкам адпавядаюць дырыжорскай манеры маэстра. "Яўген Бушкоў, як дырыжор, даволі выразны: скрыпка зрабіла яго рукі "красамоўнымі", яны на роўных з аркестрам перадаюць слухачам усе тонкасці, што адбываюцца на сцэне", — пісала ў адным са сваіх музычных аглядаў "Литературная газета".

Застаецца толькі дадаць, што ў прыхільнікаў акадэмічнай музыкі ёсць выдатная магчымасць спрычыніцца да гэтай падзеі — канцэрт адбудзецца 28 студзеня.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Яўген Бушкоў.

## 3-пад пяра

Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны становіцца відавочным лідэрам сярод музейных устаноў краіны ў пашырэнні сваёй традыцыйнай прасторы. Сярод прыкладаў — паказы польскіх анімацыйных фільмаў, арганізаваныя пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску. У праграме, якую музей прапануе з 20 студзеня па 28 лютага, — "Анталогія польскай анімацыі", адрасаваная даросламу гледачу, і кінасеансы польскіх мультфільмаў "Прыгоды Болека і Лёлека" і "Чароўны аловак" для дзяцей. Паказы будуць адбывацца па серадах і нядзелях. Пачатак сеансаў для дарослых у 18.00, для дзяцей — у 11.00. Варта нагадаць, што польская анімацыя даўно атрымала міжнароднае прызнанне як адна з самых цікавых у гісторыі кінематографа. Многія работы ўвайшлі не толькі ў нацыянальны залаты фонд, але і ў міжкультурны. Фільм "Лабірынт" Яна Леніцы да гэтага часу застаецца самым загадкавым і ўражлівым. Спалучэнне вытанчаных узораў і грубай шаржавай манеры з кафкіянскай інтанацыяй расказвае пра свет, дзе гаспадарыць жорсткасць і няма месца чалавечнасці, дабрыні і спагадзе.

Дар'я ШОЦІК

Літаратурны музей Максіма Багдановіча прадстаўляе персанальную мастацкую выстаўку Эдуарда Агуновіча "Спрадвечнае". Эдуард Канстанцінавіч — вядомы беларускі мастак, заслужаны работнік культуры нашай краіны — працуе ў кніжнай і станковай графіцы, акварэлі. Ён — аўтар мастацкай канцэпцыі афармлення экспазіцый Літаратурнага музея Максіма Багдановіча (атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі), Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы, Дома-музея І з'езда РСДРП і іншых.

Выстаўка "Спрадвечнае" — гэта спроба пачаць размову пра тое, чым жыве мастак, гэта толькі пачатак расповеда пра тыя вытокі, якія прывялі творцу да 70-годдзя. Цэнтральны твор экспазіцыі "Вербін Вянок". Сваімі работамі Эдуард Агуновіч разважае пра святыні-рэліквіі, гістарычную ролю Беларусі, яе адраджэнне.

Віктар ЗАЯЦ

Музей "Аршаншчына літаратурная", які размешчаны ў горадзе Барань у сярэдняй школе № 15, адкрыўся падчас святкавання 80-годдзя з дня нараджэння вядомага байкапісца, былога рэдактара "Вожыка" Уладзіміра Корбана. Дарэчы, навучальная ўстанова носіць яго імя. Экспазіцыі прысвечаны жыццю і творчасці такіх пісьменнікаў, як Янка Сіпакоў, Мікола Садковіч, Юрый Багушэвіч, Аляксандр Міронаў, Леанід Калодзежны, але вядучае месца адведзена Уладзіміру Корбану, зазначыла дырэктар музея Вера Валетава. Тут пабывалі многія вядомыя літаратурныя дзеячы, якія сустрэліся з вучнямі, расказалі пра сваю творчасць. Усё гэта дапамае ў выхаванні падрастаючага пакалення.

У снежні мінулага года музей адзначыў 20-годдзе. На ўрачыстасцях, прысвечаных юбілею, прысутнічалі знакамітыя госці: галоўны рэдактар "Вожыка" Юлія Зарэцкая, вядучы мастак альманаха Аляксандр Каршакевіч, мастак Мікалай Таранда, кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Дняпроўскія галасы" Таццяна Юркевіч, паэт Мікола Камароўскі ды іншыя.

Бажэна СТРОК



**Культурныя сувязі, асветніцтва, дыпламатыя, сяброўства, узаемаразуменне — усё гэта можна суаднесці з адной установай — Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі (БелТД), ці, як звыкла яго называюць, Домам дружбы. Сёння ў нас у суразмоўцах старшыня прэзідыума БелТД Ніна ІВАНОВА.**

# Паразуменне праз сяброўства

— Ніна Сямёнаўна, таварыства існуе ўжо больш як 80 гадоў. Калі ласка, раскажыце пра гісторыю і мэты яго стварэння.

— Адлік старонак жыцця грамадскай арганізацыі пачаўся 7 красавіка 1926 года. Ля вытокаў яе стварэння стаялі слынныя дзеячы беларускай культуры: Янка Купала, Якуб Колас, Цішка Гартны, Міхась Чарот... А таксама Інстытут беларускай культуры ды Чырвоны Крыж. У 1956-м, згодна з рашэннем урада рэспублікі, для народных дыпламатаў Беларусі быў пабудаваны дом, які цяпер мы з любоўю называем Домам дружбы.

Асноўная ж мэта БелТД — ладзіць культурныя сувязі. Старонкі гісторыі сведчаць, што з яго адкрыццём актыўна пачаўся дэлегацыйны абмен з грамадскімі арганізацыямі іншых краін. Такім чынам быў пакладзены пачатак, я лічу, вельмі важнаму кірунку міжнароднага супрацоўніцтва — народнай дыпламатыі, які мы і сёння развіваем у меру сваіх магчымасцей.

— А якая структура ў вашай арганізацыі?

— Акрамя сталічнага, ёсць аддзяленні БелТД у кожным абласным цэнтры нашай краіны За апошнія гады мы значна пашырыліся. У савецкія часы было 12 аддзяленняў беларуска-савецкай дружбы з замежнымі краінамі. Сёння маем 37.

— З якімі краінамі ў вас наладжана супрацоўніцтва? Хто з пісьменнікаў і дзеячаў культуры і мастацтва іх узначальвае?

— У нас наладжаны стасункі са шмат якімі краінамі Еўропы, Азіі… З намі супрацоўнічаюць цікавыя асобы. Н. Гальпяровіч з'яўляецца старшынёй таварыства "Беларусь — Арменія", З. Прыгодзіч — "Беларусь — Аўстрыя", М. Міцкевіч — "Беларусь — Ірландыя", М. Чаргінец — "Беларусь — Кыргызстан", С. Панізнік — "Беларусь — Латвія", А. Дудараў — "Беларусь — Літва", А. Бутэвіч — "Беларусь — Польшча", Р. Баравікова — "Беларусь — Расія", М. Мятліцкі — "Беларусь — Славакія", І. Чарота — "Беларусь — Сербія". Гэта толькі тыя пісьменнікі, хто ўзначальвае, а ў складзе кожнага з 37 таварыстваў ёсць па некалькі літаратараў. Для нас гэта прынцыповая пазіцыя, таму што адзін з кірункаў нашай дзейнасці — узаемасувязь літаратур. Спрабуем спрыяць, калі дазваляюць нашы магчымасці, перакладам як з беларускай на замежныя, так і з замежных на беларускую мовы. Ладзім прэзентацыі. Таму вельмі важна, каб у складзе таварыства быў пісьменнік, які б прафесійна дапамагаў нам у гэтай рабоце.

— Ці вялікая розніца ў колькасці праведзеных мерапрыемстваў замежнымі сябрамі ў Беларусі і прадстаўнікамі вашага таварыства па-за межамі нашай краіны?

— Вельмі вялікая. Штогод мы праводзім намаганнямі нашых таварыстваў каля 100 мерапрыемстваў, прысвечаных замежнай культуры. Але мы заўсёды імкнёмся, каб культура замежнай краіны разглядалася ў сугуччы з беларускай. Калі мы гаворым, прыкладам, пра Славакію, дык глядзім, што агульнага ў культуры славацкага і беларускага народаў.

Кажучы канкрэтна пра таварыства, нам удаецца правесці маштабныя мерапрыемствы — Дні Беларусі ці Дні культуры Беларусі — недзе ў 3—4-х краінах. Не больш. Апошнія некалькі гадоў мы шырока праводзім такія дні ў Францыі. Там вельмі моцная падтрымка нашых партнёрскіх арганізацый.

У мінулым годзе ў Францыю выязджалі наша дэлегацыя і творчы калектыў "Чысты голас", які выступіў у 6 дэпартаментах краіны. Так што, нягледзячы на нашы сціплыя магчымасці, сваімі сіламі працягваем традыцыю папулярызацыі беларускай культуры. З гэтай нагоды будзем прасіць падтрымкі ў нашых пасольстваў. А з Міністэрствам замежных спраў Беларусі ў нас добрыя ўзаемавыгадныя адносіны.

Нават па пасяджэнні праўлення БелТД мы аналізавалі гэтую праблему. Мы існуём на спонсарскія грошы і не можам эфектыўна і плённа весці праграму супрацоўніцтва.

Будзем праводзіць два "круглыя сталы": адзін маладзёжны, разам з БДУ, з факультэтам міжнародных адносін, журналістамі, а другі, так скажам, з людзьмі сталымі, вопытнымі, якія шмат год займаюцца гэтай справай. Карацей кажучы, мы спрабуем вылучыць шляхі пашырэння ўяўлення пра нашу культуру за мяжой: дзе мы можам абапірацца на дыяспару, на партнёрскія структуры, дзе можам рабіць справу разам з Міністэрствам культуры нашай краіны, Беларускім фондам культуры…

Да слова, у гэтым годзе будзем ладзіць Дні Беларусі ў Польшчы, Францыі, на Кіпры, Дні беларускай літаратуры ў Балгарыі.

— Акрамя культурных, пэўна, ёсць іншыя кірункі супрацоўніцтва?

— У нас яшчэ ёсць праграма параднення гарадоў. Яна не новая — існуе недзе з 1960—70-х гадоў. Але набыла новую якасць: да 1995-га яна існавала толькі як праграма таварыства, а потым з'явілася Беларуская грамадская асацыяцыя пароднёных гарадоў, якая працуе пад дахам Дома дружбы. У склад гэтай арганізацыі на сёння ўваходзіць 31 беларускі горад, які мае 291 пабраціма ў 35 краінах свету. Найбольшая колькасць гарадоў-пабрацімаў у Расіі (72), у Польшчы (42), у Балгарыі (29)…

— Ніна Сямёнаўна, праўленне БелТД выступіла з ініцыятывай распачаць распрацоўку канцэпцыі папулярызацыі беларускай культуры за мяжой. Бо сапраўды, замежнікі маюць вельмі слабае ўяўленне пра Беларусь…

— На жаль, нашыя намаганні і намаганні іншых устаноў не даюць вялікага плёну. Мы аб'ектыўна мала працавалі на гэтую ідэю. Ну што такое 4 нашыя мерапрыемствы ў замежжы ў год?! Таму мы наладзілі дыскусію на праўленні БелТД, вынеслі на грамадскае абмеркаванне, па-першае, каб пачуць, можа, нейкія новыя формы, магчымасці супрацоўніцтва. Па-другое, гэта аб'яднанне намаганняў з іншымі арганізацыямі.

— Тут, відавочна, трэба задзейнічаць у першую чаргу творчую інтэлігенцыю, як гэта робяць на вельмі высокім узроўні, прыкладам, Польшча, Украіна… І, зразумела ж, павінна быць цеснае супрацоўніцтва паміж творчымі саюзамі і калектывамі, дзяржаўнымі і грамадскімі аб'яднаннямі.

— Безумоўна. Таму мы і выйшлі на гэту размову. Бо, спадзяёмся: кожны раскажа пра свой вопыт, нешта падкажа. Паглядзім, можа, недзе нашы інтарэсы і магчымасці супадаюць і можна будзе працаваць сумесна. Напрыклад, у сферы перакладаў.

— Колькі слоў, Ніна Сямёнаўна, пра падтрымку і ўдзел у прапагандзе і азнаямленні з беларускай культурай з боку пасольстваў нашай краіны за мяжой…

— Балючае пытанне. Ёсць пасольствы, якія вельмі многа дапамагаюць. Класічны прыклад — Пасольства Беларусі ў Балгарыі. Дзякуючы яго рабоце апошнімі гадамі з'явілася шмат перакладаў балгарскіх аўтараў на беларускую мову і беларускіх — на балгарскую. І ў іншых кірунках ідзе цеснае супрацоўніцтва. І ёсць, на жаль, пасольствы, якія, мне здаецца, увогуле не ведаюць, што гэта можна рабіць. Для многіх з іх дзейнасць БелТД па прапагандзе беларускай культуры быццам бы не існуе. Такое адчуванне, як кажуць беларусы, кожны за сваім плотам штосьці робіць. Але ж мы робім агульную справу. Галоўнае тут — узаемадзеянне і аб'яднанне намаганняў.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымку: Ніна Іванова.

Фота аўтара

# Фантасты, за працу!

## Абвешчаны конкурс

**Конкурс «Новая беларуская фантастыка» дапаможа выявіць маладыя таленты.**



Фантастыка — адзін з самых папулярных і любімых жанраў чытачоў усіх пакаленняў. Аматараў беларускай фантастыкі чакаюць новыя творы і адкрыцці новых імён таленавітых аўтараў. З 1 студзеня 2010 года Саюз пісьменнікаў Беларусі праводзіць творчы конкурс "Новая беларуская фантастыка" сярод маладых літаратараў у жанрах фантастычнай прозы. Мэта конкурсу — выявіць новых таленавітых аўтараў і даць ім магчымасць апублікаваць свае творы.

Пра тое, як будзе праходзіць гэтае творчае спаборніцтва і яго асаблівасці, карэспандэнт "ЛіМа" гутарыць са старшынёй журы конкурсу, старшынёй секцыі прыгод і фантастыкі Саюза пісьменнікаў Беларусі Уладзімірам КУЛІЧЭНКАМ.

— Секцыя прыгод і фантастыкі была створана ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі ў маі 2009 года. Сёння яна налічвае 18 літаратараў. Сярод іх такія пісьменнікі, як Вольга Грамыка, чые раманы-фэнтэзі выдадзеныя агульным тыражом каля мільёна экзэмпляраў, Аляксандр Сілецкі, творы якога перакладзены на адзінаццаць моў, Алесь Аляшкевіч, Мікалай Чадовіч і іншыя. У верасні мінулага года выдавецтва "Харвест" пад эгідай Саюза пісьменнікаў Беларусі выдала першыя 12 тамоў серыі "Бібліятэка сучаснай беларускай фантастычнай і прыгодніцкай прозы" на рускай і беларускай мовах. Гэта творы вядомых і таленавітых беларускіх пісьменнікаў Мікалая Чаргінца, Аляксандра Сілецкага, Генадзя Аўласенкі, Юрыя Брайдэра і Мікалая Чадовіча, Міхаіла Дзеравянкі, Сяргея Цаханскага, Яўгена Дразда, Алеся Аляшкевіча, Аркадзя Груздова, Алены Конышавай і вашага суразмоўцы. Вось тады і ўзнікла ідэя, што трэба даць магчымасць маладым, пісьменнікам-пачаткоўцам паказаць сябе, а лепшыя іх творы надрукаваць у выдавецтве "Харвест". Такі конкурс Саюз пісьменнікаў Беларусі ладзіць упершыню.

— Чаму конкурс праводзіцца менавіта ў галіне фантастыкі?

— Па чытацкім попыце вышэй за фантастыку толькі жаночая проза. Статыстыка сведчыць, што нават дэтэктывы адышлі на трэці план. Фантастыка была і застаецца адным з самых папулярных літаратурных жанраў. Пісьменнікі імкнуцца высветліць паводзіны і ўзаемаадносіны чалавека ў экстрэмальных умовах, у якіх ён можа апынуцца дзякуючы тым ці іншым навуковым адкрыццям. Фантастыка дазваляе ўзнімаць і асэнсоўваць вельмі важныя навуковыя, сацыяльныя і псіхалагічныя праблемы, актуальныя для нашых сучаснікаў.

— Як будзе праходзіць конкурс?

— Прыём работ — з 1 студзеня па 30 верасня 2010 года па адрасе: 220034, г. Мінск, вул. Фрунзе 5, Саюз пісьменнікаў Беларусі, з пазнакай "На конкурс "Новая беларуская фантастыка", ці па электронным адрасе: lim_new@mail.ru.

Для разгляду твораў, якія аўтары дасылаюць на конкурс, фарміруецца журы ў складзе з пяці чалавек, у тым ліку прадстаўнікі Саюза пісьменнікаў Беларусі і рэдактар выдавецтва "Харвест".

Удзел у конкурсе могуць браць аўтары ад 18 да 30 гадоў, грамадзяне Рэспублікі Беларусь. Прымаюцца арыгінальныя празаічныя творы на рускай ці беларускай мовах, якія раней нідзе не былі надрукаваныя. Дата стварэння значэння не мае. Кожны аўтар можа прадставіць на конкурс не больш як два творы. Ананімныя рукапісы разглядацца не будуць. Творы прымаюцца ў файлах любога электроннага фармату, а таксама ў друкаваным выглядзе. Звяртаю ўвагу, што конкурсныя творы не рэцэнзуюцца.

Усе творы, вылучаныя на конкурс, рэгіструюцца ў сакратарыяце Саюза пісьменнікаў Беларусі і атрымліваюць рэгістрацыйныя нумары. Так што, чытаючы твор, ніхто з членаў журы не будзе ведаць імя аўтара. Адзнака будзе аб'ектыўнай. Аўтар мае права зняць з разгляду сваю працу да 30 верасня 2010 года.

— Як вы лічыце, большасць твораў будзе напісана на беларускай ці на рускай мове?

— Цяжка сказаць. Але, мне здаецца, што ўсё-такі большасць рукапісаў прыйдуць да нас на беларускай мове. Калі казаць пра 12 кніг у серыі «Беларуская сучасная фантастыка», якія пабачылі свет у выдавецтве "Харвест" у верасні 2009 года, то 10 з іх выдадзеныя на рускай мове. Але добрым попытам сёння карыстаюцца і беларускамоўныя выданні.

Мы імкнёмся знайсці маладых, таленавітых пісьменнікаў і дапамагчы ім. Цяпер большасць аўтараў, якія выдаюцца, — мінчане. Хацелася б адзначыць і тое, што талент ацэньваецца не па геаграфічнай прыналежнасці. Таму будзем рады пабачыць творы пачынаючых пісьменнікаў з глыбінкі.

Абмежаванняў у аб'ёме твораў няма ніякіх. Няхай гэта будзе хоць фантастычны раман-эпапея. Галоўнае, каб было цікава і прафесіянальна напісана. Можна сказаць, што мы даём шанс нават тым, у каго яшчэ няма ніводнага твора. Я лічу, што да 30 верасня 2010 года можна напісаць добры фантастычны раман. Нават калі на нас абрынецца шквал рукапісаў, ні адзін з іх не застанецца без увагі. Усё будзе прачытана і аб'ектыўна ацэнена.

Пяць пераможцаў конкурсу мы вызначым на выніковым пасяджэнні. Выдавецтва "Харвест" заключыць з імі кантракт на выданне твораў. Пераможцы конкурсу, якія зоймуць першыя тры месцы, атрымаюць грашовыя прэміі. За чацвёртае і пятае месцы маладыя пісьменнікі будуць уганараваныя дыпломамі Саюза пісьміннікаў Беларусі.

Чакаем творы на конкурс!

Гутарыў Уладзімір ПАДАЛЯК
Фота Кастуся Дробава

## Адрасы натхнення

# Незабыўныя сустрэчы ў Гудзевічах

Вёску Гудзевічы ведаюць далёка за межамі Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Тут знаходзіцца славуты літаратурна-краязнаўчы музей. Стваральнікам яго з'яўляецца таксама вядомы на ўсю краіну былы настаўнік беларускай мовы і літаратуры, заслужаны настаўнік Беларусі, апантаны краязнаўца Алесь Белакоз. Гэта яго шматгадовымі намаганнямі і ўмела арганізаванай ім краязнаўча-пошукавай дзейнасцю вучняў музей валодае сёння адметнымі, цікавымі, рэдкімі, а часам эксклюзіўнымі літаратурнымі і этнаграфічнымі экспанатамі.

Ехалі і едуць наведвальнікі ў музей з вялікай цікавасцю яшчэ і таму, што менавіта Гудзевічы заўсёды былі адным з тых нямногіх беларускіх асяродкаў у Беларусі, дзе людзі свядома і шчыра стараліся шанаваць і захоўваць для нашчадкаў родную мову, культуру, народныя традыцыі.

Цесныя кантакты з пісьменнікамі, асабліва гродзенскімі, і сёння падкрэсліваюць адметнасць працадзейнасці музея. Становіцца добрай традыцыяй ладзіць творчыя літаратурныя сустрэчы са школьнай моладдзю менавіта ў музеі, ініцыятарамі якіх выступілі дырэктар установы Вольга Клімуць і навуковы супрацоўнік Кацярына Бачынская — асобы неабыякавыя, творчыя, глыбока зацікаўленыя ў плённай працы музея, прадаўжэнні яго традыцый. Як, дарэчы, — і гэта адчуваецца не ўяўна — усе іншыя супрацоўнікі.

У снежні пісьменнікі з Гродна Браніслаў Ермашкевіч, Людміла Кебіч, Анатоль Брусевіч і Ганна Скаржынская правялі ў гудзевіцкім музеі чарговую паэтычную сустрэчу з вучнямі школы і мясцовай інтэлігенцыяй, падчас якой яны чыталі свае творы, знаёмілі прысутных з новымі кнігамі, зрабілі экскурсію па новай зале музея, абмеркавалі праекты далейшых сумесных дзеянняў, выказалі думку пра тое, што музей і школа павінны працаваць больш шчыльна і ініцыятыва сыходзіць не толькі з боку супрацоўнікаў музея, але і настаўнікаў, вядома ж, гісторыкаў і літаратуразнаўцаў.

Людміла ВАЙТУЛЕВІЧ

# Погляд і празарэнне

**З Юры Станкевічам заўсёды няпроста. Асабліва несумленным і зайздрослівым людзям, якія ў любы момант могуць прадаць каго і што заўгодна. Гэтага пісьменніка можна не прымаць, бясконца абзываючы цынікам-чарнушнікам, але яму нельга адмовіць у балюча-страсным перажыванні за сваю зямлю і свой народ, да якога гісторыя ніколі не была літасцівай.**

Замест грунтоўнага прачытання прозы гэтага адметнага аўтара большасць крытыкаў абмяжоўваецца павярхоўнымі закідамі. Увагі заслугоўваюць, бадай, толькі артыкулы Дзмітрыя Бугаёва і Юліі Сальнікавай, якія адразу адзначылі ў творчасці Ю. Станкевіча заклапочаны позірк, скіраваны ў будучыню ўсяго чалавецтва. У пастаноўцы і мастацкім вырашэнні глабальных пытанняў пісьменнік пастаянна падштурхоўвае агульнае развіццё сучаснай беларускай літаратуры, з-за чаго займае ў ёй асобнае, канкрэтна нявызначанае месца. Адсюль і частае неразуменне, непрыманне ягонай творчасці, якая папярэджвае насельнікаў планеты пра небяспеку далейшага няправільнага жыцця, спрошчанага да жывёльных інстынктаў.

Гэты аўтар мае выразную грамадзянскую пазіцыю, незалежную ад хуткаплыннай кан'юнктуры часу. Нельга папракнуць Ю. Станкевіча і ў ахоўным прыстасавальніцтве да знешніх абставін, якімі б жорсткімі яны ні былі.

Мастацкія прыёмы пісьменніка пазбаўлены паліткарэктнасці, а погляд на чалавека далёкі ад веры ў ягоны розум і ўяўныя звышмагчымасці. Менавіта падобным успрыманнем непрычасанай рэчаіснасці гэты пісьменнік бачыцца літаратадоксам сацыяльна нявыгадным і нават шкодным, гэткім антыгуманістам, што бязлітасна руйнуе пяром зманлівыя ідэалы віртуальна-ружовай будучыні. Аднак Ю. Станкевіч у сваёй мадэлі свету паслядоўны і бескампрамісны да банальнага, бо грунтуе яе на звычайных прынцыпах чалавечай маралі і годнасці, вымяраючы імі вартасць кожнага з нас.

Пісьменнік увайшоў у літаратуру даволі позна, але з ужо сфарміраваным светапоглядам і яснай творчай канцэпцыяй, якая дакладна адлюстравана амаль у кожным яго апавяданні, аповесці і рамане. У іх няма лакальнага прымітывізму, яны выходзяць за межы традыцыйна-вясковай бытавухі і скіраваныя на глабальныя праблемы сучаснага грамадства, чым і прыцягальныя.

Паміж першай і апошняй па часе выхаду кнігамі Ю. Станкевіча — амаль 20 гадоў. Для творчай біяграфіі гэта няшмат. Дарога ад "Лупа" (1989) і "Анёлаў на бальшаку" (1993) да "Апладнення ёлупа" (2005) і "Мільярда ўдараў" (2008) была пазначана нястомнымі пошукамі свайго месца ў свеце і ідэнтыфікацыяй сябе як асобы. Паміж гэтымі кнігамі стаяць не менш важныя — "Любіць ноч — права пацукоў" (2000), "Армагедон — 1895" (2000) і "Сатырыкон" (2003). Першая з іх фактычна абумовіла ідэйны настрой далейшай прозы пісьменніка.

Так, магістральны раман "Любіць ноч — права пацукоў" знайшоў своеасаблівы працяг у антыутопіях "Эрынії" (2006) і "П'яўка" (2008/2009), якія не маюць аналагаў у айчыннай літаратуры. У апошнім, пакуль неапублікаваным, рамане, дзе аўтар сігануў у будучыню ўзору 2050-х гадоў, духоўныя пошукі пісьменніка, здаецца, завяршыліся. Але ведаючы неўтаймоўную энергію і працавітасць Ю. Станкевіча, думаецца, ненадоўга. Безумоўна, у мастацкіх адносінах творы аўтара (асабліва апавяданні) не заўсёды раўназначныя, але і назваць іх праходнымі ўсё ж не даводзіцца. Кожная наступная кніга ўдакладняе і дапаўняе папярэднюю, сведчыць пра пастаянны рух мастацкай свядомасці і абвостраныя адчуванні трывожнага пульсу часу.

Так, у большасці твораў Ю. Станкевіч не пакідае ніякіх шансаў чалавеку на выратаванне. Але гэта заканамерна: духоўныя спусташэнцы і звыродлівыя псеўдапатрыёты гістарычнай будучыні не маюць. Нягледзячы на неспрыяльныя жыццёвыя абставіны і няспынныя паразы лёсу, персанажы пісьменніка да апошняга трымаюць абарону ўласных прынцыпаў, без чаго не пачуваюць сябе паўнавартаснымі прадстаўнікамі чалавечага роду ў цэлым і сваёй нацыі ў прыватнасці (аповесці "Лавец святла поўні" (2004), "Партрэт выпускніка на фоне "адлігі" (2006), "Пераход" (2008)). Нават у фантастычных творах, дзе аўтар, грунтуючыся на навуковых даследаваннях, сцвярджае, што наш сусвет — усяго толькі дэкарацыя, гучыць голас у абарону чалавечага ў чалавеку, перамогу дабра і справядлівасці, праўды і маралі, натуральнай логікі прыроды... Пісьменнік вядзе непрымірымую барацьбу з псеўдай (знешняй і ўнутранай), ілжыва-падманнымі дэкарацыямі гістарычнага шляху, пакольні ў іх чалавек паступова страчвае пачуццё рэальнасці і самасці, ператвараючыся ў паслухмяную ляльку.



Вялікае месца ў зямным чалавечым існаванні Ю.Станкевіч адводзіць праявам таямнічага і загадкавага. Дзякуючы ўласнай зацікаўленасці аўтара яго касмалагічна-футуралагічныя пошукі адлюстраваны ў шэрагу твораў (раман "Ліст у галактыку "Млечны Шлях" (2002), "Пятая цэнтурыя, трыццаць другі катрэн" (2003)). Напісаны ў белетрыстычным рэчышчы. Іх не назавеш лёгкім (бяздумным) чытвом. Гэта цудоўны прыклад удалага сінтэзу сучасных навуковых даследаванняў, сусветнай філасофіі, лапідарнага мастацкага стылю і добра распрацаванага сюжэта. У сваім адзінстве яны дэманструюць прозу належнай якасці, якой нам сёння вельмі бракуе. Можна не пагаджацца з бязрадаснымі высновамі аўтара кшталту "генетычна абумоўленага выраджэння homo sapiens" ці "матрычнай структуры свету", аднак, калі літаратурны твор выклікае шматлікія спрэчкі і становіцца ў пэўным сэнсе скандальным — гэта яму толькі на карысць.

Трэба адзначыць, што Ю. Станкевіч умее не толькі па-майстэрску (па-хічкокаўску) палохаць, але і хораша (па-шчадрынску) смяшыць. Гумарыстычныя аповесці пісьменніка ўдала дапаўняюць яго творчы партрэт і сведчаць аб універсальнасці таленту ў паяднанні трагічнага і камічнага ў жыцці (сатырычныя аповесці "Тэракт", "Свінапузь", "Балваны", "Катавасія"). У гэтых творах аўтар высмейвае розныя праявы нашага жыцця, у тым ліку і літаратурнага, што моцна зблізае Ю. Станкевіча з А. Мрыем.

У творчым багажы пісьменніка шмат адметных апавяданняў, у якіх даследуюцца сутнасць фізічных магчымасцей чалавека, межы яго падзення, а таксама прырода страху, псіхалагічных адхіленняў, грамадскіх катаклізмаў і экстрэмальных будняў, дзе пастаянна даводзіцца адстойваць права на жыццё, нават з незайздросным фіналам. Да ліку лепшых твораў малой жанравай формы варта аднесці такія апавяданні, як "Пакупнік сноў", "Мёртвая кропка", "Мільярд удараў", "Цацка ад творцы", "Прытча пра жука-чарнацёлку", "Яйка зязюлі павінна быць выседжана" і інш.

Ю. Станкевіч не баіцца глядзець ні ва ўнутраны свет чалавека, які не ў стане адшукаць паратунак ад самога сябе, ні наперад, у аддаленую перспектыву, якая дзякуючы недасканалай людской натуры не абяцае нічога прыемнага. Абвастраючы жыццёвыя канфлікты, пісьменнік абвастрае наша разуменне навакольнай рэчаіснасці, годнага апраўдання сваёй часовай зямной прысутнасці.

Сяргей ГРЫШКЕВІЧ

Фота Кастуся Дробава

# Каб не перасыхала крыніца



**Праглядаючы мастацкі фільм "Анастасія Слуцкая", што сёння інакш як вядомы беларускі блокбастэр і не ўспрымаецца, многія, бадай, звярнулі ўвагу на ролю айца Данілы. Зразумела, гэтага персанажа не аднясеш да тых, якія ў стужцы нясуць асноўную сэнсавую нагрузку, тым не менш айцец Даніла запамінаецца. Магчыма таму, што ў ягоны вобраз усю сваю душу ўклаў Мікола Макарцоў.**

Так, той самы М. Макарцоў, які ў канцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя стварыў у горадзе Гомелі першы на Беларусі фальклорны тэатр "Жалейка". Як гэты няхітры музычны інструмент здатны сваімі гукамі па-сапраўднаму ўсхваляваць, пераканаць, наколькі ўсё тое, да чаго мае дачыненне народ, непаўторнае ў сваёй сутнасці, так і тэатр М. Макарцова, а інакш "Жалейку" і не называюць, засведчыў, наколькі вялікія перспектывы адкрываюцца перад калектывам, які, узяўшы за аснову лепшыя ўзоры фальклору, здатны іх ва ўсім хараство данесці да сучаснага гледача і слухача. Менавіта дзякуючы таленту М. Макарцова, ягоным вялікім арганізацыйным мастацкім здольнасцям, "Жалейка" лёгка і ўпэўнена прайшла шлях ад самадзейнага да прафесійнага калектыву, набыўшы заслужаную вядомасць не толькі на Беларусі, а і ў далёкіх краінах, сярод якіх нават экзатычная Індыя.

З таго часу ў М. Макарцова засталося нямала здымкаў. У тым ліку і тых, што маюць, калі можна так сказаць, індыйскую прапіску. З адным з іх, на якім Мікалай Фёдаравіч зняты на слане, я нядаўна пазнаёміўся. Толькі не праглядаючы найбагацейшы фотаархіў М. Макарцова, а чытаючы ягоную кнігу "Тэатр мой — Беларусь святочная", што выйшла ў Гомелі.

У кнізе змешчана шмат здымкаў, якія адлюстроўваюць розныя перыяды жыцця і творчасці аўтара. Дарэчы, яна ў М. Макарцова — не першая. Дагэтуль выходзілі "Каб не перасыхала крыніца...", "Слова пра творцаў", "Па святочных шляхах Беларусі", "Беларусь святкуе", "П'есы вандроўніка"... Гэтая ж — па сутнасці свайго роду выбранае, бо адлюстроўвае розныя кірункі творчасці аўтара.

Як і трэба было чакаць, адкрываецца кніга раздзелам "Сцэнарыі народных свят". Самі назвы іх сведчаць аб тым, што М. Макарцоў прапагандуе тыя святы, што найлепшым чынам сведчаць пра самабытнасць беларускага народа, пра ягоныя багатыя традыцыі: "Зіму праводзім, вясну сустракаем", "Юр'еўскае ігрышча", "Траецкае ігрышча", "У Купальскую ноч", "Беларускае вяселле", "Купальскія дзеі" і іншыя.

У сцэнарыях святаў усё тое, чаго не можа прыдумаць нават самая багатая творчая фантазія, таму што ў аснову кожнага з іх пакладзена тое, што фарміравалася на працягу стагоддзяў, паспяхова прайшло выпрабаванне часам. М. Макарцоў, як правільна сказаў пра яго доктар мастацтвазнаўства Анатоль Сабалеўскі, "заўзяты, апантаны збіральнік тэатральнага фальклору, асабліва Гомельшчыны і Магілёўшчыны", таму "многае пачутае ў народзе і запісанае затым у апрацаваным выглядзе, у сучаснай інтэрпрэтацыі зноў вяртаецца ў народ — у выглядзе макарцоўскіх тэатралізаваных пастановак".

Гэтаксама паспяхова працуе М. Макарцоў і тады, калі звяртаецца да лепшых узораў нацыянальнай літаратуры, што відаць з раздзела "Сцэнарыі літаратурных свят". Прынамсі, у інсцэніроўцы "Аб чым спявалі гуслі..." ён па-свойму прачытвае рамантычныя паэмы Янкі Купалы "Курган" і "Бандароўна". Да творчасці народнага песняра звяртаецца і ў сцэнарыі "Чаму ж мне не пець!", беручы за аснову неўміручую Купалаву "Паўлінку" і гэткіх жа неўміручых "Прымакоў".

Наколькі дакладна можа спасцігнуць М. Макарцоў дух творчасці пэўнага пісьменніка, сведчыць сцэнарый "Паэт, асветлены зоркай". Вядомыя хрэстаматыйныя творы Максіма Багдановіча ў гэтай інсцэніроўцы суседнічаюць з тымі, якія, магчыма, не так і часта на слыху.

А вось літаратурна-музычную кампазіцыю "Багрымаў перазвон" мне пашчасціла бачыць у свой час ва ўвасабленні "Жалейкі" — акурат Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Рэспубліканская дырэкцыя нацыянальных мастацкіх праграм, Баранавіцкі райвыканкам, тагачасны калгас "Перамога" праводзілі Рэспубліканскае свята паэзіі і музыкі, прысвечанае дню нараджэння паэта, каваля-мастака Паўлюка Багрыма. Зразумела, месцам правядзення быў выбраны Крошын — вёска, у якой жыў і працаваў гэты народны самародак і на могілках якой ён знайшоў свой вечны спачын.

Працуючы над гэтым сцэнарыем, М. Макарцову, па ўсім відаць, давялося нялёгка, бо П. Багрым — аўтар адзінага верша, які дайшоў да нас. Ды не трэба забываць, што М.Макарцоў і сам піша вершы (лепшыя з іх прадстаўлены ў заключным раздзеле кнігі), таму і атрымалася цікавая, змястоўная кампазіцыя, у якой радкі самога П. Багрыма дапаўняюцца тым, што гаворыцца пра яго, — таксама мовай паэзіі.

Мікола Макарцоў, аднак, не толькі практык, які пастаянна ажыццяўляе нейкія важныя творчыя задумы, а ў пэўнай ступені і тэарэтык. Ён мае ўласны погляд на фальклор і яго ролю ў жыцці сучаснага грамадства, заклапочаны тым, каб гэтая жыватворная, жыццядайная крыніца ніколі не перасыхала. Несумненна, карысна пазнаёміцца з ягонымі "Рэжысёрскімі нататкамі", як і далучыцца да традыцыйнай народнай тэатральнай культуры ("Беларускія вячоркі. Сялянскі хатні тэатр").

Што да апошняга са згаданых раздзелаў, то, як сведчыць у прадмове да яго кандыдат філалагічных навук Янка Крук, "матэрыялы Міколы Макарцова выключныя па сваёй каштоўнасці: гэта дакладныя апісанні сцэнара вячорак па ўспамінах людзей самага старога веку".

"Рэжысёрскія нататкі" — у пэўнай ступені і падмога ў працы тым, хто захоча пайсці шляхам, якім так паспяхова ідзе ўжо не адно дзесяцігоддзе сам М. Макарцоў. У іх ён дзеліцца ўласным рэжысёрскім вопытам. Узнімае праблемы, якія, на яго думку, патрабуюць неадкладнага вырашэння. Зноў жа непакоіцца пра тое, каб не перасыхалі бруістыя крыніцы фальклору. А яшчэ спадзяецца, "што нацыянальная святочна-фестывальная рэжысёрская школа выразней акрэсліцца, прайшоўшы свой шлях станаўлення, і ў яе рады ўвальюцца здатныя рэжысёры-пастаноўшчыкі, што і паслужыць далейшаму адраджэнню традыцыйнай святочна-мастацкай культуры на Беларусі".

Алесь МАРЦІНОВІЧ

## Абмеркаванне

"Акварэльныя малюнкі" (аўтарская маркіроўка жанру) Уладзіміра Сцяпана "Дзед" (надрукаваны ў "Полымі", № 10 за 2009 год) уяўляюць сабою нізку празаічных мініяцюр, аб'яднаных адной тэмай. Здавалася б, нічога такога асаблівага... Чаму ж тады так многа размоў ідзе пра гэтую рэч у пісьменніцкіх колах, у рэдакцыйных кабінетах, сярод студэнтаў-гуманітарыяў, у Інтэрнэце?.. Адкуль столькі эмоцый? Паспрабуем разабрацца...

Л. А.

# Які ў Сцяпана «дзед»?

## Ірына Шаўлякова



Перш чым падступіцца да рэфлексіі "адкрытага ўрока" ці, хутчэй, "творчага праекта" (паспрабую неяк утрымацца ў межах адукацыйнай парадыгмы), які рэпрэзентаваў Уладзімір Сцяпан, мушу акцэнтаваць увагу на адной істотнай дробязі.

На першы погляд, форма прапанаванага "Абмеркавання" выключна зручная для крытыка: шыхтуй сабе "адчуванні" па акрэсленых намінацыях — і не перамайся. Але "зручнасць" гэтая аказваецца ўяўнай: што такое сёння для айчыннага літаратурнага крытыка выказвацца коратка, лагічна, аргументавана, максімальна інфармацыйна — і не пра сябе? Стрэс гарантаваны не меншы, чым перажывае пісьменнік, твор якога становіцца прадметам надзвычай пільнай увагі калег па літпрацэсе.

Паратункам мне бачыцца стратэгія канкрэтнасці і тактыка "тэлеграфізму", бо газетная паласа мае межы, затое чытацкая фантазія, як і дацклівасць натуры сучаснага літаратара, — бязмежныя.

Вартасці:

1. Асобаснасць і адначасова універсальнасць маральнага ды эстэтычнага зместу, што з найбольшай відавочнасцю выяўляюцца ў вобразе аднаго з цэнтральных персанажаў "акварэльных малюнкаў" У. Сцяпана — дзеда Ладзіміра.

Дапускаю, што некаму гэты вобраз можа падацца ідэалізаваным, маўляў, любому дарosламу падаецца, што ў ягоным дзяцінстве амаль не трэба было прыкладаць намаганняў, каб быць шчаслівым: "Ні разу дзед не сказаў мне кепскага слова, не пакрыўдзіў. Не ўдарыў, і бацькам не дазваляў на мяне сварыцца. Ні разу, калі я сядзеў за кніжкай ці маляваў, не выключыў святло і нават не папрасіў, каб я ішоў нешта рабіць па гаспадарцы. Ён ставіўся да кніжак і да малявання з павагай неверагоднай. <...> Хацеў напісаць пра дзеда, а напісаў пра выхаванне... І гэта справядліва" ("Імя").

Але я з лёгкасцю веру апавядальніку, што дзед Ладзімір быў насамрэч ТАКІ, бо ў мяне была ТАКАЯ ж бабуля Мальвіна і дагэтуль ёсць (дай ёй Бог здароўя!) меnavіта ТАКАЯ бабуля Валянціна. Таму ставіць пад сумнеў мастацкую і жыццёвую дакладнасць вобраза-характару, выпісанага ў "акварэльных малюнках" У. Сцяпанам, у мяне падстаў няма.

Надзвычай каштоўным бачыцца і тое, што асобаснае перажыванне, занатаванае ў індывідуальнай памяці я-героя "Дзеда", без напругі, без зададзенай дыдактычнай мэты становіцца ў творы У. Сцяпана груntам для агульназначай, універсальнай (прынамсі, у кантэксце традыцыйнай беларускай аксіялогіі) высновы. Так, у "малюнку" "Мяжа" згадка пра тое, як "за мяжу, за вузкі пасак зямлі пасварыліся дарослыя людзі" дзед Ладзімір і сусед Лявон, неяк надзвычай натуральна вымыкаецца ў прастору сімвалічнага абагульнення: "Узмежак. Баразна. Магілкі. Беларусь..."

2. Умеркаваная мастакоўская шчырасць пры адсутнасці імкнення "мадэрнізаваць", "удасканаліць" вобраз сябе колішняга (сямі-, васьмі-, трынаццацігадовага). Напрыклад, ва ўжо згаданай "Мяжы" я-герой, падлетак, зайшоў у хату да нядужага Лявона, бацькі яго вясковых сябрукоў: "Дзядзька Лявон паспрабаваў сесці ў ложку. Ён хапаўся за брудны ручнік, навязаны ў нагах, да білаў. Лявон хацеў са мной павітацца, як даросламу падаў руку. А я не пацісну яго шырокую далонь з цёмнымі пальцамі і бруднымі пазногцямі. Адно спытаў пра некага з сыноў і выйшаў з хаты, дзе гулі мухі. Вышываны ручнік павязалі суседу на дубовы крыж, а праз сем гадоў такі ж ручнік павязалі на крыж майму дзеду. Яны ляжаць побач, як і жылі..."

3. Удалыя суадносіны зместу і формы; адпаведнасць "акварэльных малюнкаў" (як жанравай мадыфікацыі лірычнай мініяцюры) чытацкім магчымасцям сённяшняй публікі, а таксама збалансаванае спалучэнне лірычнай медытатыўнасці з апавядальнасцю (тут: мінімальнай "сюжэтнасцю" мініяцюр): "Ні дзед, ні баба маліцца мяне не вучылі. У маладыя гады дзед спяваў у царкоўным хоры. Аднойчы ён расказаў доўгую малітву. Тое было, калі я хварэў. Я ляжаў у ложку пад ватнай коўдрай і глядзеў на дыванок. На залатых аленяў, на сінюю ваду, кучаравыя аблокі і дзівосныя дрэвы... Дзед сядзеў побач, гладзіў маё плячо і няспешна гаварыў. Незразумелыя словы не давалі заснуць... Сніліся мне алені і бліны" ("Малітва").

"Разамкнутасць" кампазіцыі гэтага твора У. Сцяпана абумоўлівае немагчымасць канчатковай "кропкі", прынцыповую "нонфінальнасць" аповеда. Нават смерць дзеда Ладзіміра, якая ў тэксце згадваецца не аднойчы, для апавядальніка не ёсць падставай спыніцца: яна, хутчэй, кожны раз становіцца адмысловай "кропкай біфуркацыі", з якой пачынаюць множыцца ўсё новыя і новыя гісторыі. Напрыклад, у блогу (LJ) У. Сцяпана натрапіла на допіс, які арганічна мог бы глядзецца ў творы "Дзед" — а мог бы і сам запачаткаваць у новы "праект":

"Цар Мікалай, Ленін, Сталін, Хрушчоў, Брэжнеў, Машэраў, старшыня калгаса, брыгадзір, аграном — майму дзеду не падабаліся. Я гэта адчуваў па тым, як ён прамаўляе іх прозвішчы і імёны.

Бо зусім іншым голасам дзед гаварыў пра сваіх бацькоў, братоў, дзяцей, унукаў і праўнукаў. Нават імёны некаторых аднавяскоўцаў прамаўляліся з павагай. Пра зямлю, дрэвы, яблыкі, бульбу, гарбузы, добрае цяля, карову, парсюка, сабаку дзед расказваў з задавальненнем. Але на сцяне, побач з люстэркам, доўгі час вісеў партрэт Леніна, а пад ім на цвічку — нажніцы.

Гэта быў чыста беларускі праект".

Недахопы:

1. Якраз асобаснасць зместу ў некаторых выпадках абумоўлівае мастацкую, эстэтычную "бязмэтнасць" мініяцюр-"акварэляў": "Канец лістапада, пачатак снежня, асабліва калі яны чорныя і бясснежныя, мой дзед не любіў. Зразумела, што дзед не выключэнне, старыя людзі і ў горадзе гэты цёмны час не паважаюць" ("Цемра").

2. У адзінкавых выпадках апавядальнік збыткоўна шчыры ў сваёй рэалістычнасці (ці, можа, залішне рэалістычна адлюстроўвае сваю колішнюю шчырасць) — ажно да неўразумеласці. Так, на мой погляд, адбылося ў мініяцюры "Пастка", дзе ўласна аповед "канфліктуе" з фінальнай фразай. Я-герой згадвае камору ў дзедавай хаце, тое, як на яго, васьмігадовага, скочыў у гэтай каморы пацук і як пасля пацук трапіў у пастаўленую дзедам ды ўнукам старую іржавую пастку: "Жалезныя скіvіцы сціскалі вялізнага пацука з кароткім хвастом. "Вось і трапілася, бач ты — цяжарная... А пастка добрая. Секанула, аж шлунне павылазіла". Дзед узяў у паветцы рыдлёўку, і мы з ім пайшлі закопваць цяжарную пацучыху пад плот. А пастку дзед павесіў высока ў паветцы, скіvіцы скруціў дротам, каб у крый Божа, не расціснуў.

Мне радасна, калі згадваю тыя дні".

Як многа, аказваецца, нагод для радасці ў (васьмігадовых) хлапчукоў.

3. Вышукванне "недахопаў" у гэтым творы У. Сцяпана для мяне сталася такой жа нялёгкай работай, як з балота цягнуць бегемота. І хацелася вытрымаць сіметрыю "ўхвалаў" / "прэтэнзій" — а сілоў не хапіла; затое з'явілася магчымасць згадаць пра свае мітрэнгі — і на нейкі час уніknуць гарантаванага "крытычнага стрэсу".

## Алесь Грыбоўскі



Вартасці:

У айчынным літаратуразнаўстве па сённяшні дзень вядуцца спрэчкі наконт "арыгінальнасці" мастацкага твора і крытэрыяў яе вызначэння. Але, па-мойму, да нейкага пэўнага і замацаванага вызначэння навукоўцы так і не прыйшлі. Некаторыя вучоныя-філолагі нават лічаць, што ў сённяшняй літаратуры ўжо проста немагчыма стварыць штосьці новае, адмысловае, непадобнае да ўсяго папярэдняга. Маўляў, усё вычарпана і вытаптана – ані лапіку няходжанага не засталося. Дык вось, на маю думку, "акварэльныя малюнкі" Уладзіміра Сцяпана — гэта ўзор менавіта арыгінальнай прозы, узор таго, як тэму, сотні разоў увасобленую ў літаратуры, можна асвятліць па-новаму, інтэрпрэтаваць па-свойму...

Само жанравае вызначэнне твора — ужо цікавіць і прыцягвае ўвагу, бо насамрэч не мае непасрэдных аналагаў у нашай літаратуры. (Узгадваюцца толькі "Паляўнічыя акварэлькі" Янкі Лучыны, але, зразумела, што гэта зусім розныя творы). Аўтар выступае сапраўдным адкрывальнікам з пункта гледжання формы. Безумоўна, "Дзед" Уладзіміра Сцяпана можа быць успрыняты як сукупнасць празаічных мініяцюр, невялічкіх замалёвак, успамінаў аўтара. Аднак прадмет мініяцюры — пераважна знешні свет, а не ўнутранае жыццё аўтара. Гэтай тэзе, на мой суб'ектыўны погляд, "акварэлькі" Сцяпана якраз супярэчаць. Аўтар не проста малюе тыя ўспаміны, якія звязаны для яго з асобай дзеда, малёнствам, вясковымі рэаліямі, але і дзеліцца чымсьці вельмі асабістым, дацклівым, сакрэментальным. Ён адкрывае перад чытачом душу, свае глыбока інтымныя пачуцці. І адначасова ўзводзіць "сваё" ў ранг "агульнага", "агульназначнага". І гэта ёсць самай галоўнай вартасцю твора.

"...Ён зрабіў мне маленькую рыдлёўку і касу пад мяне. І малаток у мяне быў свой — спрытны, маленькі, з ясеневай ручкай. Здавалася б, а што мне, гарадскому чалавеку, з той сялянскай навукі, дзе я магу яе скарыстаць сёння? Але за кожным з гэтых заняткаў стаяць зямля, лес, пожня, жывёлы і птушкі, дождж і снег. За гэтым хаваюцца родныя словы. І не важна, што зараз многія амаль выйшлі з ужытку, зрабіліся старажытнымі. Але музыка захавалася... Тая сапраўдная, адзіная... Не расійская і не літоўская, не польская і не ўкраінская, а свая. Хацеў напісаць пра дзеда, а напісаў пра выхаванне..." Хіба гэта пра дзеда? Хіба гэта пра выхаванне (ці, так званую, "народную педагогіку")? Так. І не так. Бо гэта — пра штосьці значна большае, значна глыбейшае. Пра светаадчуванне беларуса, пра тыя выходныя жыццёвыя пазіцыі, першыя ўражанні і пачуцці, якія фармуюць асобу, пра складаныя ўзаемасувязі і суіснаванні пакаленняў. Мне думаецца, тэматыку і праблематыку "Дзеда" вельмі слушна вызначыла мая выкладчыца беларускай літаратуры, якая сказала, што гэты твор "пра яе... і пра нас усіх".

Што ж, правамерна сказаць пра Уладзіміра Сцяпана, што ён — сапраўдны майстар слова і адораны пісьменнік. Правамерна, але недастаткова... Ён — вельмі таленавіты мастак, бо дазваляе свайму чытачу адчуць і згадаць па-за ягонымі словамі штосьці сваё — глыбокае і глыбіннае, шчымлівае і дарагое. "Куфар", "Гадзіннік", "Словы", "Час", "Скарб"... Для кожнага з нас яго гісторыі — асабістыя, у кожнага з нас – свой "час", свой "куфар" успамінаў і жыццёвага досведу, свой "скарб" пачуццяў, уражанняў, перажыванняў... Дзеля прыкладу — яшчэ адна цытата: "Прыкладна такой парой, снежаньскімі днямі, калі свята прыходзіла позна, а цямнела рана, дзед збіраў усе, якія меліся ў хаце, нажы. Адбывалася гэта пасля сняданку. Адзін нож быў вялікі, як меч. Лязо цёмнае, а ручка з драўлянымі тронкамі. Нажоў тых шэсць. Мы з дзедам ішлі да тачыла. Я трымаў нажы, а дзед, уздзеўшы акуляры, гайстрыў. Круціўся шэра-бэзавы шурпаты камень, сыпаліся іскры. Былі яны неверагодна зыркія, але зусім не гарачыя. Мне падабалася лавіць іх далонню. Дзед засяроджана і старанна гатаваў рыштунак. Гуло каменнае кола, звінела жалеза, я задаволена шморгаў носам. Самы вялікі нож рабіўся падобным да селядца — чорная спінка, срэбнае пуза... І на душы ў мяне рабілася святочна, бо сённяў ўвечары прыедуць бацькі, а заўтра мы будзем калоць свінню... У дзеда настрой сумнаваты, ён пакрыквае, каб я не здымаў з рук вязёнкі, не развязваў шалік, не смактаў снег. Гэта ніколі не паўторыцца". Я перакананы, што кожны чытач тут згадае штосьці сваё: нехта вельмі падобнае да таго, пра што вядзе рэй пісьменнік, нехта – крыху іншае, тое, што адбілася ў яго прыватных успамінах. Але мы чытаем і разумеем блізкасць і крэўную повязь людзей, што жывуць на гэтай зямлі і завуцца беларусамі, адчуваем пайднанасць нашых лёсаў і ўзаемапранікальнасць нашых думак...

Недахопы:

Ніякіх недахопаў у творы Уладзіміра Сцяпана я не заўважыў. Магчыма, што ў гэтай справе ("вышуку хібаў") у мяне яшчэ недастаткова вопыту, бо я "не чараўнік, я яшчэ толькі вучуся".

Хачу сказаць толькі адно. Можа, і памыляюся, але здаецца, што сёння гаварыць пра сучасных (жывых, дзейсных) пісьменнікаў, што яны стварылі штосьці "геніяльнае", лічыцца за "маветон". Калі насамрэч так, то рызыкую патрапіць у кола так званых "дзівакоў". І ўсё ж дазволю сабе гэткую "смеласць" і прызнаюся, што лічу Сцяпанавага "Дзеда" геніяльным творам.

## Сяргей Грышкевіч



Калі пісьменнік не ведае, пра што пісаць, ён адкрыта звяртаецца да аўтабіяграфіі. У падобным становішчы апынаюцца звычайна тыя, хто ўжо перайшоў 50-гадовы тэрмін зямнога існавання. Помніце вядомае выказванне: "Мудрасць прыходзіць з гадамі, але бывае, што гады прыходзяць адны"? Так і ў літаратуры. Пісьменнікі са стажам пачынаюць дзяліцца ўласным жыццёвым вопытам, у якім даволі часта няма нічога унікальнага і цікавага. Але чалавечую псіхалогію не зменіш, як не адкрыеш ужо даўно адкрытыя ісціны. На жаль, некаторыя творцы не разумеюць, навошта бясконца паўтараць папярэднікаў і чаму нельга свечасова спыніцца. У выніку з'яўляюцца новыя аповесці і раманы, дзе ў чарговы раз ставяцца і, як заўсёды, не вырашаюцца старыя пытанні. Гэта адбываецца таму, што ў асобных пісьменнікаў адсутнічае элементарная адказнасць перад чытачамі. Імкненне да пісання ёсць, а здольнасцей няма. Адсюль і горы макулатуры.

Апошнім часам на старонках перыядычнага друку даводзіцца сутыкацца з тым, як пісьменнікі з настойлівай цудлівасцю, вартай лепшага прымянення, пачынаюць азірацца на пройдзеныя зямныя дарогі. Адны вяртаюцца ў гады бесклапотна-шчаслівага дзяцінства,

другія з настальгічным жалем згадваюць маладосць, а трэція (з усведамленнем наканаванага і неадпрэчнага) апісваюць перыяд бязрадаснай старасці. Добра, калі ўласная біяграфія дацягвае да пэўных філасофскіх абагульненняў і перад чытачом паўстае разгорнутая панарама чалавечага жыцця ў эпоху глабалізацыі, але найчасцей здараецца адваротнае. Калі няма цікавай асабістай гісторыі, многія не могуць яе нават выдумаць. І што ў выніку напішуць тыя, у каго ні жыццёвага вопыту, ні фантазіі, акрамя паталагічнага імкнення пісаць абы-што?

Калі знаёмішся з падобнымі творамі, узнікае заканамернае пытанне: "Дзеля чаго/каго яны напісаны?" Няўжо пісьменнікі не разумеюць, што іншым, магчыма, будзе нецікава чытаць пра іхніх бацькоў, вясковае маленства, прыгажосць родных краявідаў на малой радзіме? Жыццёвая прастора аўтара не павінна абмяжоўвацца сямейнымі стасункамі з родзічамі, інакш аповед ператвараецца ў банальны серыял з сентыментальным ухілам, дзе кожная побытавая дэталь набывае ўяўны глыбінны сэнс і сімвалічную шматзначнасць.

Усё гэта датычыцца акварэльных малюнкаў "Дзед" Уладзіміра Сцяпана. З цягам часу проза гэтага аўтара настолькі звузілася да ўласнага мікрасвету, што пачала ўспрымацца як мемуарыстыка, сямейна-альбомны летапіс, да формы якога пісьменнік прыйшоў шляхам няспыннага корпання ў самім сабе. У невялікіх замалёўках Сцяпан з дакладнасцю мастака ўзнаўляе дзіцячыя гады, надаючы пэўным жыццёвым сітуацыям амаль сакральнае значэнне. Учэпістая памяць аўтара ўражвае фактажом дробных падзей, якім даецца маштабнае абагульненне. У звычайных жыццёвых з'явах і падзеях пісьменніку з вышыні пражытых гадоў бачацца заканамернасць і прадвызначанасць, абумоўленыя чалавечым лёсам у цэлым.

Тое, аб чым многія проста не задумваюцца, становіцца ў мікрапрозе Уладзіміра Сцяпана аб'ектам пільнай увагі і вывучэння. Аўтар лоўка прыкрыўся ў пачатку твора эпіграфам з Івана Буніна, чым завочна апраўдаў сваю чуллівую здзяцінеласць: "Сердцем помню только детство: // Всё другое — не моё". Гэтыя радкі, па сутнасці, і прадвызначылі танальнасць настальгічных аповедаў пра часы малодшага школьнага ўзросту. Навука жыцця, засвоеная паводле дзедавай педагогікі, набліжае пісьменніка да пэўных ісцін, у прыватнасці да фатальнай непазбежнасці, наканаванай чалавечаму роду. Нам, грэшным, застаецца толькі радавацца кожнаму шчасліваму імгненню ды знаходзіць духоўнае апірышча ў простых рэчах.

Гадзіннік з ходзікамі, груваткі сялянскі куфар, піла, абраз, зямля, венскае крэсла, самаробная халва, драўляная лыжка, самагонка, касьба, дошкі для труны, радыёпрыёмнік, дзічка, шэрая кепка, старое люстэрка, крыж — ва ўсім гэтым для аўтара заключаны патаемны сэнс, кожны прадмет каштоўны, кожнае слова, вымаўленае даўным-даўно, цёплае і кранальнае. Так бывае, калі гады бяруць сваё: памяць чапляецца за мінулае, каб не страціць повязь з сённяшнім ды абгрунтаваць пражытае, якое (хочацца спадзявацца) было недарэмным і апраўданым.

Я не лічу акварэльныя малюнкі Уладзіміра Сцяпана значным дасягненнем у ягонай творчасці. Гэта проза, якая адкрывае вочы аўтару на самога сябе і мае індывідуальна-спажывецкі характар. Падчас разважанняў і ўспамінаў пісьменнік падыходзіць да пэўных высноў, нібыта агульных для ўсіх, але вынесеных з уласнай сям'і. Ці патрэбны падобныя рэквіем па родзічах і дзяцінстве, выстаўлены на агульны паказ? Неабходнасць і вартасць такіх тэкстаў, на мой погляд, сумнiўная. Яны добра падыходзяць пад газетную рубрыку "Асабістае" (глядзіце Сцяпанаву калонку ў "СБ"), аднак з літаратурай нічога агульнага не маюць. У. Сцяпану не варта выкарыстоўваць службовае становішча ў напісанні сямейных хронік. Калі кожны пачне пакідаць-увекавечваць сябе і сваіх дарагіх родзічаў на старонках літаратурных газет і часопісаў дзеля памяці нашчадкаў, творчасць ператворыцца ў звычайную прафанацыю. Быць летапісцам-хранікёрам усё ж прасцей, чым пабудаваць арыгінальны сюжэт з адметнай ідэяй у сапраўдным мастацкім творы.

## Лада Алейнік



Вартасці:

Такія творы, як "Дзед" Уладзіміра Сцяпана, вельмі цяжка "аналізаваць" (у сэнсе — абстрагавацца ад эмоцый і весці гаворку пра стыль, вобразнасць, асаблівасці кампазіцыі безадносна да тых пачуццяў, якія цябе перапаўняюць). Як тут апеляваць да літаратуразнаўчых катэгорый, калі падчас чытання табе дыхаць было немагчыма, бо сэрца паднялося ў горла і пульсавала там камяком шчымлівага болю? Калі радкі то штурхалі ў прорву ўспамінаў, то пераносілі ў свет мрояў ды летуценняў, то змушалі пакутліва сумаваць па чымсьці светлым і незваротным?.. Чытаю ў Сцяпана: "Я забыўся тысячы родных слоў. Тых, прамоўленых дзедам доўгімі восеньскімі вечарамі, летнімі днямі на палявых і лясных дарогах. Шкадую, што няўважліва слухаў, што не запісваў, што не зберог… Але ведаю, што многія згадаю, калі вазьму ў руку ці дакрануся позіркам: да травінкі, да дрэва, да кавалка цагліны, ці прысню альбо пакаштую… І тады я зноў пачую голас свайго дзеда". Альбо яшчэ: "Прыязджаў у вёску да дзеда з бабай. Не, каб пасядзець з імі, параспытваць, паслухаць… Бег да вясковых падшыванцаў у карты гуляць, на конях калгасных па полі гойсаць, з прыпяканак страляць. А баба шмат песень ведала, а дзед мог расказаць пра… Цяпер думаю, каб вярнуць назад, то сядзеў бы з дзедам і слухаў, слухаў..." Чытаю вачыма. А душой — ва ўласным маленстве. І шкадую аб тым самым, пра што піша Сцяпан, і смуткую гэтаксама... Вось і скажыце, калі ласка: як аналізаваць такія творы? Гэта прыкладна тое самае, як спрабаваць тлумачыць "чаму" альбо "за што" любіш дарагіх табе людзей, аргументуючы пачуцці тым, што ў іх вельмі прамяністыя і сэрцы пяшчотныя. Тут што ні скажы — усё роўна ўсяго не выкажаш. Застаецца яшчэ нешта, што існуе па-над словамі, нешта такое, што не падлягае "вербальнаму" ўвасабленню. Карацей, не магу сябе гвалціць і змушаць да "літаратуразнаўчага аналізавання". Спрабую адно падзяліцца асабістымі ўражаннямі ад твора. Дый нават гэта няпроста...

...У верасні гэтага года майму бацьку магло б споўніцца 80. Мінула амаль тры гады, як ён пайшоў у лепшы свет. Я не буду цяпер вытлумачваць кім і чым ён быў для мяне і ўсёй маёй сям'і. Маю намер расказаць пра гэта з цягам часу. Таму, калі згадваецца нейкі яркі эпізод з мінулага, па-хуткаму занатоўваю. Такіх запісаў сабралася ўжо нямала. І вось чытаю Сцяпана... Чытаю, і ніякавею: што гэта за містыка? Як ён здолеў "падгледзець" і "падслухаць" маё жыццё, мае пачуцці?!. Я яшчэ толькі збіралася пра гэта ўсё напісаць, а тут ён са сваімі "акварэльнымі малюнкамі"! Ну, вось, напрыклад: "Мы з дзедам пілуем дровы. Мне гадоў сем. Пілуе дзед, а я дапамагаю. Цягаю аберуч вялізную чорную пілу, напінаюся, стараюся. Вострымі зубамі ўгрызаецца чорная піла ў бярозавае бервяно, струменьчыкам сыплецца пілавінне. Дрэва цвёрдае, а пілавінне мяккае і духмянае. Мне гэта падабаецца. Я люблю працаваць з дзедам на пару. Ён не прыспешвае, не сварыцца, калі нешта не атрымліваецца адразу. <...> Памятаю, што калі прыйшоў стрыечны брат Міша з фотаапаратам, дзед адставіў пілу і ўзяўся зашпільваць на кашулі каўнер. <...> Застаўся фотаздымак. Няма майго дзеда. Няма той пілы. Даўно згарэлі і дровы, што мы напілавалі. Застаўся ўспамін пра летні дзень, пра дзеда Уладзіміра, пра пах пілавіння і новую ручку для пілы, якую зрабіў дзед, каб мне было зручна яму дапамагаць. Гэта намалявала. Толькі малюнак, як і фотаздымак, не змесціць усіх тых пачуццяў, якія выклікае ў маёй душы такая простая і дасканалая рэч, як вялікая чорная піла". У мяне перад вачыма — мой сямігадовы сын, які пілуе з дзедам дровы. Наяве адчуваю той самы "пах пілавіння". Чую бацькаў голас, які спакойна даводзіць унуку тонкасці "гаспадарчай навукі". У мяне нават фотаздымак гэткі ёсць!.. Фотаздымак, на якім зафіксавана маленькае імгненне шчасця.

А вось мініяцюра "Смак": "Самая смачная беларуская страва — звараная на добрым кавалку свініны кіслая капуста з сухімі баравікамі. Зімовая ежа. Сытная. Мы з дзедам па тры-чатыры разы на дзень маглі есці тую гарачую капусту. За акном снег, холадна, а мы сядзім за сталом і ядзім. Адзін на аднаго паглядаем. А баба наша задаволеная... І нам так добра і ўтульна, і так нам смачна, што і не расказаць словамі..." Увачавідкі бачу тую хату, дзе прайшлі мае дзіцячыя гады, адчуваю смак "кіслай капусты з сухімі баравікамі", бачу зімовую вёску і поле, укрытае снегам, якое дзесьці ў самай далечыні злучаецца з небам. Я фізічна адчуваю гэтую ўтульнасць, пра якую піша Сцяпан! Мне так соладка, што на вочы нагортваюцца слёзы...

Чытала, і мяне апаноўвалі самыя розныя пачуцці — шчырае захапленне і пякучая рэўнасць. Я ўдзячна Сцяпану, што прымусіў нанава перажыць светлыя моманты майго жыцця. Я зайздрошчу яго таленту, бо так хораша, як ён, я не здолела б пра ўсё гэта сказаць.

І яшчэ адзін, так бы мовіць, факт. Сцяпанаўскага "Дзеда" прачытала ўвечары, а з раніцы — лекцыя на філфаку БДУ. Уляцела ў аўдыторыю і па-хуткаму (за пару хвілін да пачатку заняткаў) пачала даводзіць студэнтам — маўляў, выключная рэч, раю прачытаць... Хтосьці "з галёркі" запытаў: "А пра што гэта?.." Вось тут я разгубілася. Сапраўды, пра што напісаў Сцяпан? Пра дзеда?.. Пра маленства?.. Пра вёску?.. Быццам бы так. Але ж не толькі. "Пра мяне, — кажу, — напісаў. І пра вас таксама..." На наступнай лекцыі (праз пару дзён), крыху хвалюючыся, пытаю: як уражанні? Ніводзін студэнт з вялікай (пад сотню чалавек) аўдыторыі не выказаў расчаравання. Толькі ўзрушаныя водгукі. Толькі захапленне. Гэта пры тым, што нашыя студэнты — народ даволі скептычны, ды, апроч таго, большасць з іх — інтэлігенты далёка не ў "першым калене", да вясковай рэчаіснасці ў іх не такія ўжо й трапяткія адносіны. Рэакцыя гэтай аўдыторыі для мяне — яшчэ адзін доказ своеасаблівай "універсальнасці" твора Уладзіміра Сцяпана, яго мастацкай маштабнасці і шматмернасці, калі хочаце.

Мне здаецца, што да гэтай рэчы пісьменнік падступіўся ў вельмі "правільны" час — ва ўзросце "не хлопчыка, а мужа", калі пачуцці і думкі — выспеленыя, узважаныя, глыбока асэнсаваныя. Згадваецца меркаванне Алеся Яскевіча, якое мне падаецца вельмі слушным: "Яна, гэта яркасць дзіцячага бачання <...>, можа стаць вялікай тэмай, калі да дзяцінства вяртаюцца з вялікім жыццёвым вопытам і новым падыходам, калі на матэрыяле дзяцінства расказваюць аб чымсьці іншым, магчыма, самым галоўным для пісьменніка, калі на гэты пласт прыжытага кладзецца "ўся таўшчыня" наступнага жыцця". "Акварэльныя малюнкі" Сцяпана — гэта не толькі творчая ўдача аўтара, не толькі рэч, якая, несумненна, зойме пачэснае месца ў шэрагу лепшых узораў айчыннай прозы... Гэта яшчэ той славуты "пропуск" у творчую лабараторыю мастака, пра які мноства разоў пісалі нашыя найбольш аўтарытэтныя даследчыкі літаратуры. Для мяне асабіста Сцяпанаў "Дзед" стаўся вытлумачэннем прыроды выключнага пісьменніцкага таленту аўтара, яго вытанчанай мастацкай чуйнасці і пранікальнасці.

Ну і апошняе... Мне цяжка ўявіць чытача, якога гэты твор пакіне абыякавым (ці ўвогуле выкліча катэгарычнае адпрэчванне). Такому чалавеку я магу толькі паспачуваць, бо хутчэй за ўсё жыццё яму чагосьці не дадало (магчыма, яго не любілі ў дзяцінстве, альбо ён сам не здольны любіць). Бо, як пісаў Віктар Каваленка, "праўда вялікага жыцця ў тым, што ўсё неспасцігнутае, незразуметае, неперажытае — мёртвае для чалавека. Глыбіня адчування і спасціжэння — гэта і ёсць само жыццё, яго радасць".

Недахопы:

У мяне даўно склалася звычка чытаць "з алоўкам" (каб адразу ж можна было штосьці падкрэсліць, пазначыць). Але апошнім часам даводзіцца шмат чытаць "з камп'ютэра". Тут ужо крыху іншая "тэхналогія": тое, што падаецца вельмі ўдалым, адметным, – вылучаю чырвоным колерам; тое, што выклікае нязгоду — сінім; штосьці зусім няўдалае — зялёным... Сцяпанаўскага "Дзеда" чытала менавіта ў электронным выглядзе. А калі скончыла чытанне, заўважыла, што ўвесь тэкст афарбавала ў чырвоны колер. Сама з сябе рассмяялася... Ну, а калі зусім шчыра, сінім у мяне была пазначана адна літара — "з" у слове "раматуз" (паводле правапісу павінна быць "с"). Вось, відаць, і ўсё, што тычыцца недахопаў.

## Калонка Асі Паплаўскай

# Простыя словы. Простыя назвы



Мінулым разам я паспрабавала разабрацца ў тэндэнцыях, што прасочваюцца ў афармленні вокладак кніг сучасных беларускіх літаратараў. Прыспеў час, каб пагаварыць пра не менш істотны складнік паспяховага, яркага, запамінальнага выдання: назву.

Кнігі як дзеці: як назавеш, так і будуць яны плыць (ісці, бегчы, ляцець) па жыцці. Часта сустракаеш чалавека і кажаш: "Табе так пасуе тваё імя!", а часам: "Нееее, гэта не тваё імя. Табе пасавала б…" і пайшлі варыянты. З кнігамі тое ж. Якую назву магла мець, скажам, першая кніга М. Мартысевіч? Толькі "Цмокі лятуць на нераст"! Без варыянтаў! Затое другой кнізе В. Трэнас "Экзістанцыйны пейзаж" назва гэтая, шчыра кажучы, не пасуе (чаго не скажаш пра назоў першай кнігі паэткі "Цуд канфіскаванага дзяцінства")…

Людзям лепей чым кнігам: не тваё імя далі табе бацькі, няўтульна табе з ім — ідзі ў ЗАГС ды мяняй. Яркі прыклад чалавека, які пайшоў ды памяняў імя несваё на сваё — аўтар гэтых радкоў. Назву ж кнігі не памяняеш…

Як вокладка, так і назоў кнігі павінны запамінацца. Гэта, бадай, асноўная і першасная функцыя назвы і мэта аўтара. Каб нават людзі, не адораныя здольнасцю "фатаграфаваць" аб'екты і тэкст і захоўваць іх у памяці, адкрылі ў сабе гэтую магчымасць. Запамінаюцца назвы не кароткія ці доўгія, а арыгінальныя, яркія, простыя, але не праставатыя. Такія непраставатыя назвы маюць кнігі "Як?" С. Дубаўца, "Цэнтр Еўропы" У. Някляева, "Фрашкі да пляшкі" С. Кваткоўскага, "Няголены ранак" В. Гапеевай, "Тамсама" В. Куставай, "Дыялогі з Богам" В. Акудовіча, тыя ж "Цмокі" М. Мартысевіч ды іншыя.

Як мы запамінаем, завучваем новыя замежныя словы? Правільна! З дапамогай асацыятыўных шэрагаў. Пералічаныя вышэй назовы спрыяюць нараджэнню ў нас асацыяцый — таму і застаюцца ў памяці. Назвы ж кніг "Акно для матылькоў" М. Скоблы, "У небе сонца заходзіць самотна" Я. Зубовіча, "Таму, хто знойдзе…" Т. Сівец, "Экзістанцыйны пейзаж" В. Трэнас не чапляюць, таму і выпадаюць з галавы.

У назвах кніг сучасных так званых авангардных (хтось памылкова лічыць іх андэграўднымі, іншыя зноў-такі памылкова — постмадэрновымі) літаратараў ярка прасочваецца тэндэнцыя да змрочна-дэструктыўных назваў: "Практычны дапаможнік па руйнаванні гарадоў" ды "Сарока на шыбеніцы" А. Бахарэвіча, "Кроў на сумётах" ды "Крывавы памол" С. Сокалава-Воюша, "Разбурыць Парыж" В. Акудовіча, "Крыві не павінна быць відна" Н. Бабінай, "Бунт незапатрабаванага праху" ды "Дзікае паляванне ліхалецця" В. Казько. Нібыта адказваючы памянёным аўтарам, Б. Пятровіч свае кнігі называе жыццясцвярджальна: "Шчасьце быць…", "Жыць не страшна". Імкненне пісьменнікаў даваць сваім кнігам змрочныя назвы, можна патлумачыць тым, што негатыўнае, адмоўнае, вусцішнае лепей запамінаецца. Кніжныя паліцы ў кнігарні можна параўнаць з выпускам навінаў: добрыя ці нейтральныя навіны (светлыя, пустыя назвы) выветрываюцца імгненна, навіны ж пра трагедыі, катастрофы і смерці (тыя самыя дэструктыўна-крывавыя назовы) замацоўваюцца ў памяці.

Асабіста мне падаюцца цікавымі, арыгінальнымі назвы з элементам гульні, загадкавасці: "АдмыСЛОВЫя гульні" А. Кавалеўскага, "Вытлумачэнне ру[і]наў" І. Бабкова, "Вершnick" А. Івашчанкі, "Бэрлібры" (што значыць, "берлінскія верлібры") А. Хадановіча, "ЖываЯ" А. Спрынчан, гуллівыя пераробкі вядомых твораў "Імя грушы" С. Балахонава (узгадайма знакаміты раман "Імя ружы" Умбэрта Эка), "Лісты з-пад коўдры" А. Хадановіча ("Лісты з-пад шыбеніцы" Кастуся Каліноўскага).

Асаблівую і асобную групу складаюць кнігі, у назве якіх прысутнічае іншамоўны элемент (элементы): «Pager-вершы» Г. Лабадзенкі, "In Вільня Veritas" (творы фіналістаў конкурсу маладых літаратараў да стагоддзя "Нашай нівы"), "Play.by" А. Глобуса, "Вершnick" А. Івашчанкі, "Дзевяностыя forever" С. Прылуцкага, "Alter nemo" Ю. Барысевіча.



## Яўген МІКЛАШЭЎСКІ

### Вецер

Выйшаў вецер у сад пагуляць,
Вырваць явар з карэннем ці ясень…
Нешта вывернуць,
з пылам падняць,
Абярнуць, перастаўіць, сарваць
Любіць ён, разгуляўшыся, часам.

Можна словы на вецер кідаць...
Толькі кіньце —
і ўбачыце самі,
Як далёка яны заляцяць!
Нібы звязкі шароў, замігцяць
І рассыплюцца ў небе агнямі.

Ды, калі яны падаць пачнуць,
Гэта будуць не словы — камені!
Не паспееце вокам міргнуць,
Як умомант да долу прыгнуць
Ці паставяць ураз на калені.

Супраць ветру наўрад ці падзьмеш.
Нельга з ім і змагацца сам-насам.
Зашуміць —
і ні меры, ні меж!
Жарты ён разумее, але ж...
Каб ад іх вы не плакалі часам.

* * *

Нанізаў паэт са слоў,
Вечаровых, бурштыновых,
Звязкі мыльных пухіроў —
Каляровых-каляровых!

Зіхацяць, трымцяць, мігцяць!
Сутыкнуцца ж утрапёна —
Толькі пырскі паляцяць,
Як раса з лістоты клёна.

Пырсне ў твар табе пухір
Каляроваю імжою —
Паляцяць і ўздоўж, і ўшыр
Пырскі радасцю чужою.

* * *

Ты добрыя, пэўна, давай бы парады,
Як трэба змагацца... і як і за што.
Ды толькі, калі ты не маеш улады,
Цябе не пачуе ніхто.

Пакуль не ўзляціш
метэорам угору —
І слухаць не будуць цябе.
Ды як памагчы чалавечаму гору,
Як сам апынешся ў бядзе?

Таго ўсе пачуюць і ўбачаць, хто будзе
Стаяць над людзьмі найвышэй.
Ды толькі каму,
як не дурню-прыблудзе
Да хмар узляцець найлягчэй?

Хто змог на Алімп,
як на вышку, падняцца —
Здабыў незямны арэол.
Хто змог на Алімпе
з багамі зраўняцца —
Зляціць на зямлю, як анёл.

Натоўпу не скажаш разумнае слова —
Ён быццам аслеп і аглух.
Твой голас трывожны часінай суровай
Не ўздыме надломлены дух.

Ты добрыя даў бы,
напэўна, парады,
Як трэба змагацца...
За што…
Ды толькі,
калі ты не маеш улады,
Цябе не пачуе ніхто.

* * *

Закаласіліся палеткі,
І зацвітае сінім лён.
Хачу —
бяру свой верш у сведкі —
Вярнуць уцеху даўніх дзён.

Раней, чароўная,
як птушка,
Што вешчай і цяпер слыве,
Мяне кахала Папялушка
З вянком лілей на галаве.

Але яны даўно завялі —
Не заадно з яе красой?
А я ж аддаў ёй на каралі
Натхненне —
самародак свой!

Ды час,
што ўсё на свеце пляжыў,
Красу і ўцеху не зберог:
Ён харaство яе заўважыў,
Ды зберагчы яго не змог.

Калі скакалі ў змроку здані
Ад забыцця да небыцця,
Яна з'яўлялася, як ззянне,
З вяршыняў хмарнага жыцця.

І залаты свой самародак
Я вечнай скрусе падарыў.
Час — сапраўды апошні сродак
Ад усяго. Як і Абрыў.



## Іван ЛАГВІНОВІЧ

* * *

На сасновай ігліцы —
радніне рудой —
непрытомныя вожыкі шышак.
Пень трухлявы мышастай
трасе барадой,
баравою збянтэжаны цішай.

Пяты дзень не чуваць
галасоў грыбнікоў
і птушыных харалавых спеваў.
Заклапочаных егераў
і леснікоў
у дамоўкі загнала залева.

— А грыбы, быццам перад вайною,
растуць
між дубоў, між бяроз і між сосен, —
статак з пашы прыгнаўшы,
гаворыць пастух, —
чаранамі — па пяць і па восем...

Забароны ніякай —
ідзі ды бяры!
Можна кош назбіраць за гадзіну.
Мне балюча глядзець,
як прыроды дары,
незапатрабаваныя гінуць...

### Песімістычна-аптымістычны дыпціх

1

Прайду сто метраў —
і дранцвеюць ногі,
то ў паясніцы,
то ў баку кальне...
Вандроўнік пешых дальнія дарогі
смугой тугі закрыты для мяне.

Збяднеў мой свет
на колеры і гукі.
Цяпер Нясвіж далёкі, як Парыж...
..Вучуся складваць
на грудзіне рукі,
каб правільны атрымліваўся крыж.

2

Вятры-ліхадзеі бярозу раздзелі...
Ну што ж,
пастаю пад зялёнай сасной.
У вырай шпакі, салаўі адляцелі,
але вераб'і засталіся са мной.

Таму і не скарджуся, не дакараю,
хоць снежань ужо набірае разбег.
У межах бацькоўскага,
роднага краю
заўсёды знайду суцяшэнне сабе.

* * *

Шчырых аднадумцаў-аднаверцаў,
крытыкаў-дарадцаў нестае...
Чарнавыя варыянты вершаў
"даспяваць" пакіну на стале
і пайду на водар медуніцы,
покуль дзіўны кветнік не завяў...
Там сярэбранае дно ў крыніцы,
залатое горла ў салаўя!
Пеюна таго Гадулька слухаў,
Сахарчук з тае крыніцы піў...

Прэч з вачэй маіх,
назола-скруха!
Не марудзь, дарогу саступі.



Фота Кацярыны Мяцельскай



## Мікола КАНДРАТАЎ

### Шукаю

Аксане Спрынчан

Шукаю радасці ў журбе,
шукаю вартасці ў Айчыне,
шукаю смеласці ў сабе,
шукаю светласці ў жанчыне.

Шукаю рэха — у гарах,
шукаю бляску іскры Божай,
шукаю вечнасці ў вачах…
І надараецца — знаходжу.

### У кавярні «Жар-птушка»

Калі сонца пад поўняй
свае промні патушыць,
мо сустрэнемся сёння
у кавярні "Жар-птушка",

што ля ціхай запруды?
Тут, бы ў светлым палацы,
сёння музыка будзе
і шляхетныя танцы.

Зноў музыка вядомы
са сваёю сябрынай
для гасцей і знаёмых
ладзіць тут вечарыну.

Шмат чароўных паненак
і хлапцоў зухаватых.
Так натанчышся — пэўна,
не захочаш дахаты.

І запомніш з пяшчотай
дух Айчыны спакусны,
і ружовыя шчокі,
і салодкія вусны,

і што сэрцу не душна —
вольна дыхаюць грудзі…
Дык прыходзь
у "Жар-птушку" —
сёння весела будзе.

* * *

Прасніўшы сон,
прачнуцца на світанні,
адчуўшы, што свабодны.
Лічыць сябе
абраным у каханні —
няшчыра й шкодна.

І нечаканым познім разуменнем
свой досвед дзён дапоўніць:
у гэтым сумным свеце
нават месяц
бывае рэдка поўняй.

* * *

Вясна для нас! Вясною сон датклівы,
як мары, што няспынна лёс прадуць.
Пагляд ці дотык
робяць дзень шчаслівым —
рака душы пазбавілася льду.

Настоена паветра на пяшчоце
і сонечныя ловіць прамяні,
што несамотна нават у самоце.
І дрэвы адпускаюць карані,

а сэрцы мрояць
водарам язміну
і блытаюць палёт,
балет і быт…
Між голым голлем
сумных успамінаў
праменіцца пралескавы блакіт.

# Самая чароўная кветка

## Апавяданне

Генадзь АЎЛАСЕНКА



Хоць спатканне з Васілінай было прызначана на пяць гадзін роўна, а трапіць да месца спаткання можна было хвілін за пятнаццаць-дваццаць, Мірон пакінуў сцены інтэрната дзесьці каля чацвёртай…

Надвор'е стаяла цудоўнае… а якім яно, скажыце, магло яшчэ быць у самым пачатку чэрвеня! І настрой у Мірона таксама быў адпаведны… Праўда, яго, настрой гэты, крыху псавала дакучлівая думка пра заўтрашні залік па эканоміцы… залік, да якога Мірон яшчэ не паспеў падрыхтавацца як след…

Але ж не адкладваць з-за нейкага там заліку спатканне з дзяўчынай, якая табе так падабаецца!

Калі казаць шчыра, Мірону падабалася шмат дзяўчат, дакладней, яму падабаліся ўсе без выключэння прыгожыя дзяўчаты навокал. Але Васіліна (магчыма, і не самая прыгожая з іх) падабалася Мірону яшчэ і тым, што, па ўсім відаць было, сам Мірон ёй таксама крыху падабаўся… Ва ўсялякім разе Васіліна заўсёды (хоць і з нейкім спазненнем) прыходзіла на спатканні, якія ён прызначаў ёй па мабільніку, і весела смяялася з яго немудрагелістых жартаў (больш ніхто са знаёмых, дарэчы, жарты Мірона смешнымі не лічыў). Праўда, да пацалункаў у іх справа пакуль што не даходзіла…

І вось сёння, ідучы на пятае па ліку спатканне з Васілінай, Мірон даў сабе ў думках клятву, што пацалуе яе абавязкова. І амаль адразу ж успомніў, што ідучы на папярэдняе спатканне, таксама даваў сабе гэткую ж клятву і, вядома ж, без усялякага станоўчага для сябе выніку…

"А сёння ўсё ж пацалую! — у думках запэўніў сябе Мірон. — Толькі не трэба цягнуць… я заўсёды цягну з гэтым да апошняга! А сёння пацалую Васіліну, як толькі яна падыдзе да мяне і павітаецца! Не, я пацалую яе нават раней, да таго яшчэ, як яна пачне вітацца. Яна ўсміхнецца мне, яна заўсёды ўсміхаецца пры сустрэчы… і ў гэты момант я яе пацалую! Я змагу нарэшце гэта зрабіць!"

Узрушаны гэткімі сваімі думкамі, Мірон хуценька перабег вуліцу і… ледзь не сутыкнуўся з нейкай бабулькай, якая павольна шыбавала насустрач. У адной руцэ бабулька трымала вялізную і, відаць, даволі цяжкую сумку, у другой — аб'ёмісты і, здаецца, не менш цяжкі кош…

— Прашу прабачэння! — прымармытаў Мірон, спыняючыся, каб прапусціць старую.

Але бабулька таксама спынілася і, паставіўшы сумку і кош на тратуар, падслепавата зірнула на хлопца.

— Ты не дапамог бы мне, сынок? — прагаварыла яна ўмольным голасам. — Тут недалёка…

Мірон зірнуў на гадзіннік. Да пачатку спаткання заставалася яшчэ сорак хвілін… можна накінуць сюды яшчэ хвілін дзесяць-пятнаццаць, бо Васіліна заўсёды спазнялася менавіта на столькі…

— Давайце! — згадзіўся ён без асаблівага, трэба сказаць, энтузіязму, і, узяўшы ў рукі кош і сумку, запытальна паглядзеў на бабульку. — Куды несці?

— Тут недалёка! — запэўніла хлопца бабулька. — Побач…

Але гэтае "недалёка" аказалася не зусім і побач. Яны прамінулі адзін тралейбусны прыпынак, потым другі, трэці… Мірон ужо збіраўся запытацца, а ці не пад'ехаць ім хоць трохі, як бабулька, змяніўшы накірунак, павярнула кудысьці ўбок. Паслухмяна павярнуўшы следам за ёй, Мірон прайшоў праз некалькі вузкіх двароў, потым яны выбраліся, нарэшце, на адкрытую мясцовасць і даволі доўга ішлі па ледзь прыкметнай і занадта ўжо звілістай сцяжынцы…

— Ужо хутка! — бабулька паказала рукой на новы мікрараён, да якога па прамой было яшчэ не менш за кіламетр. — Вунь там я і жыву!

Улічваючы звілістасць сцяжынкі, па якой яны цяпер ішлі, да мікрараёна гэтага было кіламетры тры. Да таго ж і сумка, і кошык з кожным новым крокам станавіліся ўсё цяжэйшыя і цяжэйшыя… Ці гэта толькі здавалася Мірону?..

"Спазнюся на спатканне! — трывожна падумалася. — А можа, пасля таксі паспрабаваць злавіць? Колькі ў мяне, цікава, грошай у кішэні? На таксі, магчыма, і хопіць, але потым нават і на марожанае не застанецца…

З іншага боку, не пакідаць жа гэтую нямоглую бабульку адну на пустэчы, ды яшчэ з такім цяжарам".

І Мірон, уздыхнуўшы, рушыў быў далей, але тут здарылася неспадзяванае.

— Малайчына, Мірон! — сказала раптам бабулька і спынілася. — Ты з гонарам прайшоў маё выпрабаванне.

— Якое выпрабаванне? — не зразумеў Мірон. Ён таксама спыніўся і здзіўлена паглядзеў на бабульку. — Пра што вы? І адкуль вы ведаеце, што маё імя — Мірон?

— Я пра цябе ўсё ведаю! І пра Васіліну таксама. І тое, што ў вас спатканне сёння.

Бабулька ўсміхнулася і дадала:

— А ведаю я ўсё гэта таму, што я — чараўніца!

"Так, — падумалася Мірону. — Гэтага мне яшчэ не хапала! Апынуцца на нейкай пустцы ўдваіх са звар'яцелай бабулькай! А раптам яна кусацца пачне!"

— Ты што, не верыш, што я чараўніца? — з нейкай крыўдай нават спытала бабулька.

— Веру! — сказаў Мірон, вырашыўшы не спрачацца з хворым чалавекам, але ўсё ж не вытрымаў і дадаў: — А адкуль вы ведаеце, што мяне Міронам завуць? І пра спатканне, пра Васіліну…

Замест адказу бабулька толькі ўздыхнула, і раптам у руцэ ў яе літаральна з паветра з'явілася кветка. Дзіўная такая кветка з трыма рознакаляровымі пялёсткамі: жоўтым, сінім і чырвоным.

— Памятаеш казку пра кветку, якая жаданні выконвала? — зноў спыталася бабулька і, не чакаючы адказу, падала кветку Мірону. — Праўда, у той сем пялёсткаў было, а ў гэтай толькі тры. Але жаданні і яна выконвае спраўна, можаш не сумнявацца.

— Якія жаданні? — зноў не зразумеў Мірон.

— Розныя, — сказала бабулька. — Ты толькі асцярожна з імі, шкоды сабе не нарабі!

І бабулька знікла, як і не было яе зусім. І сумка знікла разам з бабулькай, і кош гэты цяжкі таксама. А яшчэ праз нейкае імгненне знік і сам Мірон… знік, каб зноўку апынуцца ў тым самым парку, дзе і было ў яго прызначана спатканне з Васілінай.

І толькі цяпер, пазіраючы няўцямна на кветку ў сваёй руцэ, Мірон паверыў нарэшце, што і сапраўды сустрэў чараўніцу. І што ў падарунак атрымаў ад яе цудоўную кветку, якая выконвае жаданні.

У хлопца адразу ж з'явілася непераадольнае імкненне праверыць чароўную сілу кветкі. Праверыць зараз жа...

Вось толькі якое б жаданне загадаць?

Тут яму ўспомніўся заўтрашні залік па эканоміцы. Залік, да якога ён быў, мякка кажучы, не зусім падрыхтаваны. І гэта яшчэ мякка кажучы…

— Хачу, каб мне паставілі залік па эканоміцы аўтаматам! — хуценька прагаварыў Мірон, адначасова з гэтым адрываючы жоўты пялёстак.

І амаль адразу ж пашкадаваў аб гэтым сваім рашэнні. Па-першае, сёння ён усё роўна не даведаецца, збылося ягонае жаданне ці не. Па-другое, жаданне выйшла… ну, скажам так, драбнаватае. Падумаеш, залік! Трэба было ўжо на поўную сесію загадваць!

Нечакана ў кішэні Мірона завінеў-заспяваў мабільнік. Хуценька выхапіўшы тэлефон, хлопец адразу ж адчуў нейкае, ці то расчараванне, ці то, наадварот, палёгку: гэта была не Васіліна. Тэлефанаваў Мірону Стас, староста іх групы.

Цікава, што яму трэба ў такі позні час?

— Алё! — прагаварыў Мірон, падносячы мабільнік да вуха. — Што здарылася?

— Хочаш — узрадую! — пачулася ў тэлефоне. — Заліку заўтра не будзе!

— Як не будзе? — ні кропелькі не ўзрадаваўся Мірон. — Чаму не будзе?

— Выкладчык кудысьці ад'язджае тэрмінова! Сёння ўсім аўтаматам залік паставіў. Ну, як навіна?

— Цудоўная! — змрочна буркнуў Мірон. — Проста цудоўная!

Ён зноў засунуў мабільнік у кішэню і задумліва паглядзеў на кветку ў руцэ. На ёй засталося ўсяго два пялёсткі, а трэці…

У гэты час да лаўкі, якая стаяла непадалёку ад Мірона, падышла дзяўчына. І не проста дзяўчына, а вельмі прыгожая дзяўчына. Такая прыгожая, што ў Мірона нават галава закружылася, і ён забыўся адразу і пра сваё спатканне з Васілінай, і, наогул, пра ўсё на свеце…

— Прывітанне! — нечакана нават для сябе самога прагаварыў Мірон, звяртаючыся да дзяўчыны. — А вы не мяне, часам, чакаеце?

— Не цябе! — абыякава і нават зняважліва адказала дзяўчына, нават не зірнуўшы пры гэтым у бок хлопца. — Адвалі!

"Ах, так! — з нейкай нават зларадасцю падумаў Мірон. — Ну, зараз ты сама за мной бегаць будзеш!"

Ён хацеў ужо адарваць сіні пялёстак, як новая думка прыйшла яму ў галаву. А сапраўды — калі паспрабаваць?

І Мірон, рашуча адрываючы пялёстак, прашаптаў:

— Хачу, каб усе, без выключэння, дзяўчаты кахалі мяне без памяці!

Што тут пачалося!

Не паспела яшчэ прыгажуня-суседка кінуцца на Міронаву шыю, як аднекуль збоку прыбегла яшчэ адна дзяўчына і таксама абхапіла Мірона.

— О, мой каханы, мой адзіны! — палка зашаптала яна. — Нарэшце, я цябе знайшла!

— Адвалі! — сярдзіта закрычала першая дзяўчына, адштурхоўваючы саперніцу ад Мірона. — Ён мой адзіны, бо гэта я першая яго знайшла!

— Сама адвалі!

І дзяўчаты схапіліся ў рукапашнай.

Але Мірону было ўжо не да іх. Да яго набліжалася каля дзесятка новых дзяўчат, і кожная з іх, здаецца, таксама была закахана ў хлопца без памяці…

— О, як даўно я цябе чакала! — усклікнула атлетычнага складу дзяўчына, амаль на галаву вышэйшая за Мірона. — Дай я цябе абдыму, мой каханы!

— Ну, ну! — выгукнуў Мірон, адступаючы. — Толькі без рук!

— Як жа абдымацца без рук? — нават здзівілася дзяўчына і, абхапіўшы Мірона аберуч, так сціснула яго, што ў небаракі вочы на лоб палезлі.

— Дапамажыце! — прахрыпеў ён. — Хто-небудзь!

Дапамога, вядома ж, прыйшла, але не тая, на якую спадзяваўся Мірон. Абураныя нахабнымі, з іх пункта гледжання, паводзінамі саперніцы, астатнія дзяўчаты ўсім кагалам ухапіліся за Мірона і пачалі цягнуць яго кожная да сябе, прызнаючыся яму пры гэтым у вечным каханні.

— Не трэба! — не прахрыпеў нават, а прасіпеў Мірон. — Злітуйцеся! Вы ж мяне на кавалкі разарвеце!

Магчыма, дзяўчаты і сапраўды разарвалі б свайго кавалера на дробныя кавалачкі, але тут да Мірона падскочылі двое хлопцаў і літаральна выдралі небараку з гарачых дзявочых абдымкаў.

— Дзякуй вам, хлопцы! — расчулена прагаварыў Мірон і… атрымаў раптам моцны ўдар па вуху. — За што?! — закрычаў ён.

— За справу! — гаркнуў другі хлопец і таксама ўрэзаў Мірону ад усёй душы. — Чым ты нашых дзяўчат загіпнатызаваў, ідыёт?!

У гэты час да іх, сціскаючы кулакі, падбегла яшчэ некалькі хлопцаў, і Мірон зразумеў, што ягоная справа — труба! У роспачы ён выставіў перад сабой абедзве рукі, і толькі тут заўважыў, што ў ягонай правай руцэ ўсё яшчэ заціснута чароўная кветка (хай на яе ліха!), а на кветцы той маецца яшчэ адзін пялёстак, чырвоны. І калі адарваць яго зараз…

І Мірон імгненна адарваў чырвоны пялёстак. І адчайным голасам выкрыкнуў пры гэтым першае, што прыйшло ў галаву:

— Хачу, каб на мяне ніхто не звяртаў увагі!

І ў гэты ж момант усе хлопцы адвярнуліся ад Мірона. І ўсе дзяўчаты, нават не паглядзеўшы ў ягоны бок, таксама пачалі разыходзіцца кожная па сваіх справах. А тая прыгажуня, з якой усё і пачалося, узрадавана кінулася насустрач хлопцу, які першы ўрэзаў Мірону па вуху. І адразу ж пяшчотна яго абняла, а ён пацалаваў яе ў вусны, а потым яны, узяўшыся за рукі, пайшлі кудысьці па вузенькай сцяжынцы старога парку.

"Добра яшчэ, што Васіліна спазняецца! — міжволі падумалася Мірону. — Уяўляю, што б яна мне сказала, калі б усё гэта ўбачыла…"

Мірон зірнуў на гадзіннік і з прыкрасцю заўважыў, што той не ідзе. Магчыма, сапсаваўся ці зламаўся нават...

— Вы не падкажаце, колькі зараз часу? — звярнуўся Мірон да пажылога грамадзяніна.

Але грамадзянін нічога яму не адказаў. А калі Мірон звярнуўся з аналагічным пытаннем да іншага — вынік быў той жа самы. Чалавек паглядзеў на Мірона, як на парожняе месца і пашыбаваў сабе далей.

"Ды што яны, не бачаць мяне ці што?" — разгублена падумалася Мірону… і раптам ён успомніў апошняе сваё жаданне. Ён пажадаў, каб на яго ніхто не звяртаў увагі… і жаданне гэтае… апошняе ягонае жаданне збылося, як і два папярэднія...

— Што ж я нарабіў! — прастагнаў Мірон, пазіраючы на кветку ў сваёй руцэ (дакладней, на тое, што ад яе засталося). — І выправіць жа нельга!

І тут ён убачыў Васіліну. Дзяўчына якраз ішла яму насустрач, і яна здалася раптам Мірону такой прыгожай… значна прыгажэйшай за ўсіх тых прыгажунь, якія зусім нядаўна так палка прапаноўвалі Мірону сваё каханне. І хлопец, забыўшыся пра ўсё, кінуўся ёй насустрач і пяшчотна ўсміхнуўся, працягваючы рукі. А Васіліна…

Яна проста прайшла зусім побач з разгубленым Міронам, нават не павярнула галавы ў ягоны бок. Падышла да лаўкі і, апусціўшыся на яе, стала цярпліва чакаць.

Яна чакала, вядома ж, яго, Мірона… а сам Мірон стаяў непадалёк ад яе, і глядзеў на дзяўчыну, і не ведаў нават, як яму быць далей.

— Кепска ж ты, Мірон, выкарыстаў свае жаданні, — пачуўся раптам за спінай хлопца знаёмы голас. Азірнуўшыся, ён убачыў усё тую ж бабульку-чараўніцу.

— Бабулечка, родненькая! — кінуўся да яе Мірон. — Нічога не прашу, нічога мне больш не трэба! Зрабі толькі, каб Васіліна мяне заўважыла… каб толькі яна звярнула на мяне ўвагу. Хай сварыцца на мяне, хай нават дасць аплявуху… заслужыў! Але каб толькі яна мяне заўважыла!

— Зраблю! — адразу ж згадзілася бабулька. — Вось, трымай!

І ў руцэ ў яе зноў невядома адкуль з'явілася кветка, на гэты раз — чырвоная ружа са шматлікімі пялёсткамі.

— Не трэба! — аж адхіснуўся ад бабулькі Мірон. — Не трэба мне больш кветак гэтых! Хопіць і той, першай!

— Але ж гэта не такая, — сказала бабулька, усміхаючыся. — Не, яна таксама чароўная, але ў іншым сэнсе. Жаданні гэтая кветка не выконвае, так што пялёсткі на ёй абрываць не трэба.

— А што трэба? — спытаўся Мірон, узяўшы ружу.

— А трэба падысці да Васіліны і працягнуць ёй гэтую кветку, — растлумачыла бабулька. — І ўсё ў вас тады будзе добра, выдатна нават…

І бабулька зноў, як і першы раз, знікла, таямніча і незразумела. А Мірон, сціснуўшы ў руцэ кветку, адразу скіраваўся да лаўкі, на якой сядзела Васіліна.

На гэты раз яна яго заўважыла. І, усміхнуўшыся, устала з лаўкі і пайшла насустрач Мірону. А потым яны яшчэ нейкі час стаялі зусім побач і маўчалі.

— Гэта табе! — прагаварыў ён нясмела, працягваючы кветку Васіліне.

— Мне?.. — здзіўлена і адначасова ўзрадавана прамовіла дзяўчына. Яна ўзяла кветку, паднесла яе да твару. — Як ты здагадаўся, што ружы — самыя любімыя мае кветкі?

— Ды вось, здагадаўся, — прамармытаў Мірон, адчуваючы, што чырванее. — А ты, праўда, любіш ружы?

— Я люблю ўсе кветкі, — сказала Васіліна і таксама чамусьці пачырванела. — Але ружы больш за ўсё. Як ты змог знайсці такую прыгожую ружу, ды яшчэ ў самым пачатку лета? І чаму, дарэчы, ты ніколі раней не прыносіў мне кветак на спатканне?

— Я буду прыносіць табе кветкі! — з усёй шчырасцю, на якую толькі быў здатны, усклікнуў Мірон. — На кожнае спатканне буду прыносіць. І ружы, і іншыя кветкі таксама. — Ён памаўчаў крыху і дадаў нясмела: — А яшчэ я хачу цябе пацалаваць…

Васіліна нічога не адказала. Але затое яна нейк загадкава ўсміхнулася і, узняўшыся на дыбачкі, сама пацалавала Мірона ў вусны. А потым узяла хлопца за руку і яны пайшлі разам кудысьці па вузкай сцяжынцы старога парку.

Мастак і філосаф Аляксандр Ахола-Вало (1900 — 1997) да канца свайго жыцця з вялікай пяшчотай успамінаў "сінявокую Беларусь", якую лічыў сваёй духоўнай радзімай, дзе фарміраваліся галоўныя рысы яго творчай натуры. Аляксандр Пятровіч нарадзіўся пад Петраградам, вучыўся ў школе, наведваў курсы клуба "Маяк" у Петраградзе, а потым, пад лозунгам "Даеш Варшаву!", хадзіў рабіць сусветную рэвалюцыю на Захад... Сярод тых, хто апынуўся ў віцебскім шпіталі, быў 20-гадовы фін Ахола.





# Сонечны Прамень творчасці

Віцебск 1920-х жыў ідэямі наватарства, мастацкімі формаўтварэннямі суполкі "Сцвярджальнікі новага рэвалюцыйнага мастацтва"(УНОВИС), чальцы якой працавалі над супрэматысцкімі (ад лацінскага supremus — найвышэйшы) праектамі новых касмічных гарадоў, аэрапортаў, плошчаў. У Ахола (па-фінску "паляна") узнікла ідэя стварэння праекта ў рэчышчы духоўнага шляху для развіцця звышздольнасцей новага савецкага чалавека пад назвай "Эвахамалогія" ("хома" — чалавек). У якасці мэтаду вызначэння "асабістага" індэкса жыцця прапаноўвалася тэсціраванне. Пры канцы кожнага месяца, года, дзесяцігоддзяў, усяго жыцця належала падводзіць вынікі сваёй дзейнасці ў трох напрамках: навучанне, усприманне, аддача вопыту (ведаў, дзейнасці і гд.). Гэта, на думку аўтара ідэі, дасць правы на прывілеі...

Першыя крокі ў такой навукова-практычнай даследчай справе Ахола рабіў у Віцебску, у 1-й і 16-й школах. Ён успамінаў: "У гэты перыяд майго жыцця канчаткова сфарміраваліся мае думкі, як чалавецтва можа пазбавіцца няправільнага ладу жыцця і шкодных абавязкаў, што ідуць ад хранічнага варварства і сляпога матэрыялізму. Я пераканаўся, што трэба стварыць адказную навуку пра якасць чалавека, ад якой насамрэч "воспрянет род людской". Менавіта ў Віцебску я рабіў першыя эксперыменты самавыхавання, а ў 1931 годзе ўжо сур'ёзна паглыбіўся ў рацыяналізатарскую педагогіку".

Такіх праграм у свой час было дастаткова. Да іх можна аднесці распрацоўкі К.Малевіча ў галіне выяўленчага мастацтва (супрэматызм як вышэйшая стадыя), А.Татліна ў галіне канструктывізму, А.Леанідава ў архітэктуры і гд. Ідэя мяняць самога чалавека нараджалася ў думках не толькі літуценнікаў і псіхааналітыкаў. Новая навука "педалогія" ўключыла ў свае задачы развіццё дзейнасці псіхалогіі і педагогікі. Сустрэча Аляксандра Пятровіча з Надзеяй Канстанцінаўнай Крупскай падчас навучання ў Адэскім мастацкім інстытуце давала яму імпульс для далейшых распрацовак знакаўсімвалаў, якіх было больш за тысячу.

Тэорыя падмацоўвалася практыкай. У Маскве, у Інстытуце маці і дзіцяці, няўрымслівы мастак займаўся распрацоўкай праектаў для школ-інтэрнатаў, сямейных дамоў. Цікава адзначыць, што фарміраванне светапогляду творцы на выхаванне праходзіла некалькі этапаў. Ужо ў 1986 годзе, у Фінляндыі, ім быў створаны малюнак "Востраў ЭЛПО", як уяўленне менавіта пра тое месца, дзе павінна, на яго думку, адбывацца выхаванне новага чалавека. У кампазіцыю ўведзены шматпавярховы палац са шкла і бетону. Ён знаходзіцца на вяршыні казачнага вострава, які з усіх бакоў абмываецца морам-акіянам. Дарэчы, у 1990 годзе у сваім лісце да М.Гарбачова Ахола-Вало звярнуўся да новага кіраўніцтва Расіі па дапамогу і падтрымку для навукі эвахамалогіі, але... Сёння можна гаварыць пра цікавасць грамадства да праграм па развіцці цывілізацыі. У прыватнасці, на розных міжнародных канферэнцыях у краінах былой Югаславіі, у Расіі ўздымаліся пытанні пра некаторыя пазіцыі эвахамалогіі — пра ролю дзённікаў у выхаванні маладога пакалення ў мэтах яго навукова-рацыянальнага ладу жыцця...

Беларускі перыяд творчасці А.Ахола ўключае і Мінск, з якім звязаныя яго высокія творчыя дасягненні. У 1925 годзе да свайго прозвішча мастак дабавіў другую частку — Вало (па-фінску "прамень"). У 1927-м па яго ініцыятыве была створана суполка мастакоў пад назвай "Прамень", перад сябрамі якой былі пастаўлены задачы фарміравання навакольнага асяроддзя патрэбнымі выявамі і лозунгамі. Ахола-Вало ўдзельнічаў ва ўсебеларускіх мастацкіх выстаўках 1925 — 1929 гадоў, сусветных выстаўках кнігі ў Лос-Анджэлесе, Лейпцыгу. Філасофская праграма па падліках жыццёвых рэсурсаў ажыццяўлялася ў самога яе аўтара даволі паспяхова. Працаваў па 12 — 15 гадзін на суткі, эксперыментаваў у галіне лінарытнай гравюры, даводзячы тыраж да 10 — 15 тысяч экземпляраў. У Мінску зрабіўся своеасаблівай легендай для культурнай эліты тых часоў: катаў жонку Алену на санях з палазамі ўласнай канструкцыі, насіў адзенне арыгінальнага стылю, паводле яго праекта быў пабудаваны павільён МОПР для першай сельскагаспадарчай выстаўкі 1930 года, паводле апошняга слова супрэматызму быў аформлены інтэр'ер творчай майстэрні А.Ахола-Вало па вуліцы Мала-Татарскай. Яму належыць аўтарства афармлення больш як дваццаці выданняў часопісаў і газет, найбольш вядомымі з якіх былі "Звязда", "Беларуская работніца і сялянка", "Піянер Беларусі", "Малады араты", "Беларуская вёска", "Савецкая Беларусь", "Млот", "Орка", "Плуг", "Чырвоная змена" і інш. Ён — аўтар афармлення каля трыццаці кніг, выдадзеных у Мінску, ва Украіне, у Маскве. Аўтар вокладак часопісаў і брашур "Узвышша", "Прасторы", "Эскадрылья сусветнай камуны", "Чырвоная сялянская вечарынка" і інш.Для Беларускага дзяржаўнага выдавецтва выканаў вокладкі для многіх твораў нацыянальнай літаратуры: "Новая зямля" Якуба Коласа, "Хвоі гавораць" К.Чорнага, "Табе" А.Вольнага, "Плынь" М.Грамыкі, "Угрунь" А.Александровіча, "Ветры буйныя" П.Труса,"Кітай" М.Дуброўскага і інш.

Шматграннае творчае жыццё Аляксандра Ахола-Вало на працягу 97 гадоў увянчалася творчымі набыткамі. Яго работы знаходзяцца ў калекцыях многіх музеяў свету. Ёсць яны і ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. У горадзе Хяменліна яшчэ пры жыцці Аляксандра Пятровіча быў адкрыты музей яго імя. Беларуская, фінская, руская, шведская грамадскасць адзначае 110-ці годдзе з дня нараджэння вялікага рэфарматара, які перажыў сваё пакаленне не толькі па ўзросце, але і па тых вялікіх задачах, якія ставіў перад соцыумам. Сонечны Прамень — сінонім творчасці Ахола-Вало — і надалей будзе асвятляць перспектыву развіцця мастацтва новага ХХІ стагоддзя.

Вольга АРХІПАВА,
вядучы навуковы супрацоўнік аддзела сучаснага беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі

На здымках: Аляксандр Ахола-Вало (1932 год); работа мастака 1940 года.

# Лета сярод зімы

Пазаўчора ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча адкрылася мастацкая выстаўка Юрыя Каралевіча "Знакі лета". У экспазіцыю ўвайшла серыя пейзажаў, створаных на працягу некалькіх апошніх гадоў. Гэты жанр не з'яўляецца вызначальным у творчасці мастака, а ўяўляе сабой, хутчэй, творчую лабараторыю, дзе адбываецца пастаянны пошук. Мастацкая мова Юрыя Мікалаевіча мае ў сваёй аснове класічную, традыцыйную скіраванасць. А бясспрэчным аўтарытэтам для мастака з'яўляецца жывапіс старых майстроў, які паўстае для яго неабсяжнай крыніцай натхнення.



Юрыю Каралевічу цікава праводзіць аналогію паміж жывапісам і музыкай, колерам і фарбай. Ён вельмі любіць музычную класіку і, часам назіраючы розныя станы прыроды, міжволі шукае і знаходзіць адпаведныя гукавыя ўяўленні, параўноўвае выявы і музыку. Захапляе Ю.Каралевіча ідэя адушаўлення колеру, магчымасць прымусіць яго "загучаць", быць успрынятым найбольш ярка ды сакавіта. Мастака вабяць у прыродзе багатыя, складаныя спалучэнні фарбаў, вытанчаная палітра, блізкая жывапісу старых майстроў. Ён не любіць занадта кідкія, насычаныя колеры, таму яму бліжэй пераходныя станы прыроды: раніца, пачатак вясны, надвячорак, позняя восень, захад сонца.

Юрыя Мікалаевіча прываблівае барацьба дзвюх колеравых стыхій: насычанага, яркага, сакавітага і стрыманага, шэрага ці чорнага. Яркія фарбы жыцця быццам бы прабіваюцца праз нежывую, аморфную матэрыю. Так бывае вясной, калі з'яўляецца першая зеляніна, калі зацвітаюць сады і ўсё як быццам ў белай пене. Мастак любіць прыроду на змярканні, калі фарбы гусцеюць і ўсё запаўняе таямнічасць і загадкавасць: ажываюць лесуны, русалкі, музы, нараджаюцца міфы і казкі.

У пейзажы Юрыя Каралевіча цікавіць не проста канстатацыя адпаведнага месца, а алегарычны бок матыву. Ён імкнецца давесці рэальнае, канкрэтнае да ўзроўню сімвала, знака, да значнага абагульнення, але пры гэтым застацца ў рэчышчы рэалістычнага, канкрэтнага малявання, не пераходзячы ў сферу дэкаратыўна-прыкладнога.

Паэзія Максіма Багдановіча надзвычай музыкальная. Многія яго творы пакладзены на музыку. Мастаку вельмі блізка агульнае адчуванне ціхай сузіральнасці, задуменнасці, якія прысутнічаюць у шматлікіх творах паэта. Магчымасць зрабіць выстаўку менавіта ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча для Юрыя Каралевіча вельмі прыемная і пачэсная. Жывапіс кожнага мастака, знаходзячыся ў сценах гэтага музея, набывае асаблівае адценне высокай духоўнасці.

Арганізатарамі мастацкай выстаўкі Ю.Каралевіча "Знакі лета" выступілі Міністэрства культуры і Літаратурны музей Максіма Багдановіча.

Віктар ЗАЯЦ

Фота аўтара

## Радуемся разам

3 вялікім канцэртам выступіла на сцэне сталічнай філармоніі Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Рэспублікі Беларусь, якая носіць імя свайго заснавальніка — народнага артыста СССР Рыгора Шырмы. Канцэрт быў прысвечаны 70-годдзю выдатнага калектыву, якім сёння кіруе народная артыстка Беларусі Людміла Яфімава. Юбілейная праграма складалася з твораў, якія лічацца залатым фондам беларускага харавога мастацтва, і з шэдэўраў сусветнай класікі. Сёння ў рэпертуары шырмаўцаў творы ці не ўсіх эпох і стыляў, у тым ліку нацыянальны фальклор, сабраны і апрацаваны Р. Шырмай, а таксама разнастайная духоўная музыка. У канцэрце, прымеркаваным да юбілею капэлы, удзельнічаў Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Аляксандра Анісімава.




Тыдзень аншлагавых спектакляў, прысвечаны 70-годдзю Гомельскага абласнога драматычнага тэатра, прайшоў у горадзе над Сожам. У ліку паказаных пастановак — знакавыя для гісторыі калектыву або ганараваныя на тэатральных фестывалях ды конкурсах "Дарагая Памела" Джона Патрыка, "Пярэварацень, або Смерць Тарэлкіна" паводле Аляксандра Сухаво-Кабыліна ды нядаўняя прэм'ера "Хросная маці" паводле п'есы Максіма Горкага "Васа Жалязнова".

Чараду марозных і снежных святочных дзён сёлетняй зімы сімвалічна ўвянчаў канцэрт, што адбыўся ўчора, 21 студзеня, у Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Тут, у Малой зале імя Р. Шырмы, у выкананні Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь (мастацкі кіраўнік Наталля Міхайлава), а таксама Камернага аркестра Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі "Gradus ad Parnassum" (дырыжор Пётр Вандзілоўскі) ды саліставу гучалі канты і кантычкі, створаныя беларускімі і польскімі кампазітарамі да свята Божага Нараджэння ў XVI — XXI стст.

Упершыню за мяжой — у Культурным цэнтры Беларусі ў Беластоку — з поспехам прайшла персанальная выстаўка графічных постэраў мінчука Сяргея Стальмашонка "CATalogue". Яго ведаюць як мастака і дызайнера, пісьменніка і журналіста, аўтара чатырох дзіцячых кніжак з уласнымі ілюстрацыямі, стваральніка некалькіх тысяч часопісных малюнкаў. Творы С.Стальмашонка знаходзяцца ў калекцыях Беларусі, Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Расіі. У новым цыкле графічных постэраў, паказаным у Беластоку і прысвечаным Году Тыгра, увасобіліся бязмежнае пачуццё гумару іх аўтара, яго любоў да мастацтва польскага плаката, захапленне кашэчай тэмай, якое працягваецца ўжо 40 гадоў, а таксама — рок-н-ролам.



Лана ІВАНОВА

На здымках: заслужаны калектыў Дзяржаўная акадэмічная харавая капэла Рэспублікі Беларусь імя Р.Шырмы на фестывалі "Музы Нясвіжа"; работа Сяргея Стальмашонка з цыкла "CATalogue".

Фота Віктара Кавалёва

№ 3 22 студзеня 2010 г. ЛіМ




## Слова краязнаўцы



Роза Шэрая з Вілейшчыны распавядае пра багацце літаратуры свайго краю:

— Нямала выдатных літаратараў узгадавала ці дала прытулак Вілейская зямля. Гэта не магло не паспрыяць майму захапленню літаратурным краязнаўствам.

А пачыналася літаратурнае жыццё Вілейшчыны яшчэ два стагоддзі таму. У XIX ст. побач з імёнамі Адама Міцкевіча, Уладзіслава Сыракомлі паўсталі і імёны нашых землякоў — Ігнацыя Ходзькі, Эдварда Жалігоўскага. Пашанотнае месца ў айчыннай літаратуры займае Адам Гурыновіч. Ён не паспеў цалкам рэалізаваць свой талент. Пры жыцці яго ведалі выключна як фалькларыста. Пра Гурыновіча-паэта загаварылі толькі пасля смерці.

У былым Вілейскім павеце нарадзіліся Янка Купала, Змітрок Бядуля, Леапольд Родзевіч, Уладзімір Дубоўка, Максім Танк. Пасля тэрытарыяльных упарадкаванняў іх радзіма змянілася. Сёння гэта Маладзечаншчына, Лагойшчына, Пастаўшчына, Мядзельшчына.

У час актывізацыі нацыянальнага руху, як ніва ўрадлівая, Вілейшчына дала краіне адданых сыноў. Сярод іх Аляксандр Уласаў, Лявон Гмырак. Апошні загінуў на фронце Першай сусветнай вайны. Недзе пад Карпатамі загінуў і пісьменнік Касьян Вясёлы.

У 1939 годзе, пасля далучэння Вілейшчыны да Савецкай Беларусі і стварэння аднайменнай вобласці, выходзіла газета "Вілейская праўда" (затым перайменавана ў "Сялянскую газету"). Вакол абласнога выдання гуртаваліся літаратары Ганна Новік, Міхась Машара, Авяр'ян Дзеружынскі. Другая сусветная вайна прызвала ў шэрагі абаронцаў Айчыны паэтаў Алеся Дубровіча і Аркадзя Гейнэ, якія працавалі ў вілейскай газеце. Дзецьмі запомнілі ўсе жахі вайны ўраджэнцы раёна пісьменнікі Іван Лашутка, Уладзімір Папковіч, Уладзімір Дубовік. У нялёгкі пасляваенны час нарадзілася новая літаратурная змена – Мікола Кутас, Уладзімір Весялуха, Клаўдзія Дубовік, Дзмітрый Новікаў…

Нельга не сказаць, што захапленне літаратурай пачынаецца зазвычай у школе. За школьнай партай пачалі пісаць Ігар Кунавіч, Генрых Кутас, Наталля Шышла, Алесь Танкевіч, Таццяна Касяк, Бажэна Мацюк, Вікторыя Шчэбет. Гэты факт дае падставы сцвярджаць, што цікавасць да літаратуры не знікне ў бліжэйшыя стагоддзі.

## Ініцыятыва

## Стэнды — да месца

Ці часта ў сельсаветах вы бачылі стэнды на краязнаўчую тэматыку? А вось на Мядзельшчыне, у будынку Нарацкага сельвыканкама, яны ёсць. З гэтых стэндаў можна даведацца пра гісторыю Кабыльніка (так называлася вёска Нарач да 1964 года) і яго ваколіц, паглядзець на фотаздымкі і ўбачыць як выглядалі тыя мясціны раней. Тым больш, што захавалася шмат здымкаў, зробленых як нямецкімі афіцэрамі ў Першую сусветную вайну, так і за польскім часам местачковым фатографам Аляксандрам Дзергачам. Адзін са стэндаў прысвечаны славутым землякам. На іншым распавядаецца пра ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны і воінаў-інтэрнацыяналістаў…

А ініцыятар такой важнай справы — старшыня Нарацкага сельвыканкама Іосіф Тарасёнак. Яму дапамагалі настаўнікі гісторыі, культработнікі. І цяпер краязнаўчыя стэнды выклікаюць вялікую цікавасць у мясцовых жыхароў і гасцей вёскі.

Алесь ВЫСОЦКІ

# «Тайная вячэра» Нікадзіма Сілівановіча

25 снежня 2009 споўнілася 175 гадоў з дня нараджэння знакамітага жывапісца, педагога, акадэміка Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў Нікадзіма Сілівановіча (1834 — 1919?). І хаця імя нашага земляка вядома ва ўсім свеце, а яго карцінамі працягваюць захапляцца не адно дзесяцігоддзе, у біяграфіі мастака і да сёння застаецца шмат невядомых фактаў.

Нарадзіўся Нікадзім Сілівановіч у вёсцы Цынцавічы Вілейскага павета. Даследчыкі яго жыцця адзначаюць, што нарадзіўся ён у сям'і казённага селяніна. Але гэта не так. Цынцавічы належалі да Рабуньскага маёнтка бернардзінак Віленскага манастыра св. Міхаіла. І сяляне маёнтка, у тым ліку і бацька мастака Юрый, былі прыгоннымі сялянамі. І толькі ў 1841 годзе вёска адышла да казённага ведамства.

Сям'я Сілівановічаў вылучалася руплівасцю, ашчаднасцю, уменнем добра весці гаспадарку. У рэвізскай кнізе за 1795 год усе сяляне манастырскага ўладання пазначаны як земляробы. Адзін толькі дзед Нікадзіма Іван Ігнацьевіч запісаны ткачом. Гэта значыць, што ён меў сур'ёзную прафесію і статус рамесніка. А было яму тады толькі 20 гадоў. Іван Сілівановіч асабліва славіўся вырабам кужалю — ільнянога палатна. Майстэрства бацькі пераняў і сын Юрый. Але ён вызначаўся і здольнасцямі ў арганізацыі дваровых служб, утрыманні грамадскага свірна (магазіна). І ў знак падзякі за працу вясной 1840 года настаяцельніца і члены манастырскага савета бернардзінак вызвалілі Юрыя Сілівановіча ад уплаты чыншу за ўтрыманне $^{3}/_{4}$валокі (звыш 16 га) сенажаці, а таксама адбывання інвентарных, апрача дзяржаўных, павіннасцей. Прывілей распаўсюджваўся таксама на яго сыноў Вікенція і Нікадзіма, а таксама брата Міхала і пляменніка Піліпа.

Юрый рана аўдавеў. Яго жонка Анастасія памерла ў маладым узросце, пакінуўшы мужу шасцёра дзяцей. Ён ажаніўся ў другі раз з пляменніцай жонкі Петрунеляй, якая з дзяцінства выхоўвалася ў іх сям'і. У гэты ж час як разважлівага селяніна яго выбіраюць валасным старшынёй Рабуньскай сельскай грамады. Фактычна Юрый стаў кіраўніком усёй воласці.

У верасні 1848 года Нікадзім Сілівановіч паступіў у Маладзечанскае 5-класнае дваранскае вучылішча. Навучанне было платным. Плацілі два разы на год па 2 рублі 50 капеек. На падставе рашэння апекуна навучальнай установы Сілівановіч, як і некаторыя іншыя навучэнцы, быў вызвалены ад аплаты.

У вучылішчы акрамя агульных дысцыплін выкладаліся руская, польская, нямецкая і французская мовы. Настаўнікам малявання працаваў А.Чаплінскі. Відаць, ад яго ў юнака — любоў да малявання. Закончыў Сілівановіч вучылішча ў 1854 годзе. Але незразумела, чаму ён перавучыўся на адзін год. Магчыма, браў гадавы перапынак з якой-небудзь прычыны. Пасля навучання ў Маладзечне Нікадзім тры гады жыў у родных Цынцавічах, дзе дапамагаў бацькам і рыхтаваўся да паступлення ў Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў. Некаторыя даследчыкі падаюць год паступлення 1859. Хаця ў рэвізскай кнізе казённых сялян 1858 года супраць прозвішча мастака пазначана, што, згодна з прадпісаннем Віленскай палаты дзяржаўнай маёмасці ад 30 верасня 1857 года, Нікадзім Сілівановіч быў выведзены з аклада казённых сялян для паступлення ў Акадэмію мастацтваў. Верагодна, што ён займаўся на падрыхтоўчых курсах, пасля заканчэння якіх у 1859 годзе стаў студэнтам. Правучыўшыся шэсць гадоў у акадэміі, 29 студзеня 1863 ён падаў прашэнне аб датэрміновым звальненні з вучобы і просьбай прысвоіць яму званне свабоднага мастака. У якасці прычыны спаслаўся на старасць і хваробу бацькі і неабходнасць дапамагаць яму. Пры гэтым Сілівановіч прадставіў акадэмічнаму савету свае лепшыя эцюды, малюнкі і партрэты. Затрымліваць у акадэміі юнака не сталі. І ўжо 2 лютага яму выдалі атэстат свабоднага мастака.



У 2005 годзе мастак Эдуард Мацюшонак напісаў копію карціны Нікадзіма Сілівановіча "Салдат з хлопчыкам". Яна знаходзіцца ў пастаяннай экспазіцыі Вілейскай выставачнай залы імя Сілівановіча. Імя акадэміка носіць і адна з вуліц у горадзе. А ў снежні 2009 года на радзіме Нікадзіма Юр'евіча ў Цынцавічах па праекце архітэктара Анатоля Капцюга быў адкрыты памятны знак. Міністэрства сувязі да юбілею мастака выпусціла маркіраваны канверт.

Сілівановіч пасяляецца ў Вільні і жыве за кошт выпадковых заказаў. Адзін з такіх заказаў паступіў ад Лідскага павятовага праўлення для напісання абразоў Аляксандра Неўскага і партрэтаў імператара ў храме мястэчка Шчучын. Праца была выканана ў 1865 годзе. У вольны час ён працуе над стварэннем партрэтаў і бытавых кампазіцый. Лепшыя з іх адсылаў у Акадэмію мастацтваў, дзе яны атрымалі належную ацэнку. І Сілівановічу прысвоілі званне класнага мастака трэцяй ступені.



У Беларусі Нікадзім Юр'евіч ажаніўся. Жонку звалі Пелагея Вікенцьеўна. Пасля вяселля маладая сям'я пераехала жыць у Пецярбург, дзе 9 верасня 1866 года мастака залічылі вучнем на свабодную вакансію ў мазаічны клас альма-матэр. Загадчыкам аддзялення працаваў Фёдар Бруні, тагачасны рэктар гэтай навучальнай установы. Адзін за другім у Сілівановічаў нараджаюцца чатыры сыны.

Закончыўшы поўны курс навучання, 2 лістапада 1870 года Сілівановіч атрымаў званне класнага мастака другой ступені з прысваеннем чына XII класа — губернскага сакратара і прызначэннем на пасаду малодшага мастака-мазаіста ў акадэміі. Адначасова Нікадзім Юр'евіч працаваў выкладчыкам. А ў 1874 яму прысвоілі чарговае званне — класнага мастака першай ступені.

Майстэрства Сілівановіча заўжды цанілі калегі. І калі паўстала пытанне, каго запрасіць для стварэння мазаічнай кампазіцыі "Тайная вячэра" для галоўнага іканастаса Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу, то без лішніх ваганняў звярнуліся да Івана Лаварэцкага і Нікадзіма Сілівановіча. У сваіх мазаіках "Евангеліст Матвей", "Евангеліст Лука", "Евангеліст Марка" і "Пацалунак Юды" ім удалося ўвасобіць таямніцы Боскага і чалавечага духаў. За гэту працу 4 лістапада 1876 года Сілівановіч атрымаў званне акадэміка і чын IX класа тытулярнага саветніка. Пазней ён будзе яшчэ ўганараваны ордэнамі св. Станіслава і св. Ганны трэціх ступеняў. А 1 верасня 1885 яго прызначылі на пасаду старшага мастака-мазаіста акадэміі.

Пецярбургскае жыццё не вельмі цешыла Сілівановіча. І ён заўсёды чакаў лета, каб у час канікул на адзін-два месяцы з'ехаць у любы з дзяцінства куточак на Вілейшчыне. Але такая магчымасць надаралася ўсё радзей і радзей. Бо калі памерла жонка, усе клопаты па выхаванні сыноў ляглі на яго плечы.

У 1883 годзе памірае бацька мастака. Пры чарговым наведванні Цынцавіч, Нікадзім паставіў на яго магіле помнік – вычасаны з маналітнага валуна ў форме абраза Маці Божай Вострабрамскай. Помнік захаваўся да нашага часу. У Цынцавічах Сілівановіч стварыў адзін з найбольш значных сваіх твораў – палатно "Пастух са Свянцяншчыны". Мастак паказаў старога пастуха, які абапёрся на кій у роздуме. Доўгія валасы пакрываюць высокі лоб. Аднак найбольш уражвае погляд, вочы, якія адлюстроўваюць нялёгкае сялянскае жыццё.

Мастак стварыў цэлую галерэю партрэтаў. Сярод іх вылучаюцца партрэты жонкі, сына, невядомых мужчыны і жанчыны, павятовага старасты. А кульмінацыяй працы ў гэтым кірунку стаў "Аўтапартрэт у саламяным капелюшы". Акрамя гэтага, Нікадзім Юр'евіч стварыў некалькі жанравых кампазіцый — "Дзеці ў двары", "У школу", "Салдат з хлопчыкам". Апошняя — адзіная, якая захавалася ў Беларусі. Яна знаходзіцца ў пастаяннай экспазіцыі Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Напісана летам 1866 года, напэўна, у Цынцавічах. На прызбе сялянскай хаты сядзяць, як два сябрукі, адстаўны салдат і хлапчук. Яны ўзіраюцца ў старонкі разгорнутай кніжкі. Салдат, яшчэ не стары, тыповы беларус, прайшоў ужо суровую службу і выпрабаванне вайной. Але ўсё гэта не зламала дух чалавека. І ён у першую чаргу паказвае хлопчыку не свае медалі, якія распавядаюць пра геаічныя ўчынкі, а – кнігу, сімвал ведаў і адукаванасці.

Большасць палотнаў Сілівановіча знаходзіцца ў фондах Дзяржаўнага мастацкага музея Літвы ў Вільнюсе. Частка карцін страчана назаўсёды ці, магчыма, зберагаецца ў прыватных калекцыях. Аднак вядома, што абраз "Цуд святога Антонія Падуанскага", напісаны мастаком у 1915 годзе, захоўваецца ў адным з касцёлаў на Вілейшчыне.

У канцы 1898 года Нікадзім Юр'евіч выйшаў на пенсію. І ў хуткім часе пакінуў горад на Няве ды пасяліўся ў Сувалкскай губерні. Пражываў у літоўскіх мястэчках Бірштонас і Прэны (Пранай). Аднак у 19-18 — 1919-я гады, калі мастак хутчэй за ўсё і памёр, у краіне была нестабільная сітуацыя. І таму адшукаць дакладных звестак з тых часоў датычна мастака пакуль не атрымлівалася. Але ў бліжэйшы час паспрабуем выехаць у Пранай, каб на месцы ва ўсім разабрацца. Мо пашанцуе раскрыць галоўную загадку Сілівановіча — месца яго пахавання. Каб можна было прыехаць на магілу земляка ды ўскласці кветкі ад удзячных нашчадкаў.

Анатоль РОГАЧ

На здымках: копія Э.Мацюшонка карціны "Салдат з хлопчыкам"; абраз "Цуд святога Антонія Падуанскага".

Фота Сяргея Макарэвіча

# Каменная спадчына

Беларусь — краіна азёр. Але яна яшчэ і краіна валуноў. Камяні розных памераў і форм, групамі і паасобку, раскіданы па ўзгорках і далінах нашых маляўнічых краявідаў. Беларусь, асабліва жыхару Паазер'я, пейзаж без валуноў выдаецца сумным і ненатуральным, нават безабаронным, бо вялікія камяні — гэта не толькі частка ландшафтаў, але і сімвал трываласці і моцы.

Інтуітыўна людзі прыйшлі да разумення таго, што камень, як сімвал фізічнай моцы, у спалучэнні з крыжам, сімвалам моцы духоўнай, з'яўляецца надзейным абярэгам ад любой пошасці. Таму і паўсталі яны на могілках і курганах, на скрыжаваннях дарог і г.д. радзішчаў. Многа іх было ў сярэднявеччы, але час няўмольны, і разбураюцца паступова камяні, знікаюць выявы крыжоў на іх.

Якія ж з камянёў-крыжоў захаваліся на Пастаўшчыне?

## Камайскі крыж

Бадай, самы адметны такі помнік знаходзіцца ў вёсцы Камаі. Месціцца ён у самым цэнтры паселішча ў 30 метрах ад касцёла Іаана Хрысціцеля. Крыж мае ўнушальныя памеры: вышыня — 2, 5 м, шырыня да 0, 7 м, таўшчыня — 0, 6 м. У ім маецца трохкутная ніша. Пад ёй знаходзяцца чатыры рады ледзь прыкметных знакаў. Ніжэй іх высечана кола дыяметрам каля 9 см, пад якім маецца знак у выглядзе парасона. Над нішай захаваліся літары і лічбы "R 1803". На паўночным баку крыжа ніжэй папярэчыны захавалася літара "B".

Высечаны крыж з вялікага валуна ружовага граніту рапаківі, які, верагодна, быў прынесены сюды 20 — 17 тыс. гадоў таму са Скандынавіі. Наконт даты ўзвядзення крыжа ёсць некалькі версій. У томе "Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць" сцвярджаецца, што высечаны ён у XV — XVI стагоддзях. Аўтары артыкула "Гэтыя дзіўныя камяні Пастаўшчыны" ў кнізе "Память. Пастаўскі раён" схіляюцца да версіі, што крыж быў пастаўлены ў час будаўніцтва храма ў 1603 — 1606 гг. Краязнаўцы І. Зямчонак і Я. Драўніцкі прымяркоўваюць узвядзенне крыжа да 200-годдзя будаўніцтва касцёла (1803 г.) На мой погляд, крыж усё-такі створаны значна раней XIX стагоддзя, бо дужа архаічна выглядае ён побач з касцёлам і ў параўнанні з падобнымі помнікамі таго часу.

## Камень-крыж ля Парыжа

Многія чулі пра вёску Парыжа у Пастаўскім раёне. Але толькі адзінкі ведаюць, што недалёка ад вёскі на полі каля мясцовых могілкаў ляжыць загадкавы камень-крыж, які ў бліжэйшы час можа стаць месцам паломніцтва аматараў даўніны, шукальнікаў скарбаў. Выявілі яго нядаўна вучні — удзельнікі навуковага краязнаўчага таварыства школьнікаў "Ювента" сярэдняй школы № 1 горада Паставы ў час адной са сваіх экспедыцый. Тых, хто бачыў гэты валун, інтрыгуе яго форма, але найбольш — група насечак на пярэдняй частцы каменя. І адно, і другое падаецца вельмі цікавым.

Камень невялікі: вышыня 77 см, шырыня ў папярэчыне — 42 см, таўшчыня — 36 см. Стварагаецца ўражанне, што ён першапачаткова меў выяву ідала. Пераконвае ў тым купалападобная верхняя частка, якая нагадвае галаву, а выступы, што адыходзяць з двух бакоў, можна ўспрымаць не толькі як перакладзіну крыжа, але і як рукі. Яны невялікія, усяго па 7 см. Гэта дае падставу меркаваць, што паганскі ідал у часы хрысціянізацыі краю быў абчасаны і перароблены ў крыж. Да гэтай думкі схіляе і тое, што на пярэднім баку каменя была даволі густая серыя насечак і неглыбокіх адтулін, якія да сённяшняга дня захаваліся фрагментарна і не даюць магчымасці аднавіць у дэталях увесь малюнак. Расчытаць высечаную кампазіцыю пакуль не ўдалося. Але атрымалася разгледзець, што кампазіцыю складаюць кола, крыжы і лініі. Магчыма, гэта салярныя знакі, магчыма — сімвалы на надмагільным камені (жальніку).

## Лынтупскія крыжы

У мястэчку Лынтупы, што знаходзіцца амаль на мяжы з Літвой, на мясцовых могілках ёсць некалькі каменных крыжоў. Самы цікавы з іх — пры ўваходзе ў некропаль. Ён мае форму мальтыйскага крыжа і захоўвае надпісы на польскай мове. Лынтупскія крыжы яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў.

## Крыжы на валунах

Зафіксавана на Пастаўшчыне і некалькі валуноў з выбітымі на іх выявамі крыжоў. З гістарычных крыніц вядома, што адзін з такіх валуноў стаяў на раздарожжы каля вёскі Вялікія Споры. Цяпер яго няма. А пра тое, што з ім сталася, расказала мясцовая жыхарка.

"Выбівалася з-пад схілу высокага ўзгорка перад Вялікімі Спорамі крынічка. І была пры ёй ладная сажалачка, такая, што ў ёй нават дзеці купацца маглі. І бралі з яе ваду людзі з усяе вёскі. Ставілі ў сажалачку збанкі з малаком, каб не кісла. І цешыліся ўсе з крынічкі, і гаючай яе лічылі. А пры дарозе ля сажалкі валун вялікі ляжаў, і на ім быў выбіты крыж. Ідзе чалавек каля яго па якой справе, памоліцца-пахрысціцца, глядзіш — і ўсё ўдала абернецца. І нікому ж не перашкаджалі ні крыж, ні камень. Але на табе! Прыйшлі саветы. Крыж ім не даспадобы стаў. Зладзілі "васкрэснік" і закапалі той валун. А праз колькі часу – і крынічка высахла".

Вельмі цікавымі падаюцца звесткі Л. Пабаля, паводле якіх у лесе каля маёнтка Ізмайлаў Груздаўскай гміны знаходзіліся пахаванні, абкладзеныя камянямі ў выглядзе кола. У яго цэнтры ляжаў вялікі валун, на якім быў выбіты крыж з загнутымі канцамі. Параслыя імхом камяні амаль не выяўляліся на паверхні. Сёння пра гэты камень нічога не вядома.

Ля аднаго з адметнейшых культавых валуноў Пастаўшчыны "Дзіравага" або "Святога каменя", паводле сведчанняў краязнаўцаў, было



раскідана шмат вялікіх камлыг, на адной з якіх быў выбіты крыж. Падобны аб'ект выяўлены вучнямі СШ № 1 у часе краязнаўчай экспедыцыі каля вёскі Данеўцы. Валун ляжыць каля дарогі зусім побач са жвіровым кар'ерам. Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што на гэтым месцы раней былі старажытныя могілкі, на якіх стаялі тры валуны з крыжамі.

Знойдзены два камені з крыжамі непадалёк ад возера Саранчаны, дзе яны стаялі на ўзгорку паблізу ад камяняследавіка. Ацалеў толькі адзін з іх, на якім побач з крыжам выбіты надпіс — "1840".

На жаль, не ўсе крыжы-камяні дайшлі да нас, не ўсе з іх выяўлены даследчыкамі, і таму трэба спадзявацца, што наперадзе вучоных і краязнаўцаў чакаюць новыя нечаканыя адкрыцці.

Ігар ПРАКАПОВІЧ

На здымку: лынтупскі крыж.

Фота аўтара

# Мізгіры: у павуціне часу

У пачатку XVI ст., калі Слонімскім старостам быў Ян Радзівіл, на поўдні павета, на тым месцы, дзе цяпер стаіць вёска Мізгіры, пасяліліся браты-шляхціцы Зенька, Грыцко і Пац. Як гаспадары яны былі вельмі працавітыя, але як людзі — жорсткія і прагныя. За што і атрымалі ад суседзяў мянушку — "мізгіры" (павукі). Пазней ад гэтых братоў пайшоў род, які мянушку тую пакінуў у спадчыну вёсцы.

## Нашчадкі павукоў

У Зенькі Мізгіра былі сыны Хведар і Аляхно. Хведар меў сына Васіля, а Аляхно — трое сыноў: Васіль, Лец і Тайп. У Паца быў сын Багдан і ўнучка Аксіння. У Грыцка — сын Хведар і ўнукі Пятро і Аўдоцця. З кожным годам у Мізгіроў нараджаліся дзеці, і род мацнеў. Аднак і зямлі станавілася менш. Ад гэтага і бесперапынныя судовыя справы з суседзямі і паміж сабой пайшлі. У "Актах Слонімскага земскага суда" ёсць шмат цікавых запісаў пра тагачасныя норавы. Напрыклад, 8 красавіка 1557 года Васіль Мізгір з дачкой Марынай напалі на сядзібу Грышкі Васкевіча і захапілі спрэчную маёмасць. 28 мая 1559 года Лец Мізгір, пасварыўшыся са сваім братам Васілём, напаў на яго дом і ўчыніў бойку... І такіх сведчанняў вельмі шмат.

## Зямельныя падзелы

Першы падзел зямлі паміж Мізгірамі і Катовічамі адбыўся 27 снежня 1558 года. Суд прызначыў падзяліць супольную зямлю на пяць частак паміж Васілём, Паўлам і Жданам Мізгірамі, а таксама Багданам Катовічам і яго жонкаю Аўдоцяй (дачкой Хведара Мізгіра).

17 мая 1559 года адбыўся другі падзел. Адна частка адышла да Віктара Адзінцэвіча і яго жонкі, другая — да Ваські Івашкавіча і ўсіх братоў Мізгіроў, трэцяя — да Апанаса і ўсіх Еськаўцаў.

## Рабыня Дарота

Павел Жук задаўжаў Васілю Мізгіру некалькі коп грошай (1 капа — 60 грошай). Каб Жук хутчэй аддаў пазыку, Мізгір забраў яго дачку Дароту ў свой маёнтак. Жук паскардзіўся князю Мархелю Юндзілу. А той 9 жніўня 1560 года напаў на сядзібу Васіля Мізгіра, і пасля невялікай бойкі вызваліў Дароту і адвёў яе бацьку.



## Даўгавая турма

Хведар Мізгір пазычыў у Васіля і Арцёма Мялешак каля 1000 коп грошай і не вярнуў. За гэта ён разам з сынам Васілём трапіў у вязніцу Мялешак у маёнтку Дзявяткавічы. 25 студзеня 1566 года Мізгіры ўцяклі з вязніцы. Пры пабегу збілі двух цівуноў-вартаўнікоў. Забралі з каморы цівуна шмат коп грошай і схаваліся ў баярына Матфея Мізгіра. Потым было пагадзіліся на тым, што Хведар пасяляецца ў Бусяцкім маёнтку Настассі Мялешкі і абавязуецца выплачваць свае даўгі. Аднак Хведар Мізгір нічога не выплаціў і збег ад сваёй новай гаспадыні невядома куды, пра што сведчыць запіс у судовых актах.

## Будаўніцтва царквы

Недзе ў прамежку паміж 1630 і 1650 гг. жыхары в. Мізгіры на могілках пабудавалі драўляны Крыжаўзвіжанскі храм. Адна з легенд гаворыць пра тое, што мясцовыя жыхары доўга не маглі выбраць месца пад будоўлю. Калі царкву вырашылі будаваць недалёка ад вёскі Грынкоўшчына, куды нават былі завезены будаўнічыя матэрыялы, пастаўлены крыж і першапачаткова асвечана месца падмурка, то на тэрыторыі сучасных могілак на дрэве з'явіўся цудоўны крыж, ад якога сыходзіла ззянне. Вядома, што царкву вырашылі будаваць менавіта на гэтым месцы. Спрыялі пабудове гэтага драўлянага храма цесляры і сталяры Карповічы. Адразу пасля пабудовы Крыжаўзвіжанская царква стала уніяцкай.

## Цэнтр паломніцтва

Да цудатворнага крыжа ў вёсцы Мізгіры прыходзілі людзі з розных мясцін. Крыж заўсёды знаходзіўся ў алтары і выносіўся з храма рэдка. На свята Узвіжання Крыжа Гасподняга ля храма і ў яго ваколіцах збіралася да 7 тысяч паломнікаў. Расказваюць, што сюды прыязджалі манахі з розных манастыроў, а гродзенскія і беластоцкія манашкі ішлі пешшу.

## Новы храм

На архірэйскую службу ў дзень Крыжаўзвіжання адбываўся чын Узвіжання Крыжа, вельмі запамінальны і велічны. У храм прыязджала 13 святароў, якія ў час абраду тройчы падымалі настаяцеля царквы на руках са спевамі: "Крыжу Тваіму, пакланяемся, Уладыка! Святое васкрэсенне тваё славім!" І нахілялі яго на чатыры бакі, а ён трымаў у руках крыж. Прыхаджане былі ў захапленні. На жаль, усе вернікі ў Крыжаўзвіжанскім храме не змяшчаліся. Гэта і стала падставай для таго, што тутэйшыя жыхары вырашылі пабудаваць новую, больш прасторную царкву. Петра-Паўлаўскі храм паўстаў у 1882 годзе (1886?) з цэглы па праекце гродзенскага губернскага архітэктара Міхайлоўскага, і з'яўляецца помнікам архітэктуры рэтраспектыўна-рускага стылю.

## Другое жыццё

Крыжаўзвіжанскі храм прастаяў да 1963 года, пакуль яго не разабралі. Кажуць, царкоўны зруб быў настолькі смалісты, а драўніна захавалася так добра, што яе выкарыстралі на пабудову прышкольнага інтэрната. Багадзельня таксама была разабрана, а з яе дрэва ў Навадзявяткавічах пабудавалі бальніцу. Цікава: дрэва, спілаванае амаль 400 гадоў таму, не спарахнела і не страціла сваіх будаўнічых якасцей.

Мураваная Петра-Паўлаўская царква пры савецкай уладзе была закрыта і доўгі час выкарыстоўвалася пад склад. Толькі ў 1988 годзе богаслужэнні тут аднавіліся.

Ігар ПРАКОФ'ЕЎ

На здымку: Петра-Паўлаўская царква ў в. Мізгіры.

Фота Сяргея Макарэвіча



## Гусіным пяром

**Сяргей ПРЫЁМКА нарадзіўся ў Мінску ў 1959 годзе. Вершы пісаць пачаў толькі чатыры гады таму. І вось — першы паэтычны зборнік.**



# «Непрадказальным быць заўжды»

Калі бярэш у рукі першы вершаваны зборнік, інтуітыўна пачынаеш настройвацца на метафарычнае адкрыццё, на эмацыянальны ўздым, на неардынарнае вобразнае мысленне. На жаль, рэдка такое здараецца. У мяне ў хатняй бібліятэцы не менш, як пяць дзесяткаў першых паэтычных кніжак, і толькі пяць-шэсць з іх апраўдалі мае чытацкія спадзяванні. Гэта дэбютныя зборнікі М. Купрэева, А. Сербантовіча, А. Разанава, Я. Янішчыц, У. Някляева, А. Мінкіна, А. Сыса, С. Адамовіча...

З цяперашнімі маладымі мне ўвогуле цяжка паразумецца. Папершае, у іх кніжная (школьная, універсітэцкая) стэрыльная мова, прагматычная метафорыка і вобразнасць, інстынктыўныя пасылы для напісання. Іх чалавечы вопыт звужаны і штучны. Свобода для іх не дадзенасць, а дамаганне. Пагадзіцеся, натуральнае жыццё ў прыродзе непараўнальнае з існаваннем у запаведніку ці заапарку. Агулам, сёння для высокага мастацтва паэтам не стае глыбокіх пакут творчасці. Слова апусцілася з Нябёс на зямлю.

Хіба такім словам настаўлялі праведнікі і прарокі?

Я мог бы працытаваць з Хадановіча, Прылуцкага, Марцісевіч, Рыжкова шмат выбітных, на слых, перлаў, але заганных пры іх бліжэйшым разглядзе.

Ды навошта, яны вядомыя і папулярныя сярод сучасай моладзі. У іх свае прынцыпы і стымулы жыцця. Я іх не даганяю. І гэта мае праблемы. Аднак штосьці падказвае мне, што ў сваёй паспешлівасці быць першымі яны даходзяць да краю... А "мне туда не надо", як спяваў У. Высоцкі. І меў рацыю.

Цікава, што ў такім каматозным стане беларускай мовы лік яе першаправаднікоў у народ не змяншаецца. Прычым гарадскіх і, у прыватнасці, сталічных па сваім нараджэнні паэтаў і версіфікатараў усё больш і больш. Зрэшты, а хто ў той правінцыі цяпер застаецца? Вёску трэба засяляць філолагамі, каб вырошчваць натуральнае і запатрабаванае беларускае слова. Кажу амаль без іроніі. І такая рэклама была б там да месца: "Думай пасвойму і гавары сваё".

Такую запеўку выклікаў нядаўна патрапіўшы да мяне зборнік вершаў паўвекавога Сяргея Прыёмкі "Смяюся, нібы плачу". Назва беларуская па ментальнасці. І не толькі назва, але і змест. Як ні дзіўна, Сяргей Васільевіч мінчанін, што яшчэ цікавей, вершы пачаў пісаць толькі чатыры гады таму. Быў бы знаёмы, абавязкова запытаўся б, з якой прычыны. З гаўбца зваліўся, ці што?! А можа, прабачаюся, каханне... Ды ці мала што можа падвесці пяцідзесяцігадовага чалавека да гільяціны Паэзіі. Справа, як кажуць, прыватная, хоць і на чытача разлічаная. А галоўнае, каб было што чытаць. Тады, мажліва, знойдзецца і каму...

С. Прыёмка неблагі лірык. Як для пяцігадовага паэтычнага стажу, дык на старонках не дужа важкага па аб'ёме зборніка можна знайсці строфы даволі прыстойнага ўзроўню. Скажам, такія:

> Пунсовыя вяргіні,
> Вышэйшыя за плот,
> Галовы нахілілі,
> Здзіўляючы народ.
> Удалеч углядаюцца
> Вялікімі вачыма,
> Што побач адбываецца,
> Цікавяцца, магчыма.

Справа не ў вартасці версіфікацыі С. Прыёмкі, а ў самім пожадзе яе. Пытанні як бы простыя, а вось адказы — складаныя. Аднак душэўныя пачуцці, навеяныя пэўным роздумам, і рэфлексіі здзіўлення ад нечаканага сузірання тых ці іншых з'яў і рэчаў у прыродзе нярэдка робяцца прадметам самой паэзіі. Думаю, і гэтыя строфы можна аднесці да адносных удач С. Прыёмкі:

> Зіма ізноў раптоўна
> Прыйшла у горад наш,
> Адбеленая воўна
> Расце як на дражджах.
> На ўзгорачках пярэстых
> Накінулі хусціны
> Сапраўдныя нявесты
> Бярозы ды яліны.
> У зацішку надворка,
> Упершыню за год,
> Спачыць прылеглі зоркі
> На паркалёвы лёд.

Зборнік падзелены на некалькі асобных раздзелаў: "Замалёўкі", "Грамадзянскія вершы", "Лірычныя вершы", "Жартачкі" і "Вершы для дзяцей". Найбольш удалыя спробы знаходзяцца сярод замалёвак, грамадзянскіх і лірычных вершаў. Грамадзянская тэматыка выяўляе аўтара як чалавека нацыянальна свядомага, з гістарычнай і родавай памяццю. Мінулае ў яго не страчвае сваёй гераічнасці за тэрмінам даўнасці.

> Пад Грунвальдам
> ад крыжакоў
> Абаранілі дом бацькоў.
> Амаль ужо шэсцьсот гадоў
> Мінула з той пары,
> А заклік продкаў-ваяроў
> Шануюць спадары:
> "Літва з харугвамі "Пагоня"
> нікому не саступіць гоні.
> Адзінае, што знойдзе тут
> Ахвотнік да чужых пакут, —
> Дзірван на могілках
> заўчасных.
> А наш нацыянальны сцяг
> Працягне пераможны шлях
> Да Незалежнасці і шчасця!"

Ды і сам Сяргей Прыёмка ідэнтыфікуе сябе як крывічабеларуса. Яго духоўны свет роўнаважлікі свету сваёй Айчыны. Ён не выдае сябе ні за меншага, ні за старэйшага брата, а сваю Белую Русь за сястру-паланянку. Гонар і годнасць – пашпарт Ягамосці. Таму не зусім зразумела, якім чынам верш "Малітва беларуса" змешчаны аўтарам у раздзеле "Жартачкі". Ці гэта такая своеасаблівая творчая арыгінальнасць?

> Барані нас, Божа,
> Лезці у аброжак
> Рускамоўнай плыні,
> Бо Айчына згіне.
> Дай нам, Божа, сілы
> Аб'яднаць крупіны
> Пераможных дзеяў
> У адну ідэю.
> Дай нам, Божа, розум
> Продкаў пачуць позыў
> Хеўры не баяцца
> І людзьмі ўсім звацца.
> Дай жа, Божа, згоду
> Усяму народу
> Харасто убачыць
> У бацькоўскай хаце.
> І няхай нам Божа
> Словам дапаможа
> З лепшае нагоды
> Здолець перашкоды.

І ці не з гэтага (арыгінальнага) парадку адзіны (!) выдрукаваны верш на рускай мове, які называецца "Иллюзии" (?!) Нельга ў дадзеным выпадку не пагадзіцца з аўтарам:

> ...Но стоит пробудиться вдруг,
> Как тает наслажденья круг –
> Реалии не так прекрасны,
> Больше запутаны и страстны.

А следам не прамінае заўважыць, што, прынамсі, для яго:

> Матчына мова
> ад нараджэння
> Дае накірунак
> твайго прызначэння.
> Быць роўным
> у спісе народаў Сусвету,
> Каб продкаў сляды
> не схаваліся ў Лету.

І ўслед яшчэ колькі павучальных слоў ад старога "мэтра". Ну, напісаў аўтар гэтыя вершы і выдаў іх кніжачкай. Пэўна, за ўласныя, з цяжкасцю сабраныя, грошы. І гэта, як для мяне, шчыра скажу, з'яўляецца актам Беларушчыны. Учынкам душэўнага самаспальвання дзеля высокай агульнанацыянальнай ідэі. Можа, хто і пасміхнецца з маіх напышлівых слоў, але гэтак моўлю, як пра сваё думаючы. Дарэчы, ведаючы стасункі ў нашых рознавектарных літаратурных і адраджэнскіх згуртаваннях і сябрынах, як правіла, даводзіцца сустракацца з вымольваннем гранта ці дапамогі альбо грамадскай матэрыяльнай падтрымкі дзеля выдання той ці іншай кніжкі таго ці іншага пісьменніка (паэта, крытыка, філосафа) той ці іншай адоранасці і вядомасці... Такіх свядомых і самастратных не так многа. У іх не такі выбітны талент, але і апломб куды меншы.

А ўсё ж, што ні кажыце, а сама асобнікаў гэтага зборніка хоць палова ды будзе з удзячнасцю прачытана, і думаю, у тым ліку нечакана апынецца паратройка людзей, якія дагэтуль былі далёкія ад беларушчыны і беларускай літаратуры. Чаму б і не. Кропля камень точыць. А ў нашай незайздроснай сітуацыі кожная такая кропля — як жыватворная для адраджэння і далейшага захавання нацыянальнага жыцця. Гэтыя словы напісаны мной для апраўдання самога выдавецкага пасылу С. Прыёмкі, а не яго паэтычнага, пакуль не надта важкага, плёну.

Да прыкладу, страфа, якую я ніжэй працытую, хоць і патрабуе больш гранёнай апрацоўкі (асабліва гэта тычыцца апошняга радка), усё адно мае нязломна аптымістычны змест:

> Я – беларус. Мая Радзіма,
> Спазнаўшы гора ліхалецця,
> Заўжды ўзнаўлялася надзва
> Будоўлямі на грудах смецця.

Хочацца верыць, што ў падтэксце верша на ўвазе маецца і "архітэктура духу". Вядома, нацыянальнага. Сяргей Прыёмка па пашпарце і жыхарстве мінчанін, але па характары сваёй творчасці — правінцыял і традыцыяналіст. Ёсць, праўда, "байка-казка" ў раздзеле "вершы дзецям", якая называецца "Менеск... Менск", дзе падаецца аблегчаная і трохі суб'ектыўная гісторыя нашай сталіцы, але гэта выпадковая і абсалютна не урбаністычная згадка-прывязка да гарадского месца пражывання аўтара. Па ўсім відаць, і вызначэнне творчасць у адносінах да версіфікацыі С. Прыёмкі гучыць залішне прэтэнцыёзна, таму назавём яго іншым, не нашым словам хобі. Калі казаць наўпрост і ставіцца да аўтара зарыфмаваных тэкстаў па гамбургскім рахунку, дык у зборніку даволі шмат розных моўных і літаратурных хібаў. Сучасны правапіс аўтар нярэдка падстройвае пад свой густ і тэрміновую метрычную запатрабаванасць. Таму на вочы чытача вылазяць розныя абласныя дыялектныя слоўцы і выразы. Паэтычная ж мова патрабуе класічнай чысціні і гарманічнага ўпарадкавання. Мяркую, да выхаду на "творчую працу" (маю на ўвазе пенсію) С. Прыёмка ўсё штучнае прывядзе ў норму. Безумоўна, не ў тую кандовую норму, пасля якой паэзія страчваецца. Зрэшты, можа здарыцца і так, як у адным з вершаў аўтара, дзе ён выдаў такі вершаваны афарызм:

> Прыемна,
> зблытаўшы гады,
> Непрадказальным
> быць заўжды.

Чаго, як пішуць, аўтару і жадаю. З павагай —

ЛеГАЛ



# «Калыска мая залатая…»

Сапраўдны гімн сваёй Радзіме праспяваў выдатны сучасны паэт Беларусі Міхась Пазнякоў. Цыкл цудоўных вершаў прысвяціў ён роднай вёсцы Забродддзе, што на Быхаўшчыне. Паэт называе яе сваёй залатой калыскай, крыніцай жывога святла, выказвае вялікую любоў да яе. Ён спяшаецца сюды, каб наталіць сэрца звонам росаў, "схіліцца перад матчынай магілай і пакланіцца рупным землякам".

> Любоўю сваёй ахінаю,
> Жывi! Не знікай! — заклікаю,
> Бо стану і я нелюдзімы
> Без любай, чароўнай радзімы.
> ("Радзіма, мілая радзіма...")

Менавіта гэтае жывое святло і выпраменьвае аўтар на родныя мясціны, адкуль пайшоў у вялікае жыццё, на герояў сваіх твораў — родных і блізкіх людзей. Асабліва ж шчымлівыя, сардэчныя радкі прысвечаны маці, пра якую паэт піша ў многіх сваіх творах, якой прысвяціў песню "Да матулі..."

Як падкрэслівае паэт, "І чалавека, гэтак жа, як дрэва, // Трымаюць, жывяць, гояць карані..." Таму і ўдзячны роднай вёсцы Забродддзе:

> За пяшчоту, спагаду, любоў,
> Што я ў сэрца ўбіраў
> на прыродзе —
> Між радзімых палёў і лугоў.
> ("Развітанне з роднай вёскай")

Тут, на радзіме, паэт навучыўся бачыць прыгажосць, дарыць людзям святло і радасць. Таму і не дзіўна, што творы прасякнуты менавіта гэтымі пачуццямі, якія хвалююць, бяруць у палон чытача. Да таго ж мова гэтых твораў надзвычай вобразная, напеўная, якая зачароўвае і дае сапраўдную асалоду.

Размова ідзе пра вершы, якія ўключаны ў новую кнігу лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Петруся Броўкі Міхася Пазнякова "Святое правіла", якая выйшла ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Творы напісаны ў апошнія пятнаццаць год. У іх — роздум пра наш час, любоў да Радзімы, бацькоўскага краю. Аўтар ганарыцца сваёй краінай, яе людзьмі і справамі:

> Узіраюся ў сонечны дзень
> Працавітай маёй Беларусі
> І штораз, як нічым і нідзе,
> Светлым імем яе ганаруся.
> ("Беларусі")

Прычым любоў да Радзімы ў паэта не абстрактная:

> Ты — матуля мая, Беларусь.
> Мая хата ніколі не з краю,
> Узрастае клапот тваіх груз,
> Я таксама плячо падстаўляю...

Творы Міхася Пазнякова гучаць па-грамадзянску ўсхвалявана і шчыра. Паэт услаўляе высокія духоўныя каштоўнасці, верыць у лепшае, упэўнена глядзіць у будучыню. Такія вершы склалі два раздзелы: "Светлым імем тваім ганаруся..." і "Тварыце, людзі, на зямлі дабро..."

Творы іншых раздзелаў кнігі "І светлы сум працуў мяне...", "І будзе зноў гаіць вясна..." — паэт прысвяціў жанчыне, цудоўным імгненням жыцця. Аўтар прытрымліваецца свайго святога правіла — ствараць прыгажосць, дарыць святло і радасць людзям.

У новай кнізе Міхася Пазнякова змешчаны і літаратурныя пароды на творы сучасных паэтаў, байкі, гумарыстычныя вершы, эпіграмы.

Міхась КАВАЛЁЎ



Часам кажуць, што акварэль — не вельмі прыкметны жанр выяўленчага мастацтва. Але гэтае стандартнае меркаванне абвяргае вядомая ў Беларусі і за яе межамі так званая Віцебская школа акварэлі. Магілёўскі мастак Фёдар Кісялёў актыўна сцвярджае важкасць акварэлі. У Горацкай карцінная галерэі прадстаўлена каля 30 твораў акварэльнага жывапісу, якія мастак падараваў жыхарам раённага цэнтра.



# Далікатны від мастацтва





Кожная работа экспазіцыі захапляе асаблівай выразнасцю. Але ж аблічча свету ў яго творах далёкае ад звычайнага адлюстравання. Спрадвечна знаёмыя відарысы Прыдняпроўскага краю, Паазер'я адлюстраваны велічна і лірычна, узнёсла і ўтульна, манументальна і сціпла. Краявіды паўстаюць па-філасофску-лірычнымі баладамі пра лёс Радзімы і чалавека.

Фёдар Стэфанавіч — акварэліст па прызванні. Не толькі таму, што акварэлі прысвяціў шмат гадоў. Ён акварэліст па сваім светаўспрыманні, па сваім памкненні бачыць свет новым, чыстым і прыгожым.

Вадзяныя плямы нястрымана бягуць, зліваюцца між сабой, утвараючы незвычайныя формы, танюткія, амаль няўлоўныя адценні колераў. Самаактыўнасці акварэлі нельга пярэчыць, можна толькі тактоўна наладзіць яе развіццё ў патрэбным кірунку. Інакш засохнуць самыя каштоўныя яе якасці: лёгкасць і свежасць выявы, непасрэднасць матэрыялізаваных пачуццяў.

Не будзе перабольшваннем сказаць, што на сённяшні дзень Фёдар Кісялёў — адзін з вядучых майстроў акварэльнага пейзажа ў Беларусі. Асноўны сюжэтна-тэматычны кірунак яго творчасці вызначаюць лірычныя вобразы роднага краю. Ландшафтныя матывы Падняпроўя і Паазер'я часта можна ўбачыць у работах мастака. Яны ўвабралі ў сябе эпічнае гучанне, заваражваючы гледача мяккім, складаным каларытам і самакаштоўнасцю акварэльных эфектаў.

Але яго мастацкія інтарэсы не абмяжоўваюцца толькі беларускімі краявідамі. З імкненнем да пазнання свету і сябе ў ім Ф. Кісялёў падарожнічаў па Карэліі, Сібіры, Закарпацці, Паўночным Каўказе і Заходняй Еўропе. Віртуозныя тэхнічныя прыёмы пісьма, засвоеныя майстрам (вольныя расцёкі фарбы, размывы, змыўкі), удала выяўляюць экзатычны характар горных масіваў ("Карэлія", "Карпаты. Гара Гаврэла"). Жанравае адзінства твораў мастака вельмі ўзбагачаецца за кошт разнастайнасці сюжэта. Звяртаюць на сябе ўвагу манументальнасцю кампазіцый работы, прысвечаныя гістарычна-архітэктурным помнікам Беларусі. Сярод іх "Смаляны. Белы Ковель", "Брама Нясвіжскага замка". Ён дбае пра духоўнае ўзыходжанне чалавека, пачынаючы з чыстых крыніц роднага краю, з мілых сэрцу куточкаў Бацькаўшчыны.

Шчымлівы твор "Бабіна лета" навеяны ўспамінамі пра вясковае дзяцінства, якое ў Фёдара Кісялёва прайшло ў Клімавіцкім раёне Магілёўскай вобласці. Мастак успрымае жыццё ва ўсёй яго разнастайнасці, таму натуральна, што і тэмы Чарнобыльскай трагедыі і экалагічнай небяспекі не маглі не крануць яго чулае сэрца. Сімвалічнасцю выяў, спалучэннем дакладна знойдзенай рытмічнай арганізацыяй кампазіцыі вылучаюцца з агульнага шэрага акварэлі "317 дом вёскі Вепрын", "Чудзянскае поле".

Мастак выкарыстоўвае розныя сродкі. Мяккі, нюансавы каларыт імпульсуе складанымі адценнямі. Хвалюючы эмацыйныя ўсплёскі: у фарбах, у драматычных сілуэтах дрэў, праменевых плямах. Кампазіцыйная пабудова кранае сваёй меладычнасцю: баладную веліч творам Фёдара Стэфанавіча надае наўмысна нізкае неба. Уражвае, як мастак віртуозна валодае разнастайнымі акварэльнымі прыёмамі. Але гэта не адзіная ўмова стварэння ў работах жывасці. Фёдар Кісялёў не проста назіральнік з'яў быцця, ён шчыра дзеліцца творчай апантанасцю. Не летуценнямі ды марамі, а тым светаразуменнем, якое асоба набывае толькі з цягам часу, калі зведае радасці і непазбежныя пакуты лёсу.

Віктар КАВАЛЁЎ

На здымках: будынак Горацкай карціннай галерэі; работы Фёдара Кісялёва.

Фота аўтара

## У наступным нумары

Сярод больш як 9 тысяч публічных і спецыяльных кніжных скарбніц Беларусі Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага вядомая сваімі унікальнейшымі праектамі. Тут ініцыіравалі і працягваюць рэалізацыю праграмы "Берасцейскія кнігазборы" на 2009 — 2012 гг." — праграмы па збіранні і вяртанні на радзіму багацейшых старажытных кніжных калекцый вядомых магнацкіх родаў. Адзін з кірункаў такіх даследаванняў — стварэнне інфармацыйнай дакументальнай падставы для адкрыцця ў Брэсце Цэнтра вывучэння спадчыны рода Сапегаў. Пра тое, як адкрываюць для нашчадкаў багатую беларускую гісторыю, пра цікавейшыя міжнародныя праекты кніжнай скарбніцы — тэматычны разварот, прысвечаны 70-годдзю бібліятэкі.

З глыбінкі

# І дыпломы, і прэміі

Ва Уздзенскай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбылося ўшанаванне пераможцаў раённага творчага конкурсу "Родная зямля". Яго арганізатарамі былі, акрамя бібліятэкі, рэдакцыя раённай газеты "Чырвоная зорка" і раённае літаб'яднанне "Нёманец". На працягу года на старонках "раёнкі" друкаваліся вершы, замалёўкі, эсэ, песні, творы іншых жанраў. І вось журы назвала пераможцаў. Дыпломамі лаўрэатаў і грашовымі прэміямі адзначаны работы загадчыцы Цялякаўскага клуба Алы Шыбко, студэнткі БДПУ імя М. Танка Вольгі Трыгубовіч, работніка філіяла аўтапарка № 15 Мікалая Галавенчыка і пенсіянеркі з вёскі Магільна Галіны Нічыпаровіч.

Падобныя конкурсы на Уздзеншчыне праводзяцца на працягу апошніх 15 гадоў. Іх ініцыятарамі часцей з'яўляюцца мясцовае літаб'яднанне, бібліятэка, рэдакцыя раённай газеты. Тэмы конкурсаў самыя розныя.

Кожны конкурс адкрывае новыя імёны таленавітых землякоў, а вядомыя ўжо чытачу творцы імкнуцца ўдасканальваць сваё майстэрства, дасылаюць на разгляд журы свае лепшыя вершы, празаічныя творы. Так багатая на літаратурныя традыцыі творчая скарбонка Уздзеншчыны папаўняецца новымі здабыткамі. Пераможцамі конкурсаў апошняга дзесяцігоддзя станавіліся журналісты Віктар Кіслы, Віктар Сабалеўскі, педагогі Зінаіда Жукоўская, Алёна Казнадзей, Мікалай Кароль, Павел Махнач, Наталля Вайцяховіч, спецыялісты ідэалагічнага аддзела райвыканкама Надзея Баршчун, бібліятэкар Людміла Астравух, школьнікі Таццяна Корбут, Ліза Ліпай, Дзмітрый Федчанка, Юлія Кошалева, Хрысціна Карпучык, удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны Васіль Гурскі, Уладзімір Звярынскі, пенсіянеры Валянціна Мыслівец, Таццяна Гурская, Дзмітрый Вінаградаў, Мікалай Старавераў, Тамара Серая, банкаўскі работнік Тамара Каляда, супрацоўніца цэнтра гігіены і эпідэміялогіі Ірына Урублеўская і іншыя.

Сяргей ВАСІЛЬЧУК

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі"
РВУ "Літаратура і Мастацтва"

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнеце: www.lim.by

Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3199
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 21.01.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 232
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686